9 — 10 (76)

# Крыніца

2002

**Літаратурна-культаралагічны часопіс**

*Выдаецца са студзеня 1988 года*

**Заснавальнікі:**
Міністэрства інфармацыі РБ
і Саюз беларускіх пісьменнікаў



Выдаецца на беларускай мове.
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца.
Пераносы асобных слоў зроблены
паводле магчымасцей камп'ютэра.

*Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года*

**Пішыце:**
**220005, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 39**
**Звaніце:**
**288-24-61, 284-85-24, 284-41-88**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў Фармат 60х84 1/16
Папера афсетная № 1. Гарнітура "Peterburg". Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 12,09. Ул. выд. арк. 10,8. Тыраж 577 экз. Зак. 2077.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**"Літаратура і мастацтва". Мінск**



# Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь

**Словы** Міхася КЛІМКОВІЧА,
Уладзіміра КАРЫЗНЫ
**Музыка** Несцера САКАЛОЎСКАГА

Мы, беларусы — мірныя людзі,
Сэрцам адданыя роднай зямлі,
Шчыра сябруем, сілы гартуем
Мы ў працавітай, вольнай сям'і.

Слаўся, зямлі нашай светлае імя,
Слаўся, народаў братэрскі саюз!
Наша любімая маці-Радзіма,
Вечна жыві і квітней, Беларусь!

Разам з братамі мужна вякамі
Мы баранілі родны парог,
У бітвах за волю, бітвах за долю
Свой здабывалі сцяг перамог!

Слаўся, зямлі нашай светлае імя,
Слаўся, народаў братэрскі саюз!
Наша любімая маці-Радзіма,
Вечна жыві і квітней, Беларусь!

Дружба народаў — сіла народаў —
Наш запаветны, сонечны шлях.
Горда ж узвіся ў ясныя высі,
Сцяг пераможны — радасці сцяг!

Слаўся, зямлі нашай светлае імя,
Слаўся, народаў братэрскі саюз!
Наша любімая маці-Радзіма,
Вечна жыві і квітней, Беларусь!

Урачыста, велічна

Хор

Ф-п.

*mf*

Мы, бе_ ла_ ру_ сы – мір_ ны_ я лю_ дзі,

*f*

сэр_ цам ад_ да_ ны_ я род_ най зям_ лі, шчы_ ра сяб_

_ру_ ем, сі_ лы гар_ ту_ ем мы ў пра_ца_ ві_ тай,

Прыпеў:

воль_ най сям'_ і. Слаў_ ся, зям_ лі на_шай свет_ ла_ е



і_ мя, слаў_ ся, на_ ро_ даў бра_ тэр_ скі са_ юз!

*f*

1.

На_ ша лю_ бі_ ма_ я ма_ ці - Ра_ дзі_ ма, веч_ на жы_

2.

_ві і квіт_ ней, Бе_ ла_ русь! // веч_ на жы_ ві і квіт_

Для заканчэння

rit.

*ff*

_ней, Бе_ ла_ русь! // веч_ на жы_ ві і квіт_ ней, Бе_ ла_ русь!

**Раздзел I**

# XXI СТАГОДДЗЕ — БЕЛАРУСКІ ПРАЕКТ



Нацыянальная бібліятэка Беларусі



*Слова "projectus" перакладаецца з латыні як задума, кінутая наперад. Наколькі ж сёння мы можам абстрагавацца ад паўсядзённага і будзённага? Каб быць здольнымі сканцэнтравацца на тых рэчах, якія будуць запатрабаванымі не толькі нашымі дзецьмі, але ўнукамі і праўнукамі.*

*Адсутнасць такой здольнасці народная прымаўка тлумачыць досыць проста: "не бачыць далей свайго носа". Колькі нашых сучаснікаў грашаць гэтым!*

*Але, на шчасце, пачатак гэтага стагоддзя, як і папярэднія, не абдзелены людзьмі, якія мысляць на перспектыву. Яны працуюць у самых розных галінах, і іхнія дасягненні, на самай справе, не вымераць у звыклых апошнім часам доларах. Хоць бы таму, што шчыруюць яны дзеля сваёй краіны — па яе заказу і дзеля яе росквіту.*

*Прызнацца, аўтар гэтых радкоў нямала вагалася перад тым, як рашыцца пісаць у рубрыку пад такой маналітнай назвай: "XXI стагоддзе — Беларускі праект". Нам, выхаваным на публіцыстыцы другой паловы 80-х ды празваным "дзецьмі перабудовы", куды больш прывычна адшукваць і выкрываць нешта негатыўнае, адмоўнае. І ўсё таму, што апавядаць пра штосьці станоўчае ў краіне рынкавых адносін стала азначаць падстаўляць самога сябе пад "абстрэл" рэкламных аддзелаў і падатковых інспекцый. За ўсё, што чорнае — ганарары, за ўсё, што белае — хай плоціць той, пра каго размова. І скупіцца друкаванае слова на маральнае заахвочванне, без якога немагчыма пераемнасць лепшага і перадавога, а значыць, рух у бок не дэградацыі, а дасканаласці.*

*У новай рубрыцы мы паспрабуем данесці да чытача факты, якія не маюць на сабе ценю змрочнасці, бо пераносяць нас у тую самую перспектыву. Напрыклад, пра будаўніцтва новай Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі або Мінскай кальцавой дарогі, або пра навуковае адкрыццё...*

*Мы маем намер шукаць і знаходзіць такія адрасы, у тым ліку з дапамогай нашых чытачоў. Бо немагчыма жыць далей у няведанні пра тое, што будзе ў нашай краіне заўтра, пасля нас, — за што скажуць нам нашчадкі "дзякуй", а не толькі папракнуць ды паўшчуваюць.*

# ХРАМ ВЕДАЎ — У БРЫЛЬЯНЦЕ

У прыгожае хочацца верыць, аб прыгожым хочацца марыць, прыгожым хочацца карыстацца. А што, калі гэтая прыгажосць — Храм ведаў у выглядзе брыльянта? Менавіта так будзе выглядаць новая Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Вакол яе ходзяць легенды, на яе будаўніцтва вядзецца збор ахвяраванняў, гэтак жа, як на праваслаўныя, каталіцкія і іншыя храмы, — здавён у нас існавала павага, трапяткія адносіны да кніг і ведаў.

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка з дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Г.А. Алейнік, архітэктарамі М.К. Вінаградавым і В.У. Крамарэнка.***






Прэзідэнтам краіны падпісаны Указ, згодна з якім будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі лічыцца важнейшай дзяржаўнай і агульнанароднай будоўляй 2002 — 2005 гг. Палову сродкаў ад агульнага кошту на гэты аб'ект запланавана выдзеліць з рэспубліканскага бюджэту. Іншыя расходы па частках ускладзены на Мінскі гарвыканкам і аблвыканкамы.

Паводле слоў дырэктара дзеючай сёння Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Галіны Алейнік, праблема нашага Храма ведаў — не новая для аналагічных бібліятэк свету. Яна — у недахопе плошчаў і ідэальных умоў для захоўвання друкаваных выданняў. Балазе насуперак прагнозам, паток друкаваных выданняў нікольki не змяншаецца, а, наадварот, няспынна расце. Асабліва вострай выглядае праблема захоўвання кніг, якія друкаваліся з сярэдзіны XIX ст. на паперы з драўлянай масы. Старадаўнія кнігі, надрукаваныя на пергаменце, захоўваюцца лепш. За апошняе дзесяцігоддзе пад пагрозай струхлення апынуліся каля 40 працэнтаў кніг у буйнейшых зборах США, звыш 600 тысяч кніг Нацыянальнай бібліятэкі Францыі, у крытычны стан трапілі 1,6 мільёна кніг у Брытанскай бібліятэцы.

Адсюль і імкненне да праектавання кніжных сховішчаў, якія ўражваюць сваімі памерамі. Новая Нацыянальная бібліятэка ў Парыжы ўяўляе сабой чатыры вежы, кожная з якіх мае вышыню 300 футаў (1 фут = 30,5 см). Новая Александрыйская бібліятэка нагадвае нахілены да мора дыск дыяметрам 160 метраў, адзін бок якога ўпіраецца ў зямлю, а другі ўздымаецца на вышыню 35 метраў.

***Хіба ў цеснаце — не ў крыўдзе?***



Па праекце беларускіх архітэктараў Віктара Крамарэнкі і Міхаіла Вінаградава — дарэчы, адным з дзецішчаў якіх, новым чыгуначным вакзалам у Мінску, мы можам ужо захапляцца і ганарыцца — наша Нацыянальная бібліятэка



***Віктар Крамарэнка:***

*— Новая Нацыянальная бібліятэка Беларусі — вельмі складаны аб'ект. І для нас, архітэктараў, і для будаўнікоў, і для дзяржавы. Адно, што вельмі дарагі — коштам у 100 мільёнаў долараў з улікам 25 працэнтаў эканоміі. Другое, мы павінны выканаць яго ў рэкордна кароткі тэрмін — да 2005 года. Гэта воля Прэзідэнта.*

*Без народнай падтрымкі, без дапамогі прадпрыемстваў узвесці такую бібліятэку будзе вельмі складана. Да яе будаўніцтва людзі павінны спрычыніцца як да будаўніцтва Храмаў.*

*Увогуле мы павінны ганарыцца лепшымі будынкамі, помнікамі архітэктуры. Наша гісторыя была бязлітаснай да іх, і сёння, каб запоўніць гэты вакуум, трэба не шкадаваць сіл і сродкаў для ўзвядзення новых унікальных будынкаў, на якія б з зайздрасцю пазіралі тыя ж іншаземцы.*

не саступіць лепшым кнігасховішчам свету. На яе плошчах у 85 тыс. кв.м і ў аб'ёме 330 тыс. куб.м будуць захоўвацца 14 мільёнаў выданняў. Невыпадкова дваццаціпяціпавярховае збудаванне задумана ў выглядзе каштоўнага каменя — ён сімвалізуе веды чалавека.

Акрамя таго, сама па сабе канструкцыя ў форме брыльянта з'яўляецца вельмі моцнай і трывалай. Хоць, згадзіцеся, вельмі нязвыклай. "Брыльянтавае" кнігасховішча размесціцца, нібы на пастаменце, на трохпавярховым стылабаце. На кожным з паверхаў апошняга — чытальныя залы на 2000 месцаў з выхадам ва ўтульны сад. Размесцяцца тут і трэнажорная зала, і буфеты на 200 — 300 месцаў кожны.

У гэтым жа аб'ёме прадугледжаны шматлікія памяшканні для абслугоўвання наведвальнікаў — вестыбюлі, гардэробы, камеры захоўвання рэчаў, кіёскі для продажу кніг, інфармацыйная зона кансультанта, рэгістратура, кантрольны пункт за несанкцыянаваным вынасам літаратуры, канферэнц-зала з эстрадай і радыёвузлом, пяць кабін для сінхроннага перакладу, два пакоі для гуртковай работы, музей кнігі, выставачная зала, зала электроннага каталога з аўтаматызаванымі месцамі, Інтэрнэт-клас, залы



***Міхаіл Вінаградаў:***

*— Конкурс на лепшы праект Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі быў аб'яўлены ў апошні год існавання СССР. У ім удзельнічалі лепшыя архітэктары краіны. На сёння ў нас за плячыма два этапы — перамога ва ўсесаюзным конкурсе і стварэнне эскізнага праекта. Дзякуючы таму, што нам дазволілі працаваць у невялікіх творчых майстэрнях так, як гэта практыкуецца ва ўсім свеце, мы ўжо прыступілі да трэцяга этапа — стварэння архітэктурнага праекта, стадыі, якая папярэднічае самому будаўніцтву.*



для работы з рэфератыўнымі дакументамі. Прытым два залы на 400 месцаў будуць адведзены менавіта для студэнтаў, тры залы на 190 месцаў — для навуковых супрацоўнікаў, чытальная зала на 400 месцаў — для дыпломнікаў і адна асобная зала — для дактарантаў. А таксама залы для чытання часопісаў і газет, работы з электроннымі носьбітамі, для гукавога праслухоўвання, фотаздымкаў і інш.

І калі сёння Нацыянальная бібліятэка Беларусі частку кніг захоўвае ў іншых бібліятэках горада, што крыху замаруджвае дастаўку інфармацыі чытачу, то ў новым будынку літаральна любое выданне будзе дастаўляцца на стол чытача па гібкіх тэлеліфтах ў лічаныя хвіліны.

Паверхня "брыльянта" святлоадлюстравальная — залацістая, у якой "гуляюць" пейзаж, сонца, неба... Ні на макеце, ні нават на камп'ютэры перадаць гэта немагчыма. За ёй — дзве абалонкі ў выглядзе тэрмаса, паміж якімі праходзіць калідор. Тэрмасная тэхналогія дазволіць стварыць неабходны для кніг тэрмасна-вільготны рэжым. Спецыяльнае кандыцыяніраванне паветра будзе падтрымлівацца сучаснымі электроннымі сродкамі.

Уражвае колькасць і разнастайнасць аддзелаў — сусветнай літаратуры, рукапісаў і рэдкіх кніг, выяўленчага мастацтва, нотных выданняў, апрацоўкі і рэдагавання дакументаў, індэксавання дакументаў, абменна-рэзервовых



***Галіна Алейнік:***

*— У 1989 годзе на конкурснай аснове быў прыняты праект новага комплексу Бібліятэкі, у 1992 г. — выкананы эскізны праект, які быў пакладзены на паліцу ажно на восем гадоў. І гэта ў той час, калі яшчэ ў 80-я гг. адным з асноўных фактараў, што стрымліваў развіццё Бібліятэкі, быў востры недахоп плошчаў. У канцы 90-х гадоў сітуацыя ўскладнілася вялікай запатрабаванасцю Бібліятэкі ў адукацыйных і навуковых мэтах. Ідэя будаўніцтва новай Нацыянальнай бібліятэкі была падтрымана ў 2001 годзе Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкам. 7 сакавіка 2002 г. ім быў падпісаны Указ “Аб будаўніцтве будынка дзяржаўнай установы “Нацыянальная бібліятэка Беларусі”.*

фондаў, бібліятэказнаўства, бібліятэчнай рэкламы, кансервацыі і рэстаўрацыі, мікрафотакапіравання і інш. Не дзіва, што штат супрацоўнікаў бібліятэкі дасягне тысячы чалавек.

Міжволі задумаешся: як зможа такі вялікі калектыў, уласна кажучы, пракарміць сябе? Такая праблема не ўзята са столі — з’яўляецца галаўным болем ці не ўсіх бібліятэк свету. Таму што ні ў Еўропе, ні ў Амерыцы няма цяпер тых мецэнатаў, якія лічылі задавальненнем укладваць грошы ў збіранне кніг. І Храмы ведаў, парушаючы прынцып бясплатнага доступу да бібліятэчнай інфармацыі, не ад добрага жыцця бяруць плату са сваіх “кліентаў”. Вось пару цікавых прыкладаў. Калі Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы спатрэбілася 307 мільёнаў долараў, каб выкараскацца з нішчымніцы, яе адміністрацыя на працягу пяці гадоў брала плату з бізнесменаў за магчымасць пасядзець на званым абедзе за адным сталом з літаратурнымі і іншымі славутасцямі. А Брытанская бібліятэка распрацавала праект “Усынаві кнігу” і за плату (200 фунтаў стэрлінгаў = 316 долараў) давала бібліяфілам у карыстанне кнігі, якія прыйшоў час рэстаўрыраваць. Такім чынам на апошніх з’явіліся аўтографы фінансавых магнатаў.

Наша Нацыянальная бібліятэка таксама не стаіць на месцы. Яшчэ нейкі дзесятак гадоў таму тут трэба было доўга корпацца ў папяровых каталогах, запаўняць карткі, канспектаваць, праседжваючы ў чытальных залах ажно да 21-й гадзіны — моманту закрыцця бібліятэкі. Сёння тут няма праблем перакінуць патрэбную інфармацыю на дыскету, зрабіць ксеракопію, набраць і адрэдагаваць тэкст і інш. Да шэрагу дадатковых паслуг адносяцца электронныя базы даных па эканоміцы, нацыянальных дакументах, рэдкіх кнігах. Так бібліятэка зарабляе сабе на канцтавары, расходныя матэрыялы, паперу для друкавання бібліяграфічных матэрыялаў. Вымагаюць жа пэўных затрат і дзве сотні камп’ютэраў. Таму ўпарціцца наконт таго, каб выключыць з Храма ведаў нейкія крыніцы самафінансавання, не атрымліваецца. Хутчэй за ўсё іх пабольшае — і зноў жа, зыходзячы з міжнароднага вопыту.

Многіх сёння цікавіць месца размяшчэння новай Нацыянальнай бібліятэкі. Яна паўстане не дзе-небудзь наводшыбе, а на праспекце Скарыны, побач са станцыяй метро “Усход”.

***Дабрачынны рахунак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — у філіяле 525 АСБ “Беларусбанка” 3625000000038, код банка 122.***

**Тамара МАЗУР**

(Працяг тэмы на стар. 145.)

Раздзел II

# ПРЫГОЖАЕ ПІСЬМЕНСТВА





# *Гуло, віравала свята ў Міры!*

Ідэя Дня беларускага пісьменства ўзнікла на хвалі нацыянальнага адраджэння дзевяць гадоў таму. Спярша былі Полацк, Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск, Заслаўе, Мсціслаў і сёлета — Мір. Россып дыяментаў! Што ні назва — жывы подых гісторыі...

Асноўныя падзеі свята разгарнуліся, вядома, ля мураваных сцен Мірскага замка. Гуло, віравала людское мора. Дзесяткі тысяч гасцей і ўдзельнікаў. Прыехалі прэм'ер-міністр краіны Генадзь Навіцкі,

***Палаца-замкавы комплекс у Міры ў 2001 годзе ўнесены ў Спіс сусветна-гістарычнай спадчыны ЮНЕСКА.***











***Напамін пра XIV стагоддзе, калі крыжакі на чале з грасмайстрам Конрадам фон Юнінгенам здратавалі паселішча Мір. Высокія вежы замка бачылі не адну зваду і бойку — бітвы з палякамі, шведамі, французамі. Падчас Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія акупанты размясцілі ў замку канцлагер і гета. Было... І не ўсё яшчэ з вадой сплыло. Гістарычная памяць народа застаецца назаўжды.***

---

⇐ *Хто сказаў, што беларусы змарнелі душою і думаюць толькі пра хлеб надзённы?*

⇐ *Як не ўспомніць Някрасава ў арыгінале: “Коня на скаку остановит, в горящую избу войдет...”*



***Не круг ганчарны атуляе рукамі дзяўчынка, а... зямны шар з яго азярынамі, кветкамі і, зразумела ж, замкамі.***

Старшыня Савета Рэспублікі Аляксандр Вайтовіч, міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны, міністр культуры Леанід Гуляка, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса і іншыя афіцыйныя асобы.

Прысутнічаў на свяце і выступіў з палымяна-ўзнёслым зваротам Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі, які прыбыў сюды, каб сустрэць навукова-духоўную экспедыцыю “Дарога да святыняў”.

Цяпер — пра само Пісьменства. Зараз на Беларусі працуюць 10 дзяржаўных выдавецтваў, зарэгістравана звыш 500 прыватных выдавецтваў. Дзейнічае 805 газет і 420 часопісаў.

У 2001 годзе выдадзены 7 944 назвы кніжнай прадукцыі агульным



***Беларусачкі. На прыступках часу.***



тыражом 50,01 млн. экэмпляраў. На беларускай мове ўбачылі свет 822 кнігі і брашуры тыражом 6,52 млн. экзэмпляраў. І што важна, назіраецца тэндэнцыя да павялічэння беларускамоўных друкаў.

Зараз дамо слова аднаму з гаспадароў Мірскага свята старшыні Гродзенскага аблвыканкама У.Я. Саўчанку:

— Чым жа адметная карэліцкая і мірская зямля? Гэта край з багатым гістарычным мінулым. Першы ўспамін аб Карэлічах і Міры ў летапісах адносіцца да 1395 года. Пад аховай дзяржавы на тэрыторыі раёна знаходзіцца 98 помнікаў гісторыі і культуры, з іх — на месцах пахавання воінаў, партызан і падпольшчыкаў, 20 — архітэктуры, 7 — археалогіі.



*Капліца-пахавальніца ўладальнікаў замка князёў Святаполк-Мірскіх.*

Гэтая зямля прыцягвае і тым, што тут нарадзіліся Ян Чачот — беларуска-польскі паэт і фальклярыст, Ігнат Дамейка — вучоны, заснавальнік вышэйшай школы ў Чылі, першы рэктар універсітэта ў Санцьяга, палітычны дзеяч, нацыянальны герой Чылі, ён ураджэнец вёскі Мядвядка, што побач з Мірам, вучоны-асветнік Барыс Кіт.

Самым цесным чынам з раёнам звязана творчасць вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча. У яго вершах апеты возера Свіцязь, вёскі Варонча, Цырын, Плужыны.

У Міры Уладзіслаў Сыракомля напісаў свой знакаміты верш “Ямшчык”.





*Маўклівы вартаўнік, які бачыць і запамінае ўсё.*

Тут выраслі народны артыст СССР Аляксандр Ільінскі, пісьменнікі Янка Брыль, Аляксандр Мілюць, Раман Тармола, Вольга Іпатава, Алесь Бажко, Уладзімір Калеснік. Карэліччына — радзіма беларускага Шаляпіна — Пятра Конюха.

Ураджэнец раёна Герой Савецкага Саюза Уладзімір Зянонавіч Царук у гады вайны быў камандзірам Стаўбцоўска-Мірскага партызанскага злучэння.

У раёне жыў і працаваў Павел Арсенцьевіч Жалезняковіч. Яго імем названы калгас.

Карэліцкая зямля ўзгадавала 8 Герояў Сацыялістычнай Працы. Гэта Ева Раманаўна Карачан, Аляксандр Міхайлавіч Мокат, Таццяна Рыгораўна Арда, Тамара Уладзіміраўна Чубрык, Вольга Лукінічна Калоша, Надзея Сцяпанаўна Трускоўская, Яфім Іванавіч Фаменка, Яўгенія Іосіфаўна Юшко. Больш 1000 чалавек узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Сапраўдная гісторыя паўстае тады, калі ні адно звяно з яе не выпадае...

# Адданасць



*Яго радкі — шляхі народнай долі,*
*Нікому не прадаць іх, не купіць.*
*Як не хапае нам ягонай волі,*
*Ягоных новых рыфмаў-бліскавіц!..*



# ЧЫТАЮЧЫ І ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ ДЗЁННІКІ МАКСІМА ТАНКА

17 верасня — дзень нараджэння Максіма Танка, з першых гадоў сваёй творчасці сапраўднага народнага паэта, а заадно, непахіснага змагара за права беларусаў самім гаспадарыць на сваёй зямлі. У гэтым змаганні выкарыстоўваў ён такую магутную зброю, як вострае і непадкупнае мастацкае слова, якое заўсёды знаходзіла дарогу да простых людзей зямлі беларускай, да бяспраўных працаўнікоў сяла. 90 гадоў прайшло з таго дня, калі ён пабачыў свет. 7 гадоў таму пайшоў ён ад нас, але ў нашай свядомасці заняў такое месца, быццам ад нас нікуды не адлучаўся.

Небывалыя выпрабаванні выпалі на долю Максіма Танка, пачынаючы з дзіцячых гадоў, гадоў бежанства, калі ў час першай сусветнай вайны лёс пагнаў сям'ю ў Расію, дзе не было ні надзейнага кавалка хлеба, ні свайго прыстанішча. Пра лёс бежанцаў той пары можна сёння прачытаць у кнізе "Бежанства", апублікаванай у Беластоку ў 2000 годзе.

У 30-я і ваенныя 40-я гады хапіла новых выпрабаванняў. Аднак лёс збярог Максіма Танка для службы народу, беларушчыне, для памнажэння здабыткаў і здзяйсненняў роднай культуры і ўсяго таго, чым ён так праславіў сябе.

Яшчэ ў далёкі даверасьнёўскі час да зацікаўленых чытачоў маіх гадоў на Беласточчыну траплялі не толькі польскі маладзёжны двухтыднёвік "Полымя" ("Płomyk"), вострая апазіцыйная газета "Dziennik Popularny" (1936 — 1937 гг.), забароненая ўладамі за ідэйную накіраванасць, польскія кніжачкі серыі "Універсум", прысвечаныя жыццю і дзейнасці найбольш славутых дзеячаў той эпохі, у прыватнасці, Леніна, Сталіна, Троцкага, Гітлера (кніжачка называлася "Гітлер, падпальшчык Еўропы"), Мата Гары, Аль Капонэ і іншых, але і беларускі часопіс "Калосьсе". Тут упершыню можна было сустрэцца з творамі і партрэтамі Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка і іншых нашых пісьменнікаў. І асабліва прыцягваў да сябе Максім Танк, бо пісаў ён пра тое, што бачылася і адчувалася кожны дзень, прытым на мове, якая амаль не адрознівалася ад нашай гутарковай. Праўда,

і руская літаратурная мова, перш за ўсё для старэйшых людзей, была блізкай — зберагаліся ў нас творы рускіх пісьменнікаў, камплекты перыядычных выданняў, такіх, як "Пробуждение", "Нива", "Сын Отечества". Рускія песні гучалі на вёсцы ўсюды, былі і тагачасныя рускія выданні, у тым ліку адрыўныя календары і так званыя "флірты". Але беларуская паэзія ўсё больш вызначалася вельмі блізкай, даступнай формай і такім знаёмым зместам. Мабыць, таму яна была ўсё больш свойскай, заманлівай. І неяк так атрымалася, што ў свядомасці чытача Максім Танк станавіўся асабліва блізкім, сваім. Разам з ім прыцягвалі да сябе ўвагу і Купала, і Колас, і Багушэвіч. Так было калісьці.

Для нашага сённяшняга чытача вялікай падзеяй з'явілася публікацыя ў часопісе "Полымя" ў 1996 (№№ 9 — 12) і ў 1997 (№№ 1 — 12) гадах "Дзённікаў" Максіма Танка. Яны прыцягваюць увагу чытача тымі рэальнымі — хоць месцамі і скупымі па зразумелых прычынах — звесткамі пра яго лёс у эпоху, небывала багатую гістарычнымі катаклізмамі, пра яго клопаты і турботы, пра падарожжы і сустрэчы, пра падзеі ў літаратурным жыцці краіны і шматлікія іншыя справы. Дзякуючы "Дзённікам" ён стаў непараўнальна больш блізкім нашым чытачам і перш за ўсё тым, хто сустракаўся з ім, дзяліўся сваімі думкамі і перажываннямі. "Дзённікі" раскрываюць яго душу, характар, погляды, паказваюць сувязі з такімі бурнымі падзеямі, якія давялося перажываць шматлікім пакаленням у XX стагоддзі. І часта вельмі своеасабліва адгукаюцца ў свядомасці чытача, паварушваюць нейкія струны душы. Прывяду адзін толькі прыклад.

У пачатку "Дзённікаў" ёсць, у прыватнасці, такі запіс: "Нападзенне Германіі не магло быць неспадзяваным, калі нат пісьменнікі з Польшчы, якія абасналіся ў Беластоку, гаварылі, што ў пісьмах з Варшавы, з Лодзі сваякі іх папярэджваюць: "Хаім, гэтымі днямі збіраецца да цябе прыехаць цесць, з якім ты не ўжывешся", "Дора, мы — бацька і маці — раім табе выехаць куды далей ад нашага цяперашняга суседа".

Дні тыя моцна ўрэзаліся і ў маю памяць. У чэрвені 1941 года я закончыў дзесяцігодку ў Свіслачы тагачаснай Беластоцкай вобласці (сёння — гэта Гродзенская вобласць). 19 чэрвеня наш струнны гурток ад'язджаў у Беласток на абласную алімпіяду мастацкай самадзейнасці. Кіраваў гуртком вучань 9 класа Лейба Фарбер. Сам ён іграў на мандаліне так, што нават міфалагічны Арфей мог бы яму пазайздросціць. Такой ігры я потым у жыцці не чуў ні па радыё, ні ў канцэртных залах, ні ў грамафонных ці магнітафонных запісах. З алімпіяды мы павінны былі вяртацца 22 чэрвеня. Паўтараю, што гэта быў 1941 год. І калі мы ў Свіслачы селі ў машыну, адзін наш аднакласнік па прозвішчы Ватнік пажадаў нам на дарогу: "Вы толькі бомб нямецкіх з сабой не прывязіце!"



Да пачатку вайны заставалася ўсяго толькі 8 дзён! Былі і іншыя прыкметы набліжэння буры, якая грымнула 22 чэрвеня. Праўда, сёння можна прызнаць, што падзеі вайны не так ужо многа займаюць месца ў запісах.

У асноўным, кожнае слова ў "Дзённіках" узважана. І тым не менш месцамі Максім Танк дазваляў сабе такія выказванні, ад якіх яму не паздаровілася, калі б з імі пазнаёміліся адпаведныя зацікаўленыя ведамствы. Так можна сказаць пра некаторыя характарыстыкі асаблівасцей літаратурнага працэсу колішняй эпохі. 28 снежня 1941 года Максім Танк запісаў: "Усё часцей думаю аб шляхах развіцця нашай паэзіі. Ніяк яна не можа выйсці за традыцыйныя свае рамкі. Мне здаецца, гэта адчувае і Пімен. А пакуль што і я, як і ўсе, патанаю ў пустазвонстве". У 1942 годзе, 8 чэрвеня, зноў запісалася нешта падобнае: "Часта задумваюся, ці можна будзе калі напісаць усю праўду пра нашы бурныя часы і падзеі (...). Апошнімі часамі на многае гляджу іншымі вачамі". Падобныя думкі прабіваюцца ў "Дзённіках" не аднойчы. І як надзённа для ўсіх эпох гучаць яго словы: "...пісьменнікі павінны баяцца аднаго — няпраўды, сляпой апалагетыкі ўсякай рэчаіснасці". (20 мая 1946 года.) Забаўным тут з'яўляецца тое, што Максім Танк спрабаваў пераканаць у гэтым А. Кучара.

"Дзённікі" засведчылі вялікую эрудыцыю аўтара, яго грунтоўнае веданне сусветнай гісторыі і літаратуры. У іх мы знаходзім вельмі багата спасылак на літаратараў і грамадска-палітычных дзеячаў не толькі тагачаснай эпохі, але і далёкай мінуўшчыны — антычнага свету, Сярэднявечча, Рэнесанса і больш блізкіх да нашага часу стагоддзяў. І тут не толькі тыя звесткі, што падаюцца нам у падручніках або ў іншых дастаткова пашыраных крыніцах, але і такія, якія не да кожнага чытача сёння маглі б трапіць. Не пакіне абыякавым чытача, напрыклад, такая інфармацыя: "Несусветную бязглуздзіцу прачытаў у польскім філасофскім слоўніку, што кібернетыка — антынавука, "паўстала яна ў ЗША, накіраваная супроць Савецкага Саюза". Да чаго ж мы часта спяшаемся са сваімі непрадуманымі ацэнкамі і вывадамі!"

Звесткі пра кібернетыку як "антынавуку" прыдумалі не польскія аўтары. "Краткий философский словарь" (Масква, 1954) паведамляў: "Кибернетика — реакционная лженаука, возникшая в США после второй мировой войны (...). Кибернетика ярко выражает одну из основных черт буржуазного мировоззрения — его бесчеловечность, стремление превратить трудящихся в придаток машины, в орудие производства и орудие войны (...). Поджигатели новой мировой войны используют кибернетику в своих грязных практических делах. Под прикрытием пропаганды кибернетики в странах империализма происходит привлечение ученых самых различных специальностей для разработки новых приемов массового истребления людей — электронного, телемеханического, автоматического оружия (...). Кибернетика является,

таким образом, не только идеологическим оружием империалистической реакции, но и средством осуществления ее агрессивных военных планов". Так сказана ў чацвёртым выданні кнігі, выпушчаным у свет паўтарамільённым тыражом.

Адзначаючы ў сваіх "Дзённіках" нейкія падзеі, сам Максім Танк не заўсёды мог уяўляць іх рэальнае значэнне. Вось канкрэтны прыклад. 20.III.1960 года ён запісаў: "Шамякін, Брыль, Бачыла і я ездзілі на літаратурныя вечары ў Карэліцкі раён. Неспадзявана сустрэў хлопцаў з Кальчыц, дзе ў 1932 — 1933 гг. працаваў у падполлі, і гаспадара канцавой хаты Карлюка, у якой была наша яўка, праводзіліся партыйныя нарады і я не раз знаходзіў прытулак".

Пра тагачасныя сустрэчы Максіма Танка з Фёдарам Карлюком ведала польская паліцыя. Вось што паведамлялі паліцэйскія агенты: "Дня 14 мая адбылася сустрэча пасланца Яўгенія Скурко (дзеяча КПЗБ з тэрыторыі Віленскага ваяводства) з Фёдарам Карлюком у вёсцы Кальчыцы, гміна Шчорсы Навагрудскага павета. Прыбылы з Вільна хацеў, каб Карлюк скантактаваў яго з сакратаром АК, але сустрэча не адбылася, таму што ў той самы дзень, як паведаміў Карлюк, сакратар знаходзіўся на раённай канферэнцыі ў Карэлічах". "Інфармуючы прыбылога з Вільна пасланца, Ф. Карлюк падаў вядомыя падрабязнасці дзейнасці і затрымання інструктара "Паўла" (...), адзначаючы, што ў сувязі з правалам "Паўла" падазраецца ў правакацыі нейкі маладзёжны сакратар, якога "ведае Скурко". У час далейшай гутаркі Карлюк характарызаваў апошнія арышты, падкрэсліваючы, што паліцыя, як відаць, мае дакладныя звесткі пра кожнага дзеяча". Некалькі раней пра таго ж Карлюка была змешчана шматзначная інфармацыя: "Дня 12 мая пры пасрэдніцтве Фёдара Карлюка з вёскі Кальчыцы адбылася сустрэча інфарматара з дзеячам, прозвішча якога невядома". І далей паведамляецца пра змест іх гутаркі і пра тыя мерапрыемствы, якія плануецца ажыццявіць. (Дакументы захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, ф. 1, вопіс 9, справа 2486, арк. 33 — гэта была інфармацыя навагрудскага ваяводы Міністэрству ўнутраных спраў Польшчы аб дзейнасці КПЗБ у Навагрудскім ваяводстве.) Калі я пазнаёміў у пачатку 90-х гадоў Максіма Танка з гэтымі дакументамі, то ён зрабіў вывад, што сам Карлюк супрацоўнічаў з паліцыяй, якая атрымлівала ад яго агентурныя звесткі пра дзеячаў камуністычнага падполля.

Неаднаразова ў "Дзённіках" сустракаюцца цытаты з твораў рускіх або польскіх паэтаў. Пад датай 11 красавіка 1952 года мы знаёмімся з вельмі цікавымі разважаннямі: "Чытаю вершы, якія паступаюць у рэдакцыю. Рыторыка і прыгожаапісанне для падняцця духа не пакідаюць нас. А да ўсяго — яшчэ і дакучлівае маралізатарства. Паэт павінен мець адвагу гаварыць народу не толькі прыемныя рэчы ("Ты и могучая...", "Прощай, немытая Россия", "Polsko, pawiem narodyw bylas". "Polsko, twoja zguba w Rzymie"). Мы знаем, як пісаць вершы для цытат, толькі ўсё яшчэ не знаем, як пісаць вершы, каб яны жылі і заўтра.

Праўда, ва ўсім гэтым вінаваты не толькі паэты, але і наша бяззубая, бесхрыбетная крытыка і яе хросныя бацькі. І як тут не прыгадаць скаргі Эразма Ратэрдамскага: "Але калі б меў столькі вуснаў, колькі зор мігціць на маўклівым фірмаменце ў ціхую ноч, або так шмат, як пялёстак, якія лагодна вясенні вецер асыпае на зямлю, не змог бы выказаць жалю на розныя злыбеды, ад прыгнёту якіх у наш час церпіць святое мастацтва паэзіі".

"Polsko! (...) Pawiem narodyw bylas i papuga" ("Польшча! (...) Ты была паўлінам народаў і папугаем". Ю. Славацкі. Падарожжа да Святой Зямлі з Неапаля, песня VIII — Магіла Агамемнана.) "O Polsko! (...) twa zguba w Rzymie!" ("О, Польшча! (...) твая гібель у Рыме!" Ю. Славацкі. Бянёўскі, песня I.)

Тут аўтар "Дзённікаў" замахнуўся на асноўныя патрабаванні літаратуры сацыялістычнага рэалізму, на прынцып партыйнасці літаратуры. І гэта адбылося ў 1952 годзе, прытым не першы і не апошні раз.

Яшчэ больш арыгінальная цытата з'явілася 28 красавіка 1984 года: "Вечарам зноў падняўся ціск. Відаць, позна ўзяўся за рамонт свайго здароўя. І мо не варта было "браць па Бэкварку лютню"..."

Максім Танк тут выкарыстаў цытату з заключнага радка сатырычнага верша Яна Каханоўскага "Пра гаспадыню". У творы апавядаецца, як адзін пан настойліва дамагаўся чагосьці ад знаёмай дамы. Каб пазбавіцца надакучлівых залётаў, яна адправіла яго ў лазню са сваім мужам. І толькі тут ён зразумеў усю недарэчнасць сваіх намаганняў. Ён пераканаўся, што патрабаваць таго, чаго ён хацеў, гэта тое самае, што "браць па Бэкварку лютню". Бэкварк Валенты (сапраўднае прозвішча Грэфф Валенты, 1507 — 1576) — кампазітар, славуты майстар ігры на лютні, фаварыт караля Жыгімонта II Аўгуста. У кантэксце верша Яна Каханоўскага "браць па Бэкварку лютню" — значыць, брацца за безнадзейную справу, бо з ім ніхто зраўняцца або спаборнічаць не здолеў бы. "Па Бэкварку" — значыць, "пасля Бэкварка".

Тая ж самая цытата была выкарыстана і ў сатырычным вершы Тадэвуша Боя-Жаленскага "Пра тое, што ў Польшчы гісторык мець павінен". Кракаўская Акадэмія ведаў (Akademia Umiejetnosci), прысуджаючы прэміі за найлепшыя навуковыя працы, не ўлічыла дасягненняў прафесара Ашкеназі толькі з прычыны яго "брыдкага веравызнання", гэта значыць, таму, што ён

яўрэй. Прафесар Ашкеназі зрабіў вывад, што Акадэмія разглядала не кнігі кандыдатаў, а нешта іншае. Бой Жаленскі ў сваім вершы перадаў гісторыю абмеркавання заслуг прэтэндэнтаў па-свойму. Удзельнікаў конкурсу адправілі ў лазню. І тут высветлілася, што ў аднаго з прэтэндэнтаў не ўсё ў парадку, не так, як у іншых. І таму ён не заслугоўвае прэміі. І гэты твор канчаецца заключнымі радкамі верша Яна Каханоўскага.

З 1977 года мы жылі з Максімам Танкам у адным доме. Часта даводзілася сустракацца з паэтам, гутарыць пра ўсё, што магло хваляваць і яго і мяне. Неаднаразова бываў я ў яго. След гэтых сустрэч застаўся на тытульнай старонцы "Збору твораў" Максіма Танка, дзе ён пакінуў надпіс: *"Дарагому Уладзіміру Міхайлавічу Казберуку на добры ўспамін аб нашых шматлікіх сустрэчах, незабыўных бяседах аб нашых творчых справах і жыццёвых клопатах. З найлепшымі пажаданнямі. Максім Танк. Мінск, 5.V.1994 г."*

У гутарках згадвалася прозвішча Леаніда Аляксандравіча Барысаглебскага. Яно трапіла і ў "Дзённікі". Даведаўшыся, што яны ў свой час жылі на адной кватэры, я папрасіў Леаніда Аляксандравіча напісаць свае ўспаміны пра той перыяд. І вось што ён змог паведаміць: "На жаль, памяць у мяне вельмі аслабла, і таму ўспаміны аб ім значна скарочаны. (...) Я пазнаёміўся з Танкам у верасні 1931 года, калі я пражываў з маім калегам па Наваградскай беларускай гімназіі Вярбіцкім Аляксандрам на кватэры ў доме Асаевічаў на вул. Буковай, д. № 14, у Вільні (мы былі студэнтамі Віленскага універсітэта Стэфана Баторага). Я з Аляксандрам размясціліся ў адным з пакояў дома Асаевічаў, а Танк са сваімі сябрамі — Гарохам і яшчэ адным (прозвішча яго не памятаю) — у другім пакоі. З Танкам я часта іграў у шахматы. Тады я пазнаёміўся з Любай — будучай жонкай Танка, з яе сястрою Соняй і іх бацькамі Асаевічамі.

Пражываў я на Буковай да канца 1931/32 навучальнага года, а потым перасяліўся. Сустракаўся з Танкам вельмі рэдка. Праз некалькі гадоў у час выпадковай сустрэчы з Соняй Асаевіч я даведаўся, што яна выйшла замуж за паляка Яна Блятона, родны брат якога — дацэнт Віленскага універсітэта — быў кіраўніком маёй дыпломнай работы. Тэматыка гэтай работы аказалася настолькі для мяне важнай, што і ў сваёй доктарскай дысертацыі я яе выкарыстаў. (...) У 1938 г. за прасавецкую прапаганду польскія ўлады забаранілі мне пражываць у ваяводствах, якія граніцаць з Савецкім Саюзам. І я выехаў у Варшаву. На жаль, як у Вільні, так і ў Варшаве работы я не атрымаў.

У Варшаве я пражываў разам з Радзюком Пятром Данілавічам, таксама адміністратыўна пакараным, як і я. Радзюк некаторы час у турме на Лукішках прабываў разам з Танкам. На пачатку нямецка-польскай вайны, 7 верасня, я і Радзюк пакінулі Варшаву і пехатой дабраліся — я да Навагрудка, а ён да Вільні. У Навагрудку я працаваў настаўнікам да жніўня 1944 года. Адначасова быў членам падпольнай "Антыфашысцкай групы Таўлая" і сувязным партызанскага атрада імя Катоўскага брыгады імя Дзяржынскага. З'яўляюся ветэранам Вялікай Айчыннай вайны.

У жніўні 1944 г. я паступіў на работу ў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У.І. Леніна, дзе і працую да цяперашняга часу — амаль 52 гады. З Танкам я сустрэўся ў 1945 г. У пэўны час я наведваў яго і яго жонку Любу даволі часта. Потым з прычыны нашай вялікай занятасці — вельмі рэдка. Апошні раз быў у яго на кватэры ў 1992 г., калі ён адзначаў у дамашнім "крузе" сваё 80-годдзе. Разам са мною была Марцыёнка Ганна Сцяпанаўна.

Успаміны аб ім у мяне самыя найлепшыя. Ён быў вельмі добрым і справядлівым чалавекам. Спачуваў у горы і памагаў, як толькі мог, усім людзям, каторых лёс несправядліва скрыўдзіў. Ён, напрыклад, памог збавіцца Радзюку Пятру ад турмы, калі яго арыштавалі супрацоўнікі КДБ у 1944 годзе ў Вільні. З Радзюком, які жыве ў Польшчы (у Шчэціне), я перапісваюся ўжо дзесяткі гадоў, і ён не адзін раз перадаваў праз мяне прывітанні і падзяку Танку.

(...) У заканчэнне сваіх успамінаў хачу яшчэ напісаць наступнае. Мне прыходзілася ездзіць у Польшчу ад БДУ у навуковыя камандзіроўкі. Па просьбе Любы — жонкі Танка — я 3 разы наведаў у Варшаве сястру яе — Соню Блятон. Адзін раз мне прыйшлося пераначаваць у Блятонаў.

Я вельмі перажываў з прычыны смерці Танка і яго жонкі Любы. Памяць аб іх назаўсёды засталася ў маім сэрцы. Л.Барысаглебскі".

Барысаглебскі Леанід Аляксандравіч (нар. у 1912 г.) — беларускі фізік-тэарэтык, прафесар БДУ (з 1944 г.), аўтар навуковых прац па квантавай механіцы, атамнай і ядзернай фізіцы.

Аўтары публікацыі "Дзённікаў" у часопісе "Полымя" мелі ў сваім распараджэнні 21 сшытак аўтографаў Максіма Танка. Усе сшыткі пранумараваны самім паэтам, але апошнім аказаўся нумар 22. І сярод папер Максіма Танка мне ўдалося знайсці сшытак пад нумарам 21. Ён ахоплівае падзеі з 20 ліпеня па 19 жніўня 1989 года, але быў адкінуты самім аўтарам, які паасобныя мясціны ў ім павыкрэсліваў. Праўда, асноўная частка інфармацыі з яго трапіла ў іншы сшытак. Як быццам бы ўсё ясна і прычын для нейкіх хваляванняў быць не павінна. Але тут нечакана ўзнікла адна істотная праблема. У новым сшытку дні і месяцы засталіся тыя ж самыя і толькі замест 1989 з'явіўся 1990 год. А такое не ўсюды магло аказацца апраўданым.

У чыставым сшытку № 20 на старонцы 40 ёсць такая інфармацыя:

“Будучы ў Слабадзе, даведаўся аб смерці майго хросніка Язэпа Скурко, члена нашага СП, аўтара тэкстаў многіх папулярных песень. Што магло з ім здарыцца? Нейкая загадкавая смерць. Тыдзень таму мы яшчэ з ім гутарылі ў СП”. Запіс датуецца 29 ліпеня 1990 года. А ў чарнавым сшытку (№ 21) на стар. 11 мы чытаем: “Учора, калі спыніліся ў Слабадзе каля хаты Зініных бацькоў, даведаўся аб смерці майго хросніка Іосіфа Скурко, члена нашага СП, аўтара тэкстаў многіх песень. Што магло з ім здарыцца? Нейкая загадкавая смерць. Знайшлі яго без дакументаў. Тыдзень пратрымалі ў моргу, пакуль удакладнілі хто. Перад ад’ездам — помню — сустрэліся з ім каля СП. Я яшчэ пацікавіўся: што ў яго добрага чуваць, над чым працуе?” І тут мы бачым дату 29.VII., толькі папярэдняга, 1989 года. На самай справе Іосіф Скурко памёр 2 ліпеня 1989 года. Такім вось чынам адкідаць чарнавік нам не выпадае.

Сам Максім Танк ведаў, што ў яго “Дзённіках” могуць сустракацца недакладнасці з датамі, якія трэба выправіць. Але ён не быў упэўнены, ці паспее гэта зрабіць. А са сшыткам № 21 варта сёння пазнаёміцца нашым чытачам.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**



# *«Мы набліжаемся да вельмі цяжкіх і вырашальных падзей...»*

**22.VII.** Цэлы дзень не знаходзіў сабе месца. Вечарам ездзілі ў Зяленкі за малаком. Аршалунь Маргаран прыслала свой зборнік вершаў «Сады Арташата». Пачаў чытаць. Выдатныя вершы. Мне здаецца, чым багацейшая спадчына культурная, тым больш яна аказвае ўплыў на сучаснасць.

**23.VII.** Дзень пачаў з карэктуры ўчарашняга верша. Выпраўляў, перакрэсліваў і зноў выпраўляў. Трэба пагартаць газеты. У краіне надзвычай трывожнае становішча. Працягваецца ланцуговая рэакцыя дэмантажу эканомікі. І як з ёй справіцца? Аварыі, стыхійныя бедствы, забастоўкі, крывавыя сутычкі і яўныя дыверсіі — не спыняюцца ўжо на працягу некалькіх год. А да ўсяго — і разброд ідэалагічны. Усё гэта падрывае веру ў партыю і ў перабудову, з чаго карыстаюцца розныя спекулянты і экстрэмісты.

А верш, здаецца, стаў лепшы.

Горш за ўсё, што гэтыя дні чуюся вельмі дрэнна. Трэба будзе параіцца з Аркадзем Паўлавічам, што рабіць. Мо прыдзецца зноў ехаць у Вільнюс. Нешта пачалі ныць грудзі. Змерылі ціск (у Лыньковых ёсць такі аппарат). Ціск нармальны (80 — 170), толькі частыя перабоі пульса. Слабасць і нейкая беспрасветная нуда. Сёння, праўда, крызісны дзень для сардэчнікаў.

Прачытаў у «За рубежом» цікавую нататку пра астму, смертнасць ад якой у ЗША павялічылася ў два разы. Сімптомы гэтай хваробы, адчуваю, і ў мяне. Толькі чаму дактары не звярталі ўвагу, калі я скардзіўся ім на дыхавіцу. І ўжо даўно. А гэтыя дні не знаходжу ад яе ратунку. Раней хоць пад вечар станавілася лягчэй.

Чытаю прывезеныя газеты і часопісы.

Слухаў М. Гарбачова. Баюся, што мы набліжаемся да вельмі цяжкіх і вырашальных падзей і выпрабаванняў для ўсіх народаў нашай краіны. Назад няма дарогі, а наперад — усё ўскладняецца. Пакуль што прасвету не відаць. Забастоўка шахцёраў паставіла краіну на грані катастрофы.

Тут на дачы багата польскіх кніг. Нат знайшоў даваенны зборнік Ю. Пшыбося «Sruby», праўда, у такім знішчаным стане, што і ўратаваць нельга.

Помню, доўга я да гэтай паэзіі не мог падабраць ключа, нельга было без разбегу пераскочыць мне адлегласць, якая тады аддзяляла беларускую паэзію ад Пшыбосяўскай, авангардысцкай.

**24.VII.** Званіў Максім. Лякарствы, якія раіў прымаць да свайго прыезду Аркадзій Паўлавіч, Оля дастала ў нарачанскай аптэцы. А прыедзе ён заўтра. Так не хацелася б пакідаць Нарач, бо, можа, апошняе маё лета, ды і Любашы хоць крыху трэба памагчы ў яе дамашніх клапотах, хоць вядро вады прынесці. Зараз добра памагае Оля.

Якая стаіць цішыня! Зноў вяртаюся да ўчарашняга выступлення М. Гарбачова, якое мяне ўстрывожыла і такім цяжарам лягло на сэрца. Не знаю, як хто, а я не магу зразумець, што ў нас адбываецца. Пакуль мы навучымся дэмакратыі, можа быць шмат крыві і ахвяр. Пакуль што ідзе дэмантаж ранейшага ўкладу жыцця, партыі, паглыбляецца крызіс у эканоміцы і ідэалагічны разброд. Усе зараз патрабуюць: дай, дай, дай! А адкуль узяць? Абагатваралі масы, на чале якіх часта бачым розных прахадзімцаў, якія зараз адкрыта заклікаюць да пагромаў, да расправы над усімі, хто не з імі. «Кто не с нами, тот — наш враг, тот — должен пасть». Былі ж такія песні і ў нас калісьці!

Заходзіла Бажэнава. Пагаварылі пра сённяшнія трывожныя падзеі на свеце. Купіла яна для нас у рэстаране пару мясных кансерваў і для Любашы кофе. Хоць будзе заўтра чым пачаставаць маіх гасцей.

Шмат дзяцей ты ўзгадавала,
Зямля — наша маці,
Толькі ніхто цябе так
Не спустошыў, прызнацца,
Як чалавек. Часам
Аж цяжка паверыць,
Што і ён — сын твой,
А не пякельны прышэлец.

22.VI.89

**25.VII.** Усталі з Любашай рана. У 6:30 павінен быў выступаць нейкі лекар ад усіх хвароб, у тым ліку — і ад сардэчных. Але, чамусьці, перанеслі гэта выступленне на пазней. Знаць, уварваліся ў праграму тэлеперадач падзеі больш сур'ёзныя, як забастоўка шахцёраў і іншыя. Потым прачытаў учарашні верш і ўзяўся яго дапрацоўваць.

Званіў Максім. Аркадзій Паўлавіч, аказваецца, выехаў учора, але ў дарозе сапсулася машына, і ён вярнуўся ў Мінск. Абяцаў прыехаць сёння. Ну, я чуюся крыху лепш, хоць рытм часта яшчэ збіваецца.



Чытаю падборкі маладых. І хоць яны неахвотна прызнаюцца да бацькоў, якія іх нарадзілі, наследаванні і перапевы апошніх выразна адчуваюцца ў многіх. Вабіць многіх мода, на якую і я калісьці перахварэў, хоць як мужык ад зямлі доўга хварэць на гэту хваробу не мог, бо чакалі зямля, праца... На памяць пераклаў верш Ч. Слезака «Тапор»:

Хто працягвае руку
Супроць улады тырана,
Тыран можа яе адсекчы,

Але рука народа,
Як гідра,
Адрастае.

Тапор ката вышчарбіцца.
Народа — ніколі.

Нарэшце прыехаў Аркадзій Паўлавіч. Зрабіў кардыяграму, выслухаў. Сказаў, пачакаем да восені. Прывёз но-шпу. У Саюзе пісьменнікаў гасцяць нашы сябры з Арменіі. Цікава, хто прыехаў.

Чытаю, чытаю, чытаю. Мо таму ў мяне на нешта іншае і не хапае часу. А галоўнае, што толькі нязначная частка прачытанага зараз застаецца ў памяці.

Я атрымаў два нумары «Литературной жизни за рубежом», запоўненыя рознымі інтэрв'ю. Досыць цікавая «Беседа с Ф. Саган».

Пра многія справы, пра якія зараз пішуць, я думаў раней, яшчэ ў 1939 г. Тады многіх, хто жыў у Заходняй Беларусі, не зважаючы на радасць уз'яднання, насцярожвала палітыка ўлад, разыходжанне паміж нашымі ідэалістычнымі, сказаў бы, уяўленнямі аб сацыялізме і рэчаіснасцю. Мы тады працавалі з Любашай у рэдакцыі газеты «Вілейская праўда» — у самай, можна сказаць, гушчы падзей і бачылі, як прыехаўшыя з Усходу эмісары замацоўваюць у нас савецкі лад, як саранча, накінуліся перш за ўсё на розныя крамы. Амаль усе ў гэтым бралі ўдзел: работнікі партыйнага і савецкага апарата і інтэлігенцыя, у тым ліку і пісьменнікі. Хто накупляў шэрсці на касцюмы, хто радыёапаратуры, гадзіннікаў, а адзін з нашых класікаў — на дзесяткі год абутку і падэшвы. Калі мы былі з Любай і Машарам у ялцінскім Доме творчасці, толькі і гутаркі ў масквічоў аб паездках на машынах за таварамі ў Львоў, Вільнюс, Рыгу, Талін... Асабліва гэтыя справы хвалявалі жонак славутых пісьменнікаў, якія лічыліся класікамі, творы якіх мы чыталі яшчэ ў Заходняй Беларусі. Усё гэта для нас было новым, дзіўным, бо да гэтага



*1932 г.*

у нас ніхто нічога не купляў і не мог купіць у запас. Куплялі толькі ў крайнім выпадку і самае неабходнае. А тут — хапалі ўсё.

Аб гэтым спрабаваў быў напісаць у сваім рамане «Серадзібор» П.Пестрак. Але аднагалосны прысуд рэцэнзентаў быў: «Друкаваць нельга». Толькі пасля бясконцых правак і пераробак ён пабачыў свет.

**26.VII.** Юра і Оля паехалі з дзецьмі ў Вільнюс. Званіў Максім. Зноў карпеў над сваім апошнім вершам. Недахоп яго ў тым, што нічога новага я не адкрываю, і гэта — сёння, калі з паэзіі зняты ўсякія тармазы, што дае шансы ўсякую пустку засланіць то незразумелай балбатнёй, то распаясаным тупізмам ці сексам.

Перад сном дачытаў зборнік вершаў А.Маргаран «Сады Арташата». Ёсць шмат цікавых і проста выдатных вершаў. Я калісьці яе перакладаў. Калі хвароба не скруціць, трэба будзе яшчэ перакласці некалькі яе харошых, прачулых лірычных вершаў, такіх як: «Наш дом», «Снег», «Безжизненно пусто», «Тополя», «Мое счастье», «Признайся же», «А пальцы твои не горят», «Пусть достанется вам», «Снег идет»…



**27.VII.** Учора нечага званіў унук Максім. Пэўна, нейкія ў яго непаладкі. Але Олі не было, ды тэлефон адключыўся, так мы і не знаем, у чым там справа. Бяда з дзецьмі і ўнукамі. Не прывучылі да самастойнай працы, а тое асяроддзе, у якім яны жывуць, мала цікавіцца жыццёвымі справамі, нічога не чытае.

Гартаю, перачытваю Уітмена — хроснага бацьку футурызму, які потым закончыў сваё жыццё ў урбаністычнай балбатні эпігонаў, як і многія другія модныя напрамкі. Відаць, праўду гаварыў Буало, што не ў зацямненні думкі праяўляецца майстэрства; ясная думка выказваецца ясным словам.

Калі няма аб чым пісаць, многія ў нас кідаюцца ў метапаэзію, якой, мне здаецца, часта хварэюць старэйшыя літаратуры. Наша ж паэзія заангажавана не сунуць вушы ў палітыку, у надзённасць. Толькі стыль яе архаічны. Відаць, многія ў нас гэта адчуваюць, асабліва — маладзейшыя.

Да таго рассвергаталіся, абсеўшы аконныя рамы, ластаўкі, што кінуў усё і слухаю. Каб пад рукой быў магнітафон, можна было б запісаць іх бяседу.

Пераклаў адзін верш А. Маргаран. Шкада, што не маю падрадкоўніка, каб зверыць з арыгіналам. Гладкасць перакладу на рускую мову мяне насцярожвае. Знаць, таму, што здароўе горшае, усякая праца сёння здаецца цяжэйшай, як раней. У тым ліку і пісанне вершаў.

**28.VII.** Чакаю Максіма, які павінен прывезці нейкае новае лякарства, а Іра — пошту.

Відаць, кожны паэт перажывае часы свайго ўзлёту і спаду. Перажываюць іх і цэлыя літаратуры.

Чытаю газеты, і ў сэрцы нарастае непакой за лёс нашай краіны і народа. Пачынаючы перабудову — а цяпер гэта відаць усім, — мы многа чаго не ўлічылі. І зараз працягваем рабіць памылкі за памылкамі. Ды і бліжэйшая будучыня не абяцае, што іх будзе менш.

**29.VII.** Зноў цяжкая, бяссонная ноч. Учора былі ў Пількаўшчыне. Засталі там маміных сваякоў. Пахадзіў крыху па зарослай лесам Жукове. Сёння Оля з Жэнем і Юра едуць у Мінск. Магчыма, на выхадныя прыедуць усе зноў і з імі наш доктар СП Аркадзій Паўлавіч. Ён праз Максіма прыслаў мне нейкі новы прэпарат. Але не буду спяшацца яго прымаць. І так глытаю безліч розных таблетак. Відаць, дзесяты раз бяруся правіць свой апошні верш.

У сястры Ф. Каравацкага купілі вядро бруснікі. Ягады яшчэ не зусім спелыя, але зараз дачнікі не чакаюць, калі яны паспеюць.

Нешта мая задышка гэтыя дні яшчэ стала большай. Нейкі цяжар ляжыць на грудзях і не дае спакою ні ноччу, ні днём.

Учора, калі спыніліся ў Слабадзе каля хаты Зініных бацькоў, даведаўся аб смерці майго хросніка Іосіфа Скурко, члена нашага СП, аўтара тэкстаў многіх песень. Што магло з ім здарыцца? Нейкая загадкавая смерць. Знайшлі

яго без дакументаў. Тыдзень пратрымалі ў моргу, пакуль удакладнілі, хто. Перад ад'ездам — помню — сустрэліся з ім каля СП. Я яшчэ пацікавіўся: што ў яго добрага чуваць, над чым працуе?

А дома ў нас — кірмаш, якому канца не відаць. Пяць чалавек паехала, а следам — Максім (унук) з жонкай, а ў пятніцу прыедзе яшчэ пяць чалавек. Не ведаю, як справіцца з усёй гэтай ардой. Проста нервы не вытрымліваюць. Хоць ты ўцякай з гэтай дачы. Дача гэта стала катаргай, на якую мы асуджаны, відаць, да канца жыцця.

Прачытаў апошнія карэспандэнцыі аб трагічным становішчы ў многіх рэгіёнах Беларусі пасля аварыі ў Чарнобылі. Кіраўніцтва рэспублікі з першых дзён старалася не гаварыць, скрываць праўду гэтай трагедыі ад народа. Не зразумела: чаму? Усе сённяшнія пастановы аб адсяленні людзей з небяспечнай зоны, якая ахапіла амаль трэцюю частку абшараў нашай зямлі, прымаюцца з недаравальным спазненнем, і я ўжо не веру ў тое, што яны будуць выкананы пры сучасным крызісным стане, які перажывае наша краіна. А да ўсяго: амаль кожны дзень бясконцыя аварыі, стыхійныя бедствы, забастоўкі, якія цягнуцца месяцамі і якія могуць выклікаць новыя канфлікты, кровапраліцці.

**31.VII.** Чуюся ўсё горш і горш. Узмацніліся арытмія, галавакружэнні, задышка. Не ведаю, што рабіць. Так не хацелася б зноў ехаць у Вільнюс, зноў нешта рабіць са стымулятарам. Відаць, нічога гэта не паможа.

Як сведчаць хронікі,
Легенды, казкі,
Калісьці з-пад зямлі ў нас білі
Цудадзейныя
Жывой вады крыніцы,
Апырскаўшы якой,
І мёртвыя героі ажывалі.

О колькі трэба б
З небыцця вярнуць
Мне блізкіх і сяброў!

Бяда, што зараз на зямлі —
Дзе не прыгубіш — мёртвая вада.
А той — жывой —
Я не магу знайсці,
Хоць і пытаўся
У звяроў і птушак,
У вятроў і дрэў
І ў сонца.





***Злева направа: Максім Танк і Рыгор Шырма. 1937 г.***

На раме акна прысела ластаўка. Прыхарошваецца і шчабеча — напявае нешта сама сабе. А можа, мне хоча сказаць: якая ціхая і сонечная раніца. Не помню такога пагожага лета, каб так спрыяла надвор'е касьбе і ўборцы хлеба.

Малыш, убачыўшы сябе ў люстэрку,
Шукае: што на старане другой?

А я, дзівак, не здагадаўся
Ніколі пацікавіцца,
Што за слязамі, радасцю,
Спагадаю, усмешкай,
Непрыязню ці дружбай
Адбілася на другой старане
Майго люстэрка.

Пераклаў са зборніка «Сады Арташата» А. Маргаран адзін з яе вершаў «Наш дом».

Вядома, дом наш малы быў,
Ды ён стаяў на ўзлессі юным,

І жаваранак весяліў
Нас на вясёлцы сямістуннай.

Уважна прыглядаўся дом,
Як сцежка ўдаль віецца строма.
Шапталі кветкі пад дажджом,
Заслуханыя ў песню грома.

Зялёны дождж. І забыццё.
Узлёт да зорнага мігцення.
І станавіўся быт быццём,
І вечнасцю было імгненне.

Вядома, дом наш малы быў,
Ды ён стаяў на ўзлессі юным,
І жаваранак весяліў
Нас на вясёлцы сямістуннай.

Пасля працяглай цішыні прачнуўся вецер. Слухаю няўцішны шум хваль Нарачы, шум таполяў, якія разрасліся на дварышчы Лыньковых. Можа, нагоніць хмару з Балтыкі, з Літвы, бо перадавалі па радыё, што можа быць дождж.

«...Пытанне аб лёсе маёй радзімы. Для любога мастака яно галоўнае, і задае ён яго да смерці» (А.Вайда).

Дзень закончыўся дажджом. Усё ж такі вецер не дарма дзьмуў, не дарма шумеў на ўсю Нарач.

**1.VIII.** Усю ноч шумеў дождж. І зараз ідзе. І, відаць, доўга будзе ісці, бо ўсё неба зацягнута хмарамі, і ціха-ціха. За ноч нападала яблыкаў. Нечага раскаркаліся вароны. Званіў Максім. Пасля поўдня павінен прыехаць Сярожка. Апошні летні месяц. Учора праслухаў справаздачу з пасяджэння Вярхоўнага Савета СССР. Бясконцыя дэбаты. Рыхтавалася забастоўка чыгуначнікаў. Ну, гэта магло быць апошняй кропляй у сённяшняй напружанай сітуацыі і закончыцца такой катастрофай, з-пад абломкаў якой цяжка было б нам выбрацца. І так становішча — на грані поўнага развалу эканомікі і ідэалагічнага разброду. Доўга ўсё гэта не можа працягвацца.

Цікавы нарыс С. Стануха ў «ZL» «Яшчэ раз Парыж» пра кнігарню FNAK, якая мае плошчу 5500 кв. метраў, кожны дзень тут прадаецца 13 000 кніг, пакупнікоў абслугоўвае больш 100 прадаўцоў. Кнігі тут прадаюць на 20% танней, як у іншых кнігарнях.



Чытаю розныя ўспаміны пра знаёмых мне пісьменнікаў і класікаў — сентыментальныя і далёкія ад праўды. Гісторыю таксама я аднёс бы да ўспамінаў. Пачынаю сумнявацца ў аб'ектыўнасці і праўдзівасці і ўспамінаў, і гісторыі, якую на маёй памяці не раз выпраўлялі і перапісвалі.

Дождж перастаў, але дзень хмарны, цяжкі. Тэрмометр паказвае плюс 15, а здаецца значна халадней. Можа, таму, што чуюся нейкім разбітым. Няўжо не змагу дабыць на Нарачы да канца гэтага месяца? Хутка павінен з аўтобуса прыйсці Сяргей, які выехаў з Мінска ў 12 г. 40 мінут, і прывезці пошту.

Леапольд Тырманд у сваім «Дзённіку 1954» піша пра Я. Івашкевіча: «Я яго нат люблю: ён значны з віду, з тварам, мадэляваным гадамі, позай, задумамі, грымасамі на Зеўсавага паэта, такога падольскага Гётэ. Быццам крыху з вылепленай аздобы не самай высокай якасці, але аздобнай, нешта ў ім ёсць неэлеганцкага, што хоча за ўсякую цану быць элеганцкім, глобтротар (валацуга), педэраст, дыпламат, ласун, паэт і пешка». Забойчая характарыстыка, хоць, пэўна, з нейкай доляй праўды.

**2.VIII.** Здаецца, імжыць дробны дождж. Сцішыўшыся, сядзяць у нейкім роздуме мае ластаўкі. Званіў у рыбхоз. Можа, удасца заўтра дастаць рыбы, каб пачаставаць Аркадзя Паўлавіча, які ў пятніцу абяцаў прыехаць з жонкай.

І Люба і я ўжо не можам вытрымаць свайго дачнага пекла. 12 гадзін, а Максім са сваёй Оляй яшчэ спяць. Сняданне стыне. А ўжо трэба і абед рыхтаваць. Не ведаю, за якую кару так усё жыццё прайшло ў служэнні ўсім, каму толькі ні ўздумаецца. Я ўжо не гавару, што ўсе на іждзівенні нашым. Хто — тыдзень, хто — пару месяцаў, а хто — цэлыя гады. Добра, што сёлета хоць Вера з Сашам і Дзянісам паехалі ў Балгарыю, а то не было б нават дзе расставіць раскладушкі. У такіх абставінах можна не толькі захварэць, але і звар'яцець.

А дождж усё імгліць і імгліць.

Неспадзявана ў магазіне гароднiны купіў бруснікі. Трэба будзе падарыць нашым гасцям, якія прыедуць у пятніцу.

Чытаю і ніяк не магу расправіцца са сваёй поштай, прывесці ўсё да нейкага ладу.

**3.VIII.** Аж страх ахоплівае, як хутка знікаюць за днямі дні. Празмерныя страсці-мардасці, я даўно заўважыў, хутка становяцца прыкрымі, і перастаеш у іх верыць. Гэта — ігра на струне, нацягнутай да граніцы вытрымаласці. Пагражаючы поўнай дэвальвацыяй у паэзіі, расце павадак слоў, слоў і слоў.

Баюся, каб нашы непаладкі, ускрытыя перабудовай і звязаныя з ёю, не парадзілі цягі да дыктатуры ўлады — страшнай і бесчалавечнай.

Недзе былі ў мяне К.Гамсун і Лундквіст. Шукаю, не магу знайсці.

Чамусьці ў сённяшні непагожы дзень пацягнула мяне на іх суровую скандынаўскую прозу.

Разгуляўся дождж, расшаліўся вецер. Відаць, паатрасае ў садзе ўсе яблыні.

**4.VIII.** Неспадзявана ў другой палавіне дня выглянула сонца. Схадзіў у прадуктовы магазін. Не мог устрымацца, каб не купіць яшчэ вядро брусніц — буйных, чырвоных.

У Таліне канферэнцыя гісторыкаў, на якой абмяркоўваюць савецка-германскі дагавор 1939 г. Таварышы з Прыбалтыкі хочуць даказаць бяспраўнасць далучэння іх рэспублік да Савецкага Саюза. Яны сцвярджаюць, што была тайная дамоўленасць з фашысцкай Германіяй аб размежаванні ўплываў і перакройцы граніц. І мне здаецца, што не магло не быць такой дамоўленасці, бо вельмі ж тады ўсё адбылося гладка. Відаць, быў распрацаваны дакладны сцэнарый далучэння да Савецкага Саюза Літвы, Латвіі і Эстоніі. Знаць, кожная дзяржаўная палітыка эгаістычная і брудная. І асабліва наша ў часы сталіншчыны.

**6.VIII.** Прыехаў Максім з Аркадзіем Паўлавічам і яго жонкай Люсяй. Агулам, Любаша зусім выбілася з сіл, бо ледзь размясцілі на дачы адзінаццаць чалавек. А галоўнае — думай, як накарміць такую сямейку, улічваючы густы кожнага. Сёння шэсць чалавек паехала ў Мінск, але праз пару тыдняў некаторыя зноў вернуцца. А хвароба мая не адстае. Дыхавіца, слабасць, галавакружэнне, ціск. Ноччу прачнуўся ў 5 г., так і не заснуў.

Вецер праганяе хмары. Часамі брысае дождж. Любаша перабірае купленую брусніку. Аж не верыцца, што пацішэла ў доме. Сярожка паехаў лавіць рыбу, а Кацюша недзе гуляе ў Куляшовых. Узяўся за Багуміла Грабаля. А ў газетах — забастоўкі, дэманстрацыі, аварыі, якім і канца не відаць. Прачытаў у «Лит. газете» цікавыя, можна сказаць, прарочыя выказванні Салжаніцына, што нашу краіну можна лёгка падпаліць нацыянальнай нянавісцю, што, скінуўшы партыйную бюракратыю, выйдуць на паверхню сілы, і мы пачуем іх роў, не аб адказнасці і абавязках кожнага, а аб правах, правах… І разгромяць нашы рэшткі яшчэ ў адным лютым, яшчэ ў адным развале. Гэта было сказана ім у 1974 г.

Ох, як дакучае аддышка. Не хапае паветра, быццам грудзі нечым залажыла і сціскае, сціскае.

Заходзіла Ксана Куляшова. Пагаварылі аб тым, што нас усіх чакае. Прызнацца, усё цяжэй верыць, як гаварылі раней, у светлую будучыню.

**7.VIII.** Першы, параўнаўча, ціхі дзень на дачы. Засталіся: Іра з Кацяй і Сяргеем і цюцька Альфа. Ну і мы з Любашай. Дзень хмарны. Наглытаўся розных таблетак, хоць і зняверыўся ў іх лекавых якасцях, бо не адчуваю ніякага паляпшэння.





*З Якубам Коласам. 1947 г.*

Надта сумна на сэрцы. Ды як можна быць спакойным, калі так трывожна ва ўсёй нашай краіне. Відаць, пачынаючы перабудову, ніхто не мог прадбачыць, што побач са здаровымі, прагрэсіўнымі сіламі, сапраўды зацікаўленымі ў аднаўленні жыцця, на гэтай хвалі падымецца столькі рознай пены, вызваляцца ў людзей чалавеканенавісніцкія інстынкты, дэструктыўныя імкненні, якія пагражаюць самым асновам нашага існавання.

Я люблю весні час, калі з шумам і спевам
Пасля зімняга сну прачынаюцца дрэвы
І сяброў і сяброўак сваіх аклікаюць,
Ці пра сны, што ім сніліся, апавядаюць.

І хаця з малых дзён чую іхнія мовы,
Знаць усе перагуды, пашумы, замовы —
Да канца, мажа, толькі іх разгадаю,
Калі стану і сам дрэвам роднага краю.

Зноў вярнуўся да свайго верша «Пахвала гісторыі», выправіў некаторыя радкі і сёе-тое дапісаў. Зараз, здаецца, атрымалася лепш.

Заходзіла Лена. Прыехала адпачываць у санаторый. Расказвала пра норавы, якія там пануюць. А мы яшчэ думаем з такім людскім капіталам будаваць новае жыццё.

**8.VIII.** Прачытаў учарашні свой верш і зноў пачаў перарабляць. Учора адважыўся і прайшоў аж за турбазу. Колькі там лебедзяў, качак! Зялёнай непралазнай сцяной стаіць трыснік, дзе, відаць, гняздуюць гэтыя птушкі. Яны ўжо сталі амаль ручнымі. З рук бяруць хлеб, якім шчодра іх тут падкармліваюць. Агулам, кіламетраў пяць прайшоў. Аж Любаша занепакоілася: дзе я прапаў! Сустрэў Кацю і Іру, якія выйшлі мяне шукаць.

Сяргей прынёс свежыя газеты, за якімі змарнаваў пару гадзін. Калі буду магчы, трэба будзе заняцца зборам яблык у садзе.

Думаў схадзіць на прагулку, але заняўся рознымі дамашнімі справамі і нікуды не пайшоў. А дзень — на дзіва — выдаўся пагожы. Любаша перабірае ягады. Сёлета мы іх накуплялі, як ніколі. Увесь цукар перавялі на іх.

**9.VIII.** Зноў узяўся правіць і перапісваць апошні свой верш. Вычарпаўшы свой запас тэм, трэба будзе ўзяцца за пераклад вершаў А. Маргаран.

Хвароба зусім мяне выбіла з каляіны. А галоўнае — цяжка дыхаць. Не памагаюць ніякія таблеткі.

А. Маргаран: ...



Прызнайся ж,
Што за пазухай
Трымаеш галубоў —
Вунь тых,
Што праляцелі
Па блакіце неба!
Прызнайся,
Што ў сэрцы грэеш іх —
Тых, што праз сэрца сонца
Зараз праляцелі?
Скажы,
Ты іх малітвай будзіш
Раніцой?
Дзень распачаўся імі
І кончыўся імі.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Так і жыццё маё...
Яно, як белы голуб,
Пранеслася па сіняве тваёй,
Але чаму ж
Крыл маёй душы
Ты так і не сагрэў?

**АРМЯНСКІЯ ГОРЫ**

Армянскія горы, высокія вы,
Ўздымаецеся так пад самы зеніт,
Што варта прабіцца сцяблінкам травы,
Як з сонцам адразу зліюцца яны.

Армянскія горы вартуюць вякі,
І зоры нат з імі бяседу вядуць.
І поўныя звонам зарніц раўчукі
Нібыта не з гор, але з неба бягуць.

О, як жа высока стаяў над зямлёй
Наш домік маленькі ад тваіх нябёс!
Дык што ж ты такі быў сляпы, Божа мой,
Не бачыў ні бед нашых горкіх, ні слёз?

**МОВА АРМЯН**

Не з чужых песень, што пяюць,
Не з слоўнікаў, з кніг адмысловых
Я палымяную сваю
Армянскую пазнала мову.

Зямля была лемантаром.
Патокі, што збягалі звонка
З вяршынь праз хмары напралом,
Заўжды са мной вялі гамонку.

А там, дзе ў сіняве абрыў
І жарам дыхае дуброва,
Шыпшыннік шчодры мне дарыў
Свае пурпуравыя словы.

І залаты жаўрук вясной,
Увесь ахоплены зарою,
Узняўшыся па-над Зямлёй
Свой шарайан вёў нада мною.

Зямлі пісьмёны — сцежак рад —
Маёй найлепшай кнігай сталі,
І на зямлі — за складам склад —
Я сваю мову вывучала.

Яе ўзяла і змест і жар,
І гул магутны сіл падземных,
І між сухой травы хачкар
Быў маёй літарай каменнай.

О, манускрыпт маёй зямлі,
Дзе нават травы і дубровы,
І старажытныя ў пылі
Палаюць камяні, як словы!

Тут мова — ўсё. І храм стары
У свечках зззяючых васковых,
Які з зары і да зары
Гучыць каменнаю прамовай.





*З бацькамі ля роднай хаты.*

І схілы горныя хрыбтоў
Над гулкай глінаю даліны;
Прыслухайся — і гул вякоў
Пачуеш ты з глухіх глыбінаў.

Прыслухайся — шуміць вада.
Таемным сэнсам поўны горы.
На неба глянь — гор чарада
З табой аб вечнасці гаворыць.

* * *

Як безжыццёва і пуста
Без цябе сэрца баліць.
Сэрцу так сумна…
Як без любві яму жыць?
Разбураны храм,

У якім пагаслі агні.
Сэрца маё без цябе —
Руіны... Айні.

**10.VIII.** Званіў Максім і Аркадзій Паўлавіч. Можа, заўтра прыедуць, бо Юра захварэў. Лёг у бальніцу: язва страўніка, печань. Не памагло, што ён тут лячыўся голадам. Трэба перакласці яшчэ адзін верш А. Маргаран.

**МАЁ ШЧАСЦЕ**

Я знаю, шчасце,
Прыйдзеш, не мінеш.
Так многа год я жду цябе, так многа!
Ты непрыкметна прыйдзеш да мяне,
На чорны камень сядзеш ля парога.
Ты будзеш дзень і ноч
Сачыць за мной,
Каб мне апавясціць
Пра свае цуды.
Калі ж, нарэшце, час настане твой,
Мяне пачнеш
Падсцерагаць усюды.
І будуць на парог мой дрэў лісты
Струменіць свае шэлесты
Шторанак...
Маё зямное шчасце, прыйдзеш ты,
Але тады, калі я небам стану.
Калі змяню цялесны воблік свой
І стану бегчы клікаць зараніцы,
І буду промнем, кветкай веснавой
Безабаронна да цябе туліцца.
І стану я святлом,
Каб раздарыць
Сябе людзям усім,
Далінам, горам.
І стану белым голубам кружыць
Над старажытным
Урартыйскім морам.
І стану ўсім —
І азарыцца муць



Начная з беспрасветлаю імглою.
І я пачую, як званы гудуць
Над артанежскай роднаю зямлёю.
І зноў
У неба заструменіць дым
З таніра папялішчаў і ўліецца
Ён свежым хлебным пахам залатым
У маладое
Над зямлёй дасвецце.
І я пачую,
Як вада журчыць,
Што ў садзе бацькі
Высмягла ў спякоту.
Ты, знаю,
Прыйдзеш, каб са мной пабыць,
Калі
Я перастану быць самотнай.

Вярнуліся Саша, Вера, Дзяніс з замежнай паездкі. Відаць, гэтымі днямі прыедуць на Нарач. Божа, хутчэй бы кончыўся гэты наш дачны «адпачынак».

Узяўся за кнігу «Звездная исповедь» Ф. Бахчыняна. Прачытаў паўсотні старонак і неяк не магу ўчытацца. Аўтар піша ў стылі мінулых дзесяцігоддзяў, калі ўсяму, што пісалася тым ці іншым вядомым паэтам, даваліся завышаныя ацэнкі. А шкада. Творчасць Межалайціса ад гэтага не страціла б свайго значэння. Ды шлях яго ад вершаў з яркім нацыянальным літоўскім каларытам і соцрэалістычнай «брацкай паэмы» да, у нейкай меры, абстрактнага «Чалавека» — не такі просты, як гэта здаецца Ф. Бахчыняну. Агулам, пасля нечалавечых злачынстваў супроць прыроды і самога сябе цяжка сказаць, што «Человек — звучит гордо».

**11.VIII.** Быў Аркадзій Паўлавіч. Прыехаў разам з ім і наш дырэктар Беллітфонда Васілій Антонавіч Вільтоўскі. Казаў я яму, што званіў М. Мятліцкі, прасіў памагчы Галубовічу вырашыць яго кватэрную справу, перадаць яму кватэру, ад якой адмовілася Лялько.

Гаварыў з Верачкай. Прасіў, каб захапіла маю пошту і прывезла цукру для бруснічнага варэння, можа, калі будуць ехаць, заглянулі б у рыбгас, бо невядома, чым тут частаваць такі калгас. А яшчэ ж прыедзе і Максім малодшы з жонкай.

Не адпачынак, а хаджэнне па муках.

**13.VIII.** Учора прыехалі Вера, Саша і Дзяніс са свайго турнэ па Балгарыі. Хадзілі з Любашай у санаторый на масаж. Дамовіліся, каб масажыстка да

нас прыходзіла, бо Любашы вельмі цяжка, хоць гэта і блізка, самой хадзіць на гэту працэдуру. Вечарам нешта пабальвалі грудзі. А мо гэта — ад сэрца? Узяў таблетку нітронгу. Пад шум дажджу заснуў позна.

Вось і праляцела лета, за якое я напісаў усяго некалькі вершаў.

Зноў шуміць густы, ціхі і цёплы дождж. Неба — суцэльная, беспрасветная паляна аблокаў. Зямля ў садзе ўсыпана яблыкамі, якія і збіраць перасталі.

Раніцой з Сашам ездзілі ў Кабыльнік, думаў купіць цвікоў, але магазін быў закрыты. Зайшлі ў царкву, запоўненую веруючымі. Паслухалі, як прыгожа спяваў хор багамольцаў. Сцены ўвешаны абразамі, напісанымі дамарослымі мастакамі. Купіў французскае юбілейнае выданне Новага Завета тыражом адзін мільён экзэмпляраў. Цікава, што гэта — падарунак да тысячагоддзя хрышчэння Русі праваслаўным ад манашаскай абшчыны ў Тэзэ.

**14.VIII.** Быў Васіль Антонавіч Вільтоўскі. Зноў цёплае і пагожае надвор'е. У «ЛіМе» досыць нудныя вершы на т. з. тэму дня: суцэльныя галашэнні, казанні, а галоўнае — усё на такім прымітыўным узроўні, што аж дзіву даешся.

Чамусьці сёння чуюся горш. Прачытаў «Чернобыльскую тетрадь» Г. Мядзведзева ў «Новом мире», і настрой зусім упаў. І есці нічога не хочацца. Трэба ціха змераць тэмпературу, бо нешта дзярэ горла. Чорт ведае. Хвароба за хваробай чапляецца за мяне. Відаць, мяне сёння скразняк уламаў. І агулам, калі дацягну да канца тут, у Мінску трэба будзе пахадзіць на інгаляцыю, бо сядзіць нейкі чорт глыбока ў горле.

**15.VIII.** Разбудзіў кароткі, але краплісты дождж, які забарабаніў па шыферы. Спаў дрэнна. Усё часцей наведваюць думкі аб смерці. Здаецца, сарваўся б з ложка і пачаў завяршаць незакончаныя свае задумы і справы, якія я кожны раз усё адкладаю з думкаю, што можа гэта наступіць не сёння, не заўтра, не заўтра. І гэта «не заўтра» вяртала спакой.

Зноў зашумеў дождж.

Прачытаў досыць сумны нарыс А. Наўроцкага ў «ZL» пра становішча палякаў у Літве і агулам пра тую атмасферу, якая зараз там пануе. З Трохкрыжовай гары былі скінуты палаючыя тры куклы савецкіх салдат. Відаць, праўду пісалі беларусы ў пісьме, якое было змешчана ў нашых газетах, аб тых шавіністычных настроях, якія бяруць верх у «Саюдзісе».

**16.VIII.** Учора ў Куляшовых адзначалі дзень нараджэння В.А. Вільтоўскага. Прыехаў рафік з мінчанамі. Магчыма з Фёдарам Фёдаравічам пад'едзе на Нарач і Георг Эмін, які зараз адпачывае ў нашым Доме творчасці. Добра было б з ім пабачыцца.

Прывезлі мне газеты, розныя навіны з Мінска. Разгарэлася паленіка з З. Пазняком, які даў інтэрв'ю латышскай газеце «Белоруссия: Вандея «Очаков», ... (?)».





*З дзецьмі. Злева направа: Іра, Максім, Вера.*

Адным словам, ставіць сваёй задачай — вырваць уладу з рук бюракратаў і перадаць яе народу. Усё гэта нагадвае тактыку «Салідарнасці», якая ўжо вырвала ўладу з рук партыі ў Польшчы і перадае яе зараз Бжэзінскаму. Апошні сцвярджае ў сваіх выступленнях, што Польшча і Венгрыя хутка вернуцца ў лона Еўропы. Пачаўся, мне здаецца, дэмантаж сацыялізма ў лагеры сацыялізма. Трагічная старонка ў гісторыі нашай партыі. У Літве апублікавалі ваенную карту 1933 — 1936 гг., з якой відаць, што ўжо ў тыя гады савецкім генштабам распрацоўваўся план захопу Прыбалтыкі. Тут толькі нельга прыдаваць асаблівае значэнне падобным планам, бо, каб апублікавалі ўсе планы генштабаў усіх дзяржаў, мы ўбачылі б, які лёс яны рыхтавалі і сёння рыхтуюць супраць чалавецтва. Пад прыцэлам ракет НАТО амаль усе нашы гарады і прамысловыя цэнтры.

Званіў Максім і цікавіўся нашымі справамі. Забыў запытацца, калі ён збіраецца прыехаць на Нарач.

Чытаю нарыс Л. Чабышава «Одлян, или воздух свободы» (НМ). Цяжкая рэч аб непаўналетніх у лагерах. Ніхто таго не выдумае, што «людзі людзям».

Усё ніяк не збяруся адпісаць В. Шошыну. Просіць, каб я напісаў



*Самая смачная вада з роднага калодзежа.*

рэдактару «Літ. газеты» і папрасіў даць яго, Шошынскую, падборку вершаў пра Леніна. Дзівак. Зараз газету цікавяць іншыя тэмы, ды і нязручна мне ўкліняцца ў маскоўскія пісьменніцкія страсці-мардасці.

Позна вечарам прыехаў Максім з Оляй. Зараз тут дзевяць чалавек. У суботу будзе 12. Чорт ведае, як накарміць такую араву. Як мы з Любашай дацягнем да канца гэтага месяца? Дача для нас стала нейкай катаргай. Відаць, апошні год мы тут з Любашай пеклімся. У такой атмасферы не дзіва, што здаюць і сэрца, і нервы, і ўсё іншае.

**17.VIII.** Ноч цёплая, душная. Некалькі раз будзіўся, бо здавалася, не хапае паветра. Зноў, відаць, будзе пагожы дзень. Учора па тэлебачанні





*З жонкай Любоўю Андрэеўнай.*

паказвалі, якое ў нас марнатраўства рыбы на Камчатцы. На пунктах нарыхтоўкі не прымаюць. Бульдозерамі закапваюць дзесяткі, сотні тон. Што ж гэта робіцца ў нас? То хлеб, то мяса, то малочныя прадукты марнуем і марнуем, а потым купляем. Гэтага нават дзікары не робяць. Гэта ўжо не безгаспадарчасць, а нейкі прыроджаны ідыятызм.

Цікава, чым закончылася ўчарашняе абмеркаванне эстонскага пытання-пастановы, прынятай іх Вярхоўным Саветам, асабліва цэнза аседласці, пастановы, якая нібыта неспадзявана з'явілася на павестцы дня сесіі. Невыразным было выступленне нашага Г. Таразевіча. Такое адчуванне, што ў нашага ўрада няма выразнай лініі, праграмы. І гэта ўсе адчуваюць, і гэтым карыстаюцца ўсе «добразычліўцы» перабудовы і яе прыхільнікі.

У другой палове дня прачнуўся вецер. Які гаючы шум хваль і дрэў.

**18.VIII.** Сёння зноў чуюся горш — слабасць, галавакружэнне. Нат чытаць не магу. Колькі дэмагогіі, хлусні ў выступленнях розных «палітыкаў», «рэфарматараў», «перабудоўшчыкаў»! Зараз усё так пераблыталася, што цяжка разабрацца, хто ёсць хто, што крыецца за лозунгамі. Поўная неразбярыха ў Польшчы, Венгрыі… Ды і мы не можам служыць нейкім станоўчым прыкладам.

А хвароба мая сёння далася мне ў знакі. Не знаю, ці ўдасца дацягнуць да канца жніўня. Вельмі ж не хацелася б зараз вяртацца ў Мінск і класціся ў бальніцу.

Вечарам прыехаў Юра. Іх кватэру абакралі. Іра з Юрам паехалі ў Мінск. Малая Кацюша плача, што застаецца адна. Вось табе, якое няшчасце. І абакралі днём. Няўжо ён не ўключыў сігналізацыю?

**19.VIII.** Званіў з работы Саша. Я прасіў, каб заехаў да Юры, даведаўся пра іх справы, бо тэлефон у іх, відаць, абрэзаны. Не дзіва, што мы ўчора не маглі дазваніцца.

У «Звяздзе» — нарыс Н. Клінковіча пра М. Забэйду-Суміцкага, аб яго перапісцы з Я. Шутовічам, дзе, між іншым, успамінае Міхал і мяне, грэшнага. Недзе ў маім архіве павінны быць лісты яго з Прагі, апошнія нашы фатаграфіі. Трэба будзе ў Мінску разабраць і, агулам, прывесці да нейкага ладу ўсе свае паперы.

**РЭАБІЛІТАЦЫЯ**

Пасля таго,
Як рэабілітавалі
Мой род вялікасны
Патомных хлебаробаў,
Асуджаных за тое,



Што ў іх гербах
Былі аднаасобніцкія сохі і сярпы,
Сякеры, калаўроты, мазалі,
І нашы беларускія
Цымбалы — самагуды —
Дзён лепшых дачакаліся
І пакараныя за нейкі опіум,
Якога нат не бачыла ніколі —
Старая, тысячагодная ў маім сяле
Царквушка.

Сягоння зноў прыбралася яна,
Як на Вялікдзень:
Уздзела крыжаносны купал,
Прытвор ачысціла
Ад гандляроў, ад фарысеяў
І кліча звонам
Вярнуцца з усіх лагераў і ссылак
Сваіх дзяцей — жывых і мёртвых —
Сваіх святых,
Каб занялі належнае ім месца
На незагоеным яшчэ ад куль
Іканастасе.

## Максім ТАНК

### *Спатканне*

— Ну што ж, кажы, што ў вас чуваць? —
Пачаў стары пра сенажаць,
Успомніў жыта і авёс...
А вочы... мокрыя ад слёз...
А потым я загаварыў:
— Нічога, год я перажыў.
Ды не адзін — сядзіць нас шмат, —
Прывыклі трохі і да крат...
Ну, як там мама і сястра?
Пара ўжо на зіму араць.
І як там ктатаецца дзед?
Ім занясі ад нас прывет!
—Нічога, мы-то жыць жывём, —
Вось ты тут сохнеш за мурам...
Я ў торбе сухароў прынёс, —
А вочы мокрыя ад слёз...
— Не плач! Мы вернемся вясной
І ў поле выйдзем грамадой,
Сустрэнем новы ўсход зары, —
Не плач і не бядуй, стары!
Вясною светлаю з-за крат
З сяўнёю, поўнаю зярнят,
Нас выйдзе шмат, як цёмны бор,
На скібы чорныя разор...
Стары, я знаю, верыць мне
І сам гаворыць аб вясне,
Здаецца, падужэў, падрос,
Хоць вочы мокрыя ад слёз...

1936



### *Песня кулікоў*

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня ў хаціне згорбленай, старой,
Ды гарыць памалу ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой...
Часам вецер дрэвы, зачапіўшы гужам,
Доўга іх пілуе месяца сярпом,
І снуе на плоце белы снежны кужаль
З доўгай снежнай песняй за сляпым акном.
Дымна ў печы дровы і карчы палаюць.
Зайцамі кладуцца цені на сцяне.
Пеніцца сярдзіта бульба, закіпае
Снежнаю завеяй ў чорным сагане.

— Ну, садзіся з намі! —
дзед стары гаворыць
І акраец хлеба чорнага кладзе.
— Наарфуе снегу, бы мякіны горы,
Ні праехаць полем, ні прайсці нідзе...
Сам, відаць, далёкі... не з блізкіх аколіц,
Не з-пад нашых, пэўна, саламяных стрэх...
Ды апранут слаба — змерзнеш недзе ў полі;
Хоць на лаве мулка, пераспі начлег!
Бачыш: у нас голад, жыць нялёгка, браце,
Хлеб на стол кладзецца толькі для гасцей.
Добра, калі хопіць бульбы ў нашай хаце
Да вясны, да першых з выраю гусей...

Час такі нядобры.
З першых дзён марозу
Маладых нямала ў турмы павялі.
Шмат разоў, напэўна, шэрыя бярозы

След ім белым ветрам ў полі замялі.
Каб далі вучыцца нам на мове роднай,
Ўсе мы дамагаліся грудзьмі...
Я ўжо хутка лягу пад сасной зялёнай, —
Што, скажы мне, будзе з нашымі дзяцьмі?

У кутку, на нарах, на старую кніжку
Ціхі голас льецца і чупрыны бель;
Сумна з маладзіцай над малой калыскай
Ўсхліпывае песняй белая мяцель.

— Спі, засні, маленькі!..
— Што, мужык на працы?
Кажаш, у астрозе? Дзесяць год далі?!
— Спі, засні, саколік! —
Быццам дождж гарачы,
Так з вачэй у маткі слёзы паплылі.

— Я, стары, таксама з-пад страхі сялянскай,
Быў і там, дзе сёння твой гаруе сын...
Шмат слядоў пакінуў на дарогах гразкіх,
На скрыпучых струнах белых палазін...

— Спі, засні, маленькі, родненькі саколік!
— Ну, не плач, мой добры!..
— Слухай: ля ракі
— Не мяцель галосіць на заснуўшым полі,
— А ў імгле зблудзілі, пэўна, кулікі...

I стары ўздымае выцвілыя вочы:
— Ну скажы, ці доўга гэта будзе так?
— Сеяць усё сеем — з рана да паўночы,
— А з бяды не можам выбрацца ніяк.





***З Анатолем Вялюгіным на дачы.***

— І ў нас цёмна, змрочна, толькі час ад часу
— Загарыцца сонца паміж нашых стрэх,
— Ды сядзім паўгода над галодным квасам,
— Нашы сцежкі ў полі замятае снег...
— Кажаш — ужо хутка выпрастаем плечы,
— Кажаш аб шырэйшых нівах, аб вясне.
— Вось і я, здаецца, вылез бы з-за печы,
— Хай пакліча толькі моладзь і мяне.
..................................................................
За разбітай шыбай стогне вецер глуха,
Рвуцца пражы ніткі, ўюцца на калкі...
— Спі, засні, маленькі... або лепш паслухай,
— Як, зблудзіўшы недзе, плачуць кулікі...

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня ў хаціне згорбленай, старой;

Ціха дагарае ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой.

Пад разлівы песні хмарыць сон гарачы,
— Спі, засні, мой добры... слухай... ля ракі...
— Ды і мне здаецца, што ў імгле, няйначай,
— Не мяцель, а плачуць недзе кулікі.

1936

* * *

Люблю твае, Нарач, затокі і тоні,
Як вецер густыя туманы развесіць,

*З Міхасём Лыньковым.*





Ці снежная пена на хвалях зазвоніць,
Цалуючы зоры, калышучы месяц.

Люблю, калі ў сонцы гарыш пазалотай,
Раскінуўшы сінія хваляў палотны,
Калі ў непагоду сумуеш маркотна
З рыбацкаю песняй, з зялёным чаротам.

Люблю твае буры, твае навальніцы.
Ў іх чую, бы ў песнях, жыццё маладое.
І хочацца блізка грудзьмі прытуліцца
Да чорных ад гневу кіпучых прыбояў.

1937

* * *

Паслухайце, вясна ідзе,
Звініць ў маім акне жалеза.
З вінтоўкай стражнік ноч і дзень
Пільнуе куст пахучы бэзу.

А ён расцвіў, агнём гарыць,
Такім пахучым, мяккім, сінім:
На дрот калючы, на муры,
Як хустку, полымя ўскінуў.

Я ціха разбудзіў другіх.
Ад слёз сінелі вочы бэзам.
І недзе хруснула ў худых
Руках іржавае жалеза.

1937

## *Не шкадуйце, хлопцы, пораху...*

Не шкадуйце, хлопцы, пораху,
Куль гарачых і гранатаў.
Ўсе, каму свабода дарага,
Падымайцеся на ворагаў,
На катаў!

Пушча змрочная, высокая,
Недаступная паляна,
Будзь ты могільнікам ворагам,
Стань прыстанішчам для сокалаў —
Партызанаў.

Век жывым звяр'ю не вырвацца
І ад помсты не схавацца.
Нашы сілы растуць, шырацца, —
Над Дзвіной стаім, над Прыпяццю
На варце.

Днём буранамі крылатымі,
Быццам цень, праходзім ноччу
Сонным лагерам, між хатамі,
Знішчажаючы гранатамі
Банду воўчу.

Чуюць гады ў кожным шораху,
Што ўжо блізіцца расплата,
Чуюць з страхам песню ворагі:
Не шкадуйце, хлопцы, пораху
На катаў!

1941



## *На камні, жалезе і золаце*

Пакуль не ступілася джала разца
І рукі ад працы не моршчацца,
Я мушу пакінуць адбітак жыцця
На камні, жалезе і золаце.

На камні — няволі мінуўшыя дні,
Курганы ў палях адзінокія;
На цвёрдым жалезе — акопы вайны,
Разбітыя сосны высокія;

На золаце — ўзняты Кастрычніка сцяг,
Прасторы бязмежныя, ясныя,
Да сонца шырокі праложаны шлях,
Багатыя нівы калгасныя;

На золаце — свята краіны маёй
З сябрамі, сяброўкамі ўдалымі,
З салютамі і незгасальнай зарой,
З гармонікамі і цымбаламі!

1948

## *Ave Maria*

Звон кафедральны кліча на Ave.
З цесных завулкаў злева і справа
Гуртам манашкі ў чорным адзенні
Цягнуцца, быццам сумныя цені.
Тут і старыя, і маладыя, —
Ave Maria...

Я не звярнуў бы і ўвагі, можа,
Каб не пабачыў між іх прыгожай
Стройнай манашкі, якая мае
Не больш хіба як семнаццаць маяў;
Чорныя вочы, бровы густыя, —
Ave Maria!

Нат пад жалобнай вопраткай чорнай
Ты адгадаеш: стан непакорны,
Ножкі, якімі б на карнавалах
І захапляла і чаравала,
Смуглыя рукі, грудзі тугія, —
Ave Maria!

Глядзіць набожна на крыж пятровы,
А я малюся на яе бровы:
Няўжо, красуня, ты не шкадуеш,
Што хараство і жыццё марнуеш?
Як танцавалі б ножкі такія, —
Ave Maria!

Цябе атрутаю апаілі,
Ружанцам рукі табе скруцілі.
Смялей парві ты яго, не бойся!
У полі недзе шуміць калоссе...
О, як бы жалі рукі такія, —
Ave Maria!

А потым хутка прыйшло б каханне,
Страчала б з мілым свой золак ранні.
А потым стала б ты гаспадыняй
І калыхала б сваю дзяціну!
О, як кармілі б грудзі такія, —
Ave Maria!



Не знаю, можа, мая малітва
Выйграць бы мне памагла гэту бітву,
Але пазвалі яе: манашка
Пайшла за ўсімі, ўздыхнуўшы цяжка,
Пад зводы змрочныя і глухія, —
Ave Maria!..

1957

* * *

Не толькі ўзяў таму я гэту мову,
Што на ёй рэкі, пушчы гаманілі,

Шумелі ў полі каласы і травы,
Пераклікаліся па гнёздах птушкі,

Што з ёю лёгка было стаць чым хочаш —
Пявучай скрыпкай,
жаўруком,
паэтам.

Я гэту мову ўзяў сабе таму, што
Зашмат у ёй было гаротных песень,

І мне хацелася прынесці болей
Ёй чалавечай радасці і сонца.

Таму цяжэй мне, як другім, калісьці
На гэтай мове стаць было паэтам.

1962

## Тут Беларусь была

Пасля бясконцых
Несправядлівых
І справядлівых войнаў,
Пасля пякельных
Курапат,
Хатыняў,
Трасцянцоў,
Апакаліптычнай
Чарнобыльскай гекатомбы, —
Часамі баюся ў рукі браць
Геаграфічны атлас,
Каб не ўбачыць
На зямной паверхні,
Замест святых імён
Рэк,
Ніў,
Лясоў і сёл
Маёй радзімы
Кароткі надпіс:
"Калісьці
Была тут Беларусь".

5.XII.91

* * *

Не вязе мне, спадары, прызнацца.
Паспяшыў калісьці нарадзіцца,
Не навучыўся бізнесам займацца
І не ўцёк у свой час за граніцу.





*З праўнукам Жэнем.*

Сёння мо хадзіў бы ў патрыётах,
Геніяльных бардах-адраджэнцах
І ніякіх бы не знаў турботаў
І ніякай арытміі сэрца.

А то ўзяўся ратаваць Еўропу
Ад няволі, цемрашальства, злобы...
Дзесьці спяць мае сябры ў акопах.
Дай і мне, Бог, легчы з імі побач.

3.II.93

Падземны пераход

Падземны пераход,
Як філіял пякельны:
Гучыць бетоннае скляпенне
Смехам д'ябла,
Якому заманіць
Прахожых удалося
У логавішчы гандляроў,
Дзе сцены ўздыбіліся
У звар'яцелых
Вакханальных актах,
Перад якімі блекнуць
Нат Пампеі фрэскі.

Кіёскі з рознай
Мішурой замежнай,
З атрутным дурманом-
Макулатурай,
А побач — махляры,
Варажбіты, дзялкі,
Любоўны эліксір
З пуцёўкай у "Дольчэ віта".

Сляпому скрыпачу
Ў пустую шапку
Кладу не як падачку,
А доўг свой неаплатны
За франтавую песню
"Эх, дарогі..." —
І пыл іх зноў
Мне вочы засціць...
Выходжу здзіўлены,
Што яшчэ свеціць сонца.

15.VI.93





*Нараджэнне верша.*

## *Ля замежных пасольстваў*

Ля замежных пасольстваў
Людзі візаў чакаюць.
Атрымаў.
Распісаўся.
І ты ўжо ў раю.
За палямі, лясамі,

Другім небакраем.
Можаш не наракаць
На Радзіму сваю.

Можаш маці забыць,
Што цябе ад калыскі
Гадавала ў пакутах,
Вучыла, як жыць...
Настальгія прачнецца?
Дык шклянкаю віскі,
Як і ўсе, пастарайся
Яе пагасіць.

А не ўдасца — пішы.
Мо цябе не забылі
Тыя, што з табой
Некалі разам раслі.
І прасі, каб прыслалі
Табе на магілу
Хоць бы жменьку
Пакінутай
роднай
зямлі.

27.VIII.94

## *Рэцэнзія*

Шкада, што аўтары
Оперы "Гарбачоў",
Пастаўленай ў Берліне,
Не скарысталіся



З фальклору
І не далі сваім героям
Праспяваць
Калісьці складзеныя
Вешчунамі нашага народа
Арый,
Аднаму: "Лепей было,
Лепей было не хадзіці..."
А другому: "Чаму ж мне не пець,
Чаму не гудзець..."
І не закончылі класічнай сцэнай:
"Народ перастае
Маўчаць".

19.X.94

## *Калі перад судом*

Калі перад Судом Апошнім апынуся
І запытаюць, у грахах ці каюся, спашлюся
На тое, што ў жыццёвым амбарасе
На гэта, Спадары, не меў я часу,
Ў няспынных будучы камандзіроўках,
У пошуках сваіх дарог нялёгкіх.
А з нейкаю пярэваратняў зграяй
Не буду грукаць я і ў дзверы раю...

7.XI.94



# Алесь МАСАРЭНКА

*Гэты шалёны тэмп... Цяпельца патухла ў яме воўчай. Святло і цемра сышліся ў адну кропку. Ты згараеш, плавішся, як свечка. І што застанецца пасля цябе? Што?!.*



# АДЗІНОКІ

## ПРЫПАВЕСЦЬ

Бераг праглядваўся дрэнна, замінала дымка і трасавіца ў руках, што з'явілася раніцай ад прадчування блізкай небяспекі. Бінокль здаваўся да нязвычнага цяжкі й нязручны. Кісці рук ацяклі.

Ён яшчэ малым пачуў ад бурата, што калі глядзіш на неба і душа пачынае радавацца, то будзе сонечны дзень, калі ж неба не падабаецца — да непагоды. Цяпер яно было чыста блакітнае з прыгожымі аблокамі-баранчыкамі. Падумаў: "Будзе добрае надвор'е... Гэта дрэнна".

Ужо каля двух тыдняў сядзеў ён у тайзе на беразе Байкала. Лавіў рыбу, хаваючыся ад выпадковых сустрэч з тутэйшымі рыбакамі ды паляўнічымі. На промысел заўсёды выпраўляўся ўначы, потайкам. Раптоўна знікаў і гэтак жа раптоўна вяртаўся.

Апошнія колькі гадоў жыве ён у рыбацкім пасёлку Усць-Баргузін. Пры маці. Нарадзіўся ў Улан-Удэ. Пасля развода з мужам маці пакінула вялікі горад і ўладкавалася на працу ў тутэйшым аэрапорце касіркай.

Як ні дзіўна, на першым годзе яму тут было непараўнальна горш, чым на Поўначы, адкуль вымушаны быў з'ехаць. Ужо тое, што пасяльчане прazвалі новажыхара нелюдзімкам, казала пра многае. Сапраўды, пагляд яго надзіва цяжкі, пахмурны, і сустрэч з ім стараліся пазбягаць. Можа, яшчэ і таму дзічыліся яго, што менавіта ён, нелюдзімак з воўчым паглядам, прымаў самы актыўны ўдзел у бойках, што распачыналіся звычайна кім-небудзь з бічоў-прыблудаў, геадэзістам ці геолагам, завітаўшым на танцулькі дзеля таго, каб займець сабе сезонную сяброўку. Праўда, даваў волю сваім пудовым кулакам адно тады, калі бачыў, што чужаку ўдалося-такі пусціць некаму з прысутных "юшку". Тут ужо ён рабіўся проста непазнавальны — няструмна-лоўкі, знаходлівы. У падскоку моцным ударам у жывот наском чаравіка ператвараў таежнага шалапута ў аслаблую ахвяру, здранцвела-скурчаную ад болю, і

потым ужо дубасіў кулакамі як мае быць, да схочу, каб усе бачылі, на што здатны ў запале. У такія хвіліны яго мог уціхамірыць толькі ўчастковы, які, бегаючы вокала, хапаў за рукі, рабіў падножкі — замінаў наносіць удары, нарэшце неяк усё ж улучваў момант і спрытна, у адзін прыём, укладваў тварам да зямлі. Паляжаўшы так, на жываце, колькі хвілін, буян супакойваўся і пошапкам вытужваў з сябе: “Усё, гнеў улёгся... Старлей, адпусці”. Падымаўся і, стараючыся не глядзець на ўчастковага, нібы стыдаўся свайго ўчынку, пакідаў танцпляцоўку, ведаючы, што заявы не будзе.

Акурат на трыццаць пятым годзе адпусціў бараду. Знакавы момант — перастаў хадзіць на танцы, аціх. Ужо не дэбашырыў, ды яго ўсё роўна пабойваліся, помнячы ранейшае.

Духоўна скамлыжыла, струнка напяла яму нервы Поўнач. Сам не помніць, як усё атрымалася, дзе ўпершыню сарваў тармазы. Але тое, што паспрыяў у “грэхападзенні” закадычны сябрук, былы ўжгарадскі настаўнік малявання, гэта дакладна. Паспрыяў і паўплываў. І нават празмерна. Трапіў той у пасёлак золатаздабытчыкаў яшчэ пры Сталіне — упяклі на зону за паважоўшчыну: адбіваючыся, штурхнуў настырнага маскаля так хітра і спрытна, які, падаючы ніцма, сам жа і ўсадзіў свой нож сабе ў сэрца. Адбыўшы тэрмін, настаўнік завербаваўся сюды, на прыіск. Рабіў сумленна, стараўся. У вольны ад працы час маляваў. Было, што па заказе мясцовай улады капіраваў на ўсю прасціну партрэты Леніна, за што нават ганарар атрымліваў. І даволі прыстойны.

У пасёлку звалі яго Мастаком. Неяк пры сустрэчы ён і пашчыраваў быў: “Цябе, малады чалавек, я даўно запрыкмеціў. Глянуўся яшчэ на тым бурлівым сходзе, калі ты прынародна рэзаў у вочы начальству праўду-матку...” Сапраўды, было такое — сарваўся. За што і пацярпеў: выгналі з камсамола, а з працы звольніўся па ўласным жаданні. Хацеў з’ехаць, але перадумаў — на водшыбе пасёлка пабудаваў сабе дабротны балок, адасобіўся і на ўсіх, добрых і не вельмі, — нуль увагі. Не піў. Не пояснічаў. Але ж і без справы не сядзеў. Рабіў. І толькі на сябе. Нават з прафсаюза выбыў.

Мастак, выходзіць, увесь гэты час назіраў за ім. Аднойчы завітаў. І не з пустымі рукамі — падараваў невялічкую карціну ў дабротнай, з моранага дуба, рамцы, аздобленай залатымі крапінкамі. Падпісаў карціну, як падалося, зусім нават неэтычна: “Браканьер”. У намаляваным маслянымі фарбамі рыбаку лёгка пазнаў сябе. Тут жа і звярнуўся да зайшлы: патрэбны, маўляў, сур’ёзны напарнік, пра што і выклаў усё наўпрост. Мастак, уласна, за чым прыйшоў, з тым і выйшаў — прыняў усе яго прапановы без ваганняў...

І ўжо ўдвух рыбачылі. Сур’ёзна павялі справу. Знайшлі для сябе гэты занятак сапраўдным. Не заўважылі, як прывыклі жыць з рызыкай. І няблага сябе пачувалі. Аднак роўна праз год іх накрылі. Самому яму ўдалося ўцячы. Мастака затрымалі — сеў чалавек не ў свае сані: ногі падвялі, і вінаваты быў тут не столькі ўзрост, як раматус, прыдбаны ў калоніі. Рыбы забралі шмат, Мастак атрымаў два гады. Праўда, так і не прызнаўся, хто быў другі.

З таго часу займаўся небяспечным заняткам адзін — круціўся, як вавёрка ў коле, і дзень, і ноч. Напарнік пасля адсідкі ў пасёлак не вярнуўся. А яго-такі ён, прызнацца, чакаў — гатовы быў узяць, калі не на ўтрыманне, дык хоць дапамагаць харчам, тым самым прыхарашыў бы чалавеку старасць. Заслужыў.

І ўсё, магчыма, ішло б, як і раней, але завёў ён сабе палюбоўніцу. Павабная жанчынка. Алена. І такая ўся ладная — глядзелася з усіх, так сказаць, ракурсаў: што спераду, што ззаду. Рабіла ў канторы золатаздабытчыкаў. Улік нейкі вяла. Але чым яна там на самай справе займалася — адзін чорт, пэўна, і ведаў. Затое ў сэрца ягонае ўпілася востраю скабкай. І глыбока. Не дарма кажуць, што за пралюбадзейства ў насалодзе душы трэба плаціць. Ды аб гэтым ён, няўломак, не задумваўся, бо асаблівых прычын на тое не было — Ленка ў радасці вярталася дадому, і заўсёды падвыпіўшай. Ён у яе быў далёка не першы, і, можа, не дзесяты нават. Маладзічка шалаватая — кінулася ў абдоймы, быццам герой-камсамолец на амбразуру. І, трэба сказаць, юрлівую зеўру ягонай душы наглуха закрыла, заадно пашчапаўшы й калчан з амурнымі стрэламі, каб не было чым даймаць маладух-развядзёнак, якіх на прыіску — хоць адбаўляй. Адным словам, супакоіўся чалавек. І ўсё найцудоўна ішло. У пасцелі Ленка не толькі ласкавая была, але і неўтаймоўная... Чаго толькі не вытварала каравокая шаляніца. Затое бабкаў для сваёй гарэзы не шкадаваў — купалася дзеўка ў абновах. Вядома ж, грошы ягоныя — рыба. У пасёлку ён лёгка збываў свой багаты ўлоў — рабочых як-ніяк на прыіску ставала. Найбольш запасаліся рыбай сямейныя.

Аднак жа — як бы хто да чаго не прывыкаў, як бы смакотна ні ўваходзіў у сутнасць свайго ідэалу, ды некалі ўсё ж і адвыкаць давядзецца. Надта хваравіты момант. Людзі — яны заўсёды чалавекі. Без зайздрасці, як і без крыўды, не могуць жыць...

І нехта, відаць, капнуў таварышам з рыбнагляда, нашаптаў, каб праверылі, чым займаецца чалавек, з чаго бязбедна жыве, і тыя пачалі да яго падбірацца ўсё бліжэй і бліжэй. Неяк прыўдарылі былі наўпагон, але два яго спараныя рухавікі аказаліся мацнейшыя. Уцёк. Лодку прытапіў у зацішным месцы, а сам — хутчэй у пасёлак. Атрымалася: вярнуўся да сябе ў балок раней, чым заявіліся інспектары. Якраз перад іх візітам Ленка прыйшла... Карацей, дзверы яна адчыняла. Ён жа выйшаў да “фараонаў” у трусах і майцы — глядзіце, маўляў, любуйцеся. І тыя пайшлі ад яго ні з чым, нават прабачэння не папрасілі за вераломства.

Ды неўзабаве здарылася непрадбачанае: хтосьці зняў яго снасці й знёс. Мала таго — роўна праз дзень ці не той жа самы мярзотнік прасек днішча ягонай лодкі ажно ў трох месцах. І такая лодка!.. Зноў жа, сустрэўся неяк у магазіне з Ленкіным бацькам — маёр-адстаўнік, працягваў служыць у ахове драгі, адзінай на прыіску — і новая непрыемнасць: радзіцель каханкі пачаў харахорыцца: "Жывеш з дачкою маёй, нябось, як з жонкай, а пра жаніцьбу, нахабнік, і не думаеш, га?!."

Давялося схітраваць — прыкінуўся прасцяком, гэтакім няцямлівым блазнам, і наўздзіў шчыра, задушэўна сказаў: "Таварыш маёр запасу, пахан вы мой ненаглядны! Цяперака я адно і турбуюся аб тым, каб Ленка як найхутчэй забрухацела... Не дай Бог апынуцца ў бракаробах, бо навошта ж вам бясплодны зяць?"

Размовы не атрымалася. Салдафон і ёсць салдафон — уз'ярэпіўся коршакам, затупацеў нагамі й пагрозна выкрыкнуў: "Маўча-аць!.. — Паскорана дыхаючы, лупавока скасіўся. — Вяселля не згуляеш — забулькочаш на дно рачное з прывязанымі да гарба сваімі "віхрамі". Тэрмін на роздум — месяц!"

Сёння ён, уласна, закругляўся — засталося праверыць сеткі, управіцца з рыбай і занесці ў тайгу, дзе ў яго абсталявана і надзейна замаскаваная даволі нядрэнная маразільня.

Хацеў ужо спусціцца ўніз, да вады, адзець гідракасцюм і заняцца справай, як раптам замёр: у прыазёрнай сінечы выразна вымалёўваўся сілуэт катэра, што слізгацеў на шалёнай хуткасці акурат паўз гэты, яго бераг. Паглядзеў у бінокль — трое ў фуражках. "Яны, саколікі!.. Лічы, група захопу. — Па целе забегалі мурашы, стала даймаць дрыготка. Згадалася, як высачылі яго з Мастаком такія ж вось архараўцы. Праз дурноту сваю не ўбераглісся той раз, бяспечна сябе паводзілі. — Аднаго вам мяне не ўзяць, нават калі й зразумееце, што я тут". Людзі "гасударавы" дападныя, не спяць у шапку — лучаюць знянацку загрэбсці. Тым не меней, пакуль нават месца не ведаюць, дзе іх "аб'ект" раскашуе. Мусіць, аніяк не вылічаць. Ён жа, папраўдзе, сядзіць у іх пад носам — за колькі вёрстаў ад пасёлка — і глядзіць у свой "беркут", калі яны, мінаючы яго, імчаць на пошук. Аплэвухі й не здагадваюцца, як іх абвёў вакол пальца. А ўсё проста — у бухце затоплена каля дзесятка рыбацкіх лодак. Пры моцных штормах іх у розны час разбіла аб скальны выступ, не абышлося без ахвяраў... Омуля ў бухце процьма. Касякамі ходзіць. У любы час года.

Ён купіў у Іркуцку гідракасцюм з аквалангам і ручным кампрэсарам. У п'яніц прыглядзеў на выратавальнай станцыі. Апускаўся ў невялікую, але глыбокую ў вусці рачулку, што ўпадала насупраць выступа, акурат наўпроць лодак, і ставіў сеткі. Яму падабалася плаваць каля напаўсатлелых дашчаных корабаў, шырокіх і доўгіх, і глядзець, як блытаецца ў ячэях самавіты омуль. Ведаў, што рызыкуе і сам заблытацца. Але рызыка заўсёды казытала яму нервы. Без рызыкі ён ужо не мог існаваць. Яго душа прагла здабычы любой цаной... Багатай здабычы.

Вось і цяпер, адпаўзаючы па дне расколіны да ракі, стараўся нічым не выдаць сябе. Зашыўся ў зараснік альшэўніку ды вербалозу, пераадзеўся, накінуў шлейкі акваланга на плечы — і ў ваду. Быстра паплыў да лодак. У бліжняй, у насавым адсеку, ляжалі яго свінцовыя чаравікі-шкрэбалы з кароткімі гумовымі халяўкамі. Абуўшы іх, няспешна, ледзьве перасоўваючы ногі, пабрыў да сетак. Рыбы начаплялася шмат. І ўся ніштаватая, ёмкая. Стаў выблытваць і кідаць у доўгі дробнаячэйны мех, што вісеў у яго на грудзях. Раптам сярод блікаў ад брыні ўбачыў чорную пляму. Падняў галаў — катэр. Рухаўся бясшумна, на вёслах. Думкі ліхаманкава змянялі адна адну: "Што рабіць?.. Маразільню нават з сабакам не знойдуць, сеткі — таксама, глыбока. А як быць самому?.. Яны, падобна, не спяшаюцца — праверацъ бухту, пачнуць рачулку абследаваць. Хм, а калі вынырнуць паблізу — прыкінуцца дурнем: падводны, так сказаць, мацыён... Не. Пусты нумар. Адбяруць акваланг — зразумеюць, што да чаго, як вадзіў за нос. Заставалася — даваць драла, як мага хутчэй пакідаць бухту, пакуль яшчэ троху стае паветра.

Вярнуўся да прывязаных за якарны ланцуг ластаў, мех з рыбай перакуліў у кораб лодкі (вернецца і ўсё ўпарадкуе, нічога не прападзе), у воміг вока цяжкія чаравікі замяніў на ласты — і хутка паплыў, бы дэльфін.

Ціск у балоне прыкметна падаў. Неўзабаве і зусім стала цяжка дыхаць. Зняў маску і сцярожка ўсплыў, агледзеўся. Катэр быў метраў за трыста ад яго; да берага бадай ці не столькі ж. Паскорыў тэмп. Давялося перыядычна выныраць на паверхню і напаўняць лёгкія паветрам. "Хоць бы не заўважылі з катэра... Не павінны. Цяпер яны, дурынды, глядзяць на бераг. — Вынырнуў, аддыхаўся і лёг на спіну так, што відаць быў адно нос; лёгка працуючы ластамі, доўга плыў усцяж берага. — Усё ідзе па плану, — супакойваў сябе. — Выслізнуў з ачэпу... Так, уцёк. Трэба ж, мог бы ўліпнуць. — Павярнуў да берага. — Але ж як выйсці незаўважаным?.."

Рос і выхоўваўся ён у нармальнай сям'і. Адно-адзінае дзіцятка. Бацькі ў першую чаргу прышчаплялі яму любоў да працы й вучылі верыць людзям. Быў ён дапытлівы, цікавіўся шмат чым, і заўсёды імкнуўся дайсці да ўсяго сам. У душы — рамантык. Калі заканчваў сямігодку, часта мірсцілася: то ён заблукаў недзе ў Ледавітым акіяне і галодны, без адпачынку кружляе дзень і ноч сярод ільдоў і ніяк не можа выбрацца з гэтай бясконца белай стыні; то дзесьці на Поўначы гоніць наўскач сабачую запрэжку па бязлюднай тундры.

Паступіў у горнае вучылішча, скончыў з адзнакай. І тут жа — армія. Служыў у чыгуначных войсках. Падрыўніком. За два гады давялося паўдзельнічаць у прабіўцы трох тунэляў і будаўніцтве вайсковага гарадка ў раёне Забайкалля. Пасля дэмбеля, не доўга думаючы, махнуў менавіта на Поўнач. І толькі там зразумеў, што людзі ў жыцці сваім зусім іншыя, далёка не такія, як казалі настаўнікі ў школе ды камандзіры ў войску. Яшчэ нядаўна свет бачыўся яму ў ружовым колеры. Ды дзе там! Поўнач зняла ружовыя акуляры, разбіла цудашкельцы ўшчэнт. Жыў ён ужо самастойна, без падказак збоку — і ўсё было інакш. Проста кожны рабіў сабе лёгкую жытку, а ў выніку атрымлівалася, што ўсе, хто яго ачольваў, гэтыя легкаважкія чалавечкі, нібы коўзкія ўюны, з піскам вычварваліся адзін перад адным, забыўшы на ўсё святое.

Часам і ён крычаў-нерваваўся разам з усімі на касамольскіх сходах, выконваў даручэнні, але ўсё тое было адно бачнасцю яго высілкаў і барацьбы, якой так хацелася. Без толку біўся галавой аб сценку: і партыя, і камсамол былі ўсяго толькі хітрамудрымі клапанамі для спуску лішняй пары з гарніла душ просталюдзінаў.

І ён уцягнуўся ў гарэлку. Злаваўся. Але піў. І памногу. Калі зразумеў, што можа дрэнна скончыць, рэзка завязаў, замкнуўся і стаў пануры. Душа знемагала ў поцемках непаразумення: “Людзі, навошта вы гэтак?!.” Аднак яму па-ранейшаму адмаўлялі. І ўсё таму, што не быў анучкаю. Швабры намерваліся начапіць яго на сябе, акунуць у дзярмо і выкінуць. Ён жа — не даваўся.

Пачаў заглыбляцца ў тундру. Далёка заходзіў. Мог гадзінамі сядзець на беразе возера і глядзець на качак, вольных, бяспечных, думаючы, што адно яны, качкі, шчаслівыя ў гэтым свеце. І яго схаваная злосць знайшла-такі выйсце: трэба, маўляў, забіваць іх — няхай гэтыя птахі таксама будуць няшчаснымі.

Яго душа патрабавала крыві, смерці й сытага страўніка. Звярыныя інстынкты. Купіў стрэльбу, зарэгістраваў, каб не чапляліся вартавыя парадку, і зачасціў у тундру. Ён славіўся выдатным стралком яшчэ ў войску. А тут — у першы дзень вярнуўся ні з чым — нават і аднаго стрэлу не зрабіў. Прычына простая: шкада качак. Надта прыгожыя птушкі, бяспечныя. Прага нажывы прачнулася ў наступнае паляванне на другім возеры, дзе качкі паводзілі сябе насцярожана, блізка не падпускалі. Зрэшты, чым і ўзлавалі. І далей — як па масле пайшло, ягдаш біткам набіў. Але жаданага супакаення не атрымаў, адно пашкадаваў, што мала ўзяў набояў...

Як усё абрыдла — хацелася цеплыні, ласкі, спакою. Але нічога гэтага ў яго не было. Сям'і сваёй усё яшчэ не займеў. А пры маці якая цеплыня — мацюкае за бесшабашнасць ды бесталковасць, дражніцца: “Бабыль, дварняк выцерты!” Свой гнеў да мужа перакінула на яго, сына. Бацька ж далёка цяпер — з'ехаў да сябе на радзіму, у Віцебск. Лысець пачаў, і па-страшнаму. Затурбаваўся: “Клімат шкодны...” І — як у ваду кануў.

Маці жывецца някепска, што якраз і радуе. Сын заўсёды пры грашах, а вось як яны дастаюцца, грошы, ёй усяго не зразумець. І не трэба разумець. І нічога ёй не трэба ведаць пра тое, як яму, скажам, сёння цяжка. Ну пэўна ж, ён не такі, як усе астатнія ў пасёлку. Па-адно, скрытны, не хвалько. А галоўнае — рыбу пасяльчанам не прадае, збывае праз сваіх пасрэднікаў у Іркуцк і Улан-Удэ. Выходзіць, гэтак жа сама, як і ўсе тут, ловіць омуля яўна не вудамі, можа, і болей грабе, чым суседзі, ды ніхто не ведае памераў яго прыбытку, бо ні з кім не шчыруе, нікога да сябе і блізка не дапускае. Адсюль і нелюдзімак. Іваўкалака. І гэтакі-разгэтакі. Не, ён ні перад кім нават і не раскайваецца, не апраўдваецца, бо вялікім злодзеем сябе не лічыць: бярэ тое, на што як тутэйшы мае права, і без шкоды для прыроды, непрыкметна бярэ, хоць гэта і няпроста. Улада ломіць сваё. Але наўрад ці калі ёй удасца забараніць чалавеку карыстацца выгодамі тых мясцін, дзе ён жыве. З таго і даводзіцца рызыкаваць. Улада не любіць непаслухмяных. І не толькі асобных людзей. Нават народаў. І яго — зловяць, то па галоўцы не пагладзяць, засудзяць. Але жыцця не пазбавяць, бо і такія, як ён, пустэльнікі ў грамадстве не лішнія. Вось ужо і праўда: кожны чарток ведае свой канурок!

Галоўнае ж — ён уцёк. Пашчасціла ў каторы раз. Калатун — ух, страшэнны. Напруга пякельная — да звону ў вушах. Спалохаўся? Трошку было... Не без гэтага. І цяпер, як і заўсёды ў такіх выпадках, нейкі час трэба мучыцца ад празмернага расстройства нерваў. Ледзяняшчая сэрца нудота пройдзе. Адно не сарвацца б, не паказаць слабасці духа, не ўпасці тварам у гразь. І не паддацца стомленасці: на твары — маска з ідыёцкай ухмылкаю, а ў душы — апраметная цемра, і няма паратунку, святла не відаць. Каторы дзень — суцэльная нэндза, затканая шэрымі похмаркамі абыякавасці й апатыі. Быў бы ён сапраўды воўкам — так і ўзвыў бы на ўсю ваколіцу...

“Поўнач, ты зламала мяне, змачуліла. Як ты мне апрыкла. І як ты любая мне. Любая! — Ён усё яшчэ помніў яе вусцішна-прыцягальную суворасць, і калі б не маці, даўно быў бы там. — Не, выкінуць сваё мінулае з памяці вось так адразу, у адзін мах, не смею. Не маю права. І ніяк не саступіць мне з гэтай чортавай кружэлкі, на якую ж сам і патрапіў...”

Гэта ж не жыццё, калі даброты ўсе дастаюцца іншым, а табе свеціць адно зорачка з бляхі. У лепшым выпадку. А бывае і горш. Знойдуць калі-небудзь твой чэрап, абгрызены лемінгам альбо собалем (ці не ўсё роўна кім!), прывязуць і пастavяць за шыбінку ў сервант як сувенір. І толькі сябры ўспомняць калі-небудзь, як згадваюць тых, хто склаў галаву за тое, каб нехта

лепей жыў, жлукціў гарэлку і непрыстойна смяяўся ва ўсё сваё мурло. Не, ён не дапусціць, каб з яго нехта смяяўся, бо зразумеў нарэшце на чым свіння хвост носіць!

"Я ігнарую гэты свет, гэтую людскую мітусню!.. Колькі ў жыцці чорных дзён? Не падлічыць. І каб такіх дзён было меней, буду і надалей зрываць маскі ідыётаў, гэтых звыродлівых чалавека-падонкаў. Я здольны на такое. І даўно ўжо. Мяне разумее той, хто пераступіў праз сваю слабасць і стаў самадастатковы. Стаў самім сабой, зрэшты. Такое трэба перажыць, вынасіць у сабе, як жанчына — дзіця... Але ж мне цяпер трэба выкараскацца з гэтай бездані. Хто дапаможа? Воўк і той патрэбны ўсім хоць бы й дзеля скуры. А я ж — чалавек. І зусім не тупы, не бяздушны. Ды мая душа нікога не цікавіць..."

Гэты шалёны тэмп... Цяпельца патухла ў яме воўчай. Святло і цемра сышліся ў адну кропку. Ты згараеш, плавішся, як свечка. І што застанецца пасля цябе? Што?!. Пустое месца. Быў, жыў — і няма. Дзе мэта, дзеля чаго так гарэць? Навошта прымаць кулі ў спіну? Ужо ж паўжыцця прайшло і — усё ўпустую.

"Кулі?.. Што за блюзнерства, адкуль? Не накаркаць бы чаго нядобрага!"

Усё і далей так будзе з табой, дружака. Нічога не зменіцца. Ты — звер, здань-ваўкалак. Помні гэта заўсёды. Грызі глоткі дрэнным людзям. І зважай добрых. Цяжка? Нічога не зробіш. І ты некалі ляжаш адпачыць і не ўстанеш, адно блакітнае неба адлюструецца ў памутнелых вачах. Назаўсёды застанешся на сваёй апошняй мяжы, да якой сведама рваўся ўвесь час, ломячы ўсё перад сабой. Падаў, падымаўся і зноў вытужваў свае жылы, ішоў навідавоку. Усе глядзелі на цябе па-рознаму: хто захапляўся, а хто зайздросціў, стараючыся збіць з ног. Але ты — непераможны, хоць і адзінокі.

Цябе ўжо нішто не парадуе, як, зрэшты, і не ўратуе, апрача Поўначы. Там твая астатняя жытка. Там.



## Галіна
## КАРЖАНЕЎСКАЯ



*Вы ў гняздзечку сваім*
*закапацца хацелі —*
*Ўсё адно на жыццёвых вятрах*
*акалелі.*
*І не кожны сагрэцца*
*той іскраю змог,*
*Што завецца Любоў*
*і якая ёсць Бог.*

* * *

Шыя паэта згінаецца цяжка.
Хмеліць увага людская, як бражка.
Воплескі залы —
што мёдам па сэрцу,
Імі вялікая пыха куецца.

Не задаваўся б ты моцна, паэце!
Слаўных і вартасных многа у свеце.
Кожны,
каторы душою не сплеснеў,
Лірык таксама і здольны на песню.

Справа ўсялякая, ведама ж, мае
Тых, хто выдумвае, творыць, шукае.
Дык паважай ты іх болей, чым славу.
Будзеш тады на ўзвышэнні
па праву!

* * *

Знайсці прыпёк, падставіць сонцу твар...
Як мала нам
для шчасця неабходна!
Калі падорыць люты
дзень лагодны,
Перагарнуць ахвота каляндар.

І хоць мае трывожней сталі сны,



Як слепіць снег,
вільготны ды зляжалы!
Зямля — нібы асветленая зала,
Дзе заўтра распачнецца
баль вясны.

## *Дома*

У званочка стаміўся язык —
Ён пачысціў куты адмыслова.
Ў цішыні кожны гук, кожны зык
Падаецца значнейшым за слова.

Мне пакой шкарлупінаю стаў,
Абаронена тут ды закрыта.
Хто нарэшце людзям дараваў,
Той адродзіцца духам нібыта.

Дараваць засталося с а б е.
Толькі гэтак я волю здабуду.
Птах турму сваю дзюбкай праб'е,
Сам сябе прэзентуючы люду...

* * *

Я каменем была
Індыферэнтным,
Прынесеным марэнай, можа быць.
Ад каменя ў мяне
Спакой ды холад
І прага нерухомасці, на жаль.

Я птушкаю была
Малой і спрытнай.
Які у птушкі клопат?
Пракарміцца.
Ды каб паболей неба і цяпла.

Яшчэ ўва мне
Намешана істот
Мо сотня — непадобных,
Самых розных.
І ўсе жадаюць неяк праявіцца,
І ўсе — як гімн матэрыі самой.

Якая ж стане рошчынай
Для Духа?

* * *

Выпала так, як выпала.
Яблыню цветам абсыпала, —
Думаю, будуць плады.
Рынуцца гідкія вусені,
Абараняць сябе мусім мы —
Свой ураджай залаты...

## *Аднойчы*

Хто думаў, што выжывуць
шэрыя дзеткі?
Як трубы анёлаў,
у кактусаў кветкі.



Паднятыя ўгору,
настойліва трубяць
Пра тое, што неба
нас, грэшненькіх, любіць.

Усё прыкмячае
і ўсё нам дарue,
І нашыя скаргі дарэмныя чуе.

Як сілу збяром,
то аднойчы пад лета
Мы гэтак жа выбухнем
казачным цветам.

І свету заявім
з такое нагоды,
Што ўсё аддадзім —
і любоў, і пяшчоту.

* * *

Вы далёка, суседзі, —
як на іншай планеце.
Я не ведаю, хто вы
і як вы жывеце,
Дзе раслі-падрасталі,
ці далёка радня
І чаму за сцяною падчас
калатня.

Вы ў гняздзечку сваім
закапацца хацелі —

Ўсё адно на жыццёвых вятрах
акалелі.
І не кожны сагрэцца
той іскраю змог,
Што завецца Любоў
і якая ёсць Бог.

## *Нашто?*

Мільгаюць лета і зіма,
Плятуць карункавыя звенні.
Не разумею я сама,
Нашто іх дзіўнае кружэнне.

Нашто бяда, нашто любоў,
Нашто нявер'е без прасвету?
Ў сябе дапытваюся зноў:
— Нашто юдоль зямная гэта?

* * *

Разважала рака:
— Горш няма тупіка,
Неахвота
зрабіцца балотам.
А балота з імхоў
У адказ:
— О-хо-хо..
Тут так добра...
Пра сумнае — потым.



# Міхась БАШЛАКОЎ



*Радзіма...*
*Калі ёсць, то назаўжды:*
*Не знікне, не растане*
*Шызым дымам...*
*Яна для нас —*
*Нібы глыток вады*
*Для зморанага смагай*
*Пілігрыма...*

* * *

Плыве каўчэг мой да цябе —
Яго чакае твая прыстань...
Звініць раўчук, такі празрысты,
У адзіноце і журбе...

Ты падстаўляеш свае губы —
Жаданне піць, як і кахаць...
А грудзі — белыя галубкі —
Вось-вось, здаецца, паляцяць...

Не захінай сваю пяшчоту:
Як прыгажосць, яна не грэх...
Забудзь журбу і адзіноту —
Плыве кахання мой каўчэг...

## *Паэзія*

Краіна мараў, сноў і слоў,
Світанак вішняў белых,
Трымценне горкіх журавоў
Над полем апусцелым.

Зіхценне сонечнай расы,
Зязюльчына куванне,
І галасы, і галасы
Дзявочыя ў тумане...

І сосен шум над галавой,
І лёгкія аблокі,



Што праплываюць нада мной,
Лятуць у край далёкі...

І рэха даўніх-даўніх дзён,
Што заблукала недзе,
І капяжоў на золку звон,
І шэпт дажджу, і вецер...

Не знаю я, адкуль прыйшло,
Не знаю я нічога...
Паэзія — не рамяство...
Паэзія — ад Бога...

## *Радзіма*

**1**
Радзіма...
Калі ёсць, то назаўжды:
Не знікне, не растане
Шызым дымам...
Яна для нас —
Нібы глыток вады
Для зморанага смагай
Пілігрыма...

Радзіма —
Гэта светлая любоў
Да родных гоняў
За бялюткім гаем...
Яна — як крык
Самотных журавоў,

Што аж да слёз
Да самых
Працінае...

Як музыка,
Як песня для душы,
Як першае
Нязбытнае каханне...
На схіле дзён,
На горкае мяжы
З вачэй збяжыць
Слязінкай
На растанне...

**2**
Айчыну не кляніце,
Не ганьце задарма...
Якая ёсць — любіце,
Другой у нас няма...

І не ламайце рукі,
І не патрэбна слёз...
Радзіма — не прынука,
Радзіма — гэта лёс...

* * *

***Памяці Максіма ЛУЖАНІНА***

Вершы чытаю Максіму Лужаніну —
Свецяць лагодаю вочы з блакітам...



Словы трапечуцца птушкай параненай
Перад паэтам такім знакамітым.

Быццам чытаю самому Купалу
Ці давяраю радкі свае Коласу...
Ад хвалявання ажно захістала...
"Ну, дык заходзьце", — прыязнасць у голасе.

І я заходжу... Калі давядзецца,
Слухаю ціхі аповед пра даўняе,
Слухаю майстра. А голас, здаецца,
Кнігаўкай плача над слуцкімі плаўнямі...

Там, дзесь далёка, за шызым туманам,
Мілыя воблікі, сэрцу ўсе родныя...
Слухаю майстра. А голас, як рана,
Так мне баліць гэты голас самотны...

"Ну, дык заходзьце", — на ростань зноў скажа,
Моцна пацісне руку, усміхнецца,
Быццам з мінулым мосцікам звяжа —
Колас з Купалам мне адзавецца...

## *Не захінайце неба зайздрасцю*

Не захінайце неба зайздрасцю,
Сваімі горкімі праклёнамі...
Яно блакітнае ад радасці
І па-вясноваму зялёнае.

Яно світальнае і чыстае,
А вы з няўдачамі і горыччу...

Яно такое прамяністае,
А вы з душою, як апоўначы.

Не захінайце, а то хмарыцца
Ад вашых бед і слёз няпрошаных...
Хай жаўруком звініць ад раніцы
Ці плача жоравам над пожнямі.

Не захінайце неба сіняе
Сваёю жальбай недарэчнаю...
Няхай іскрыцца срэбным інеем,
Такое зорнае і вечнае.

* * *

Плаўна апусціцца жоўты лісток
На вечаровую гэту дарогу.
Следам усхопіцца вецер-прарок,
Ціха памоліцца зорнаму Богу...

З неба бяздоннага кропляй расы
Скоціцца сум на шляхі Беларусі.
І на лясы, залатыя лясы
З ветрам таксама і я памалюся...



# Біблейскія архетыпы і хрысціянскія матывы ў беларускай літаратуры

Новая беларуская літаратура пачалася з ананімнага вершаванага апавядання ў жанры травесці “Уваскрасенне Хрыстова і сашэствіе яго ў ад” (канец XVIII ст.), памылкова аднесенага некаторымі даследчыкамі да атэістычнай літаратуры.[1] Між тым добра вядомы ўзоры гэтага жанру ў еўрапейскіх і славянскіх літаратурах. М. Бахцін звярнуў увагу на папулярнасць у сярэдневяковай і рэнесанснай Еўропе абрадава-карнавальных відаў камічнага, у тым ліку **велікоднага смеху.**[2] Беларуская паэтычная рэпрыза да гэтага карнавальна-велікоднага смеху — стрымана-добразычлівая, гумарыстычная, у стылі фальклорнага зніжэння нябесна-высокага да штодзённага і зямнога. Невядомы аўтар апавядае аб прыгодах Хрыста і яго паслядоўнікаў у першы дзень Вялікадня.

Другая частка гэтага твора — пародыя на апокрыфы пра зыходжанне Хрыста ў пекла і вызваленне праведнікаў. Вобразы грэшнікаў і чарцей падаюцца ў натуральна-гумарыстычным плане, па аналогіі з п’янаватымі спрэчкамі на сялянскіх пагулянках.

Апрача “Уваскрасення Хрыстова”, ля вытокаў новай беларускай літаратуры былі дзве ананімныя камічныя паэмы — “Энеіда навыварат” і “Тарас на Парнасе”. У свой час савецкая сацыялагічная крытыка заідэалагізавала гэтыя творы, убачыла ў іх атэізм, класавую барацьбу і сатыру. Але сатыра — гэта адмоўна-зніжальны, нават злы смех, у той час як гэтыя творы грунтуюцца на дасціпным гумары, на амбівалентным народным смеху. Тут ярка выявілася традыцыйная для беларускай народнай культуры травестацыя — перавод афіцыйна высокіх іерархій у матэрыяльна-цялесны ніз, у сферу штодзённага

пабыту. Гэтая парадыйная паэзія ў стылі бурлеску (ад італьянскага burla — жарт) адпавядае свайму паняццю: не сацыяльна-крытычная сатыра, а жарт і дасціпнасць — паняцці эстэтыкі барока. Характэрны камічны прыём "Энеіды навыварат" — спалучэнне язычніцкай тэагоніі з хрысціянскімі абрадамі: багіня жаночай красы Венера пабывала не толькі на беларускім кірмашы, але і на Ушэсці (на царкоўным святе Узнясення Хрыста); заснавальнік рымскага язычніцкага культу Эней перад важнай справаю чытае Хрыстову малітву "Ойча наш", а яго спадарожнікі прадстаўляюцца німфе Дыдоне: "Мы не траянскага прыходу".

У вершы "Зайграй, зайграй, хлопча малы..." пачынальніка беларускай песні-жальбы пятнаццацігадовага Паўлюка Багрыма, аддадзенага ў салдатчыну за гэты і іншыя "бунтоўныя" творы (1828), ёсць спалучэнне хрысціянскай малітвы і язычніцкага плачу-галашэння, але ўжо хутчэй трагічнай, чым камічнай танальнасці:

Дзе ж пайду я? Мілы Божа!
Пайду ў свет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,
З шчасцем на вас абярнуся...[3]

Аналіз творчасці пачынальнікаў новай беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стст. дае магчымасць выявіць тры плыні яе вытокаў, па-рознаму спалучаных з этнакультурнай і рэлігійна-малітоўнай традыцыямі. Пра першую ўжо гутарка вялася: гэта ананімныя паэмы "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе", якія бяруць пачатак ад народнага гратэскна-карнавальнага і гумарыстычнага смеху амбівалентнага значэння. Гэтая плынь прайшла праз усю гісторыю нашай літаратуры, ярка і самабытна выявілася ў творчасці Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны.

Інакшы характар сувязі з хрысціянскай традыцыяй у элегічнай паэзіі: яна пачыналася з фальклору, з пахавальных песень-галашэнняў, з малітоўнай лірыкі. Першым узорам такога лірычнага твора якраз і быў верш Паўлюка Багрыма "Зайграй, зайграй, хлопча малы...", дзе па-юначаму цэльна спалучыліся этнакультурныя і хрысціянскія вытокі. Песня-малітва ніколі не сціхала ў нашай літаратуры, няспынна ўдасканальвалася яе пачынальнікамі (Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Янка Лучына, Францішак Багушэвіч), класікамі (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Змітрок Бядуля), паэтамі



20-х гадоў XX ст. (Уладзімір Дубоўка, Уладзімір Жылка, Наталля Арсеннева), урэшце нашымі сучаснікамі (Уладзімір Караткевіч, Ніл Гілевіч, іншыя паэты элегічна-песеннага кірунку). Паэтыка-малітоўныя звароты да Стваральніка Сусвету, Радзімы і сваіх суседзяў у гэтай паэзіі спалучаюцца з багаборчымі матывамі, якія, дарэчы, упершыню загучалі ў біблейскай кнізе Іова.

Трэцяя скразная плынь беларускай класічнай паэзіі і, шырэй, пэўная грань нашай культуры ў эпоху яе нацыянальнага адраджэння сфарміравалася пад моцным уздзеяннем папулярнай у народзе евангельскай прытчы пра Лазара Беднага і ягонага багатага брата. Паводле Евангелля ад Лукі, яе распавядаў сам Ісус Хрыстос сваім вучням (Лк. 19: 19 — 31). Зразумела, гэты вобраз-архетып моцна пераўтвараўся ў прафесіянальнай паэзіі, страціў канфесіянальна-рэлігійныя прыкметы, дапасаваўся да канкрэтна-гістарычнага нацыянальнага кантэксту. Да таго ж, верагодна, Лазаравы матывы ўвайшлі ў беларускую літаратуру не шляхам непасрэднага пераймання, а праз інтанацыі і мелодыі **лазаравых песень**, вельмі папулярных у народным вясковым і прыцаркоўным побыце. У каментары да зборніка беларускіх духоўных песень этнограф і фалькларыст Е. Раманаў пісаў: "Лазар Бедны" шырока распаўсюджаны на Беларусі, яго спяваюць не толькі старцы ex officio (па прафесіі, "на пасадзе" — *У. К.*), але і ўсе прыгнечаныя і зняважаныя. Здаецца, беларус не супраць таго, каб бачыць у Бедным Лазары самога сябе".[4]

Другі выдатны этнограф М. Нікіфароўскі ў сваім нарысе "Старцы" (1892) апублікаваў тэкст народнага "Лазара" — фалькларызаваную, расквечаную паэтычнай фантазіяй евангельскую прытчу.

Урэшце фалькларыст С. Малевіч апублікаваў тэкст Лазаравай песні ў яе беларуска-каталіцкім варыянце, які пачынаецца аналагічнай уводнай часткай:

Не адзін чалавек багаты быў,
Каторы ў раскошы піваў і ядаў,
У дарагом сядзенні заўжды прахаджаў,
На Госпада Бога ён ніц не ўпаваў,
На святыя царквя Божыя не саздаваў,
Нішчых, калек ён не падараваў,
Брата свайго Лазара за брата не меў...

Народныя Лазаравы песні-паданні ў сваіх заключных частках вар'іруюць развязку евангельскай прытчы. Памерлі бедны Лазар і багаты брат: першы трапіў у рай, другі — у пекла. Пакутуючы ў пякельным агні, багацей просіць Бога (варыянт — Аўраама) пасланць Лазара, каб той асвяжыў яго "арданскай вадой" (з ракі Іардан). Але пачуў адказ: "Паміж багатым і бедным узнікла прорва, якую нельга перайсці".

Евангельскія архетыпы Лазара Беднага і ягонага багатага брата прама, а найбольш ускосна, праз народную культуру, моцна паўплывалі на новую беларускую літаратуру на этапе яе станаўлення — паэзію Ф. Багушэвіча, раннюю творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, іх паслядоўнікаў, што друкаваліся ў штотыднёвіку "Наша ніва" (1906 — 1915). Паэзія першых зборнікаў Я. Купалы ("Жалейка", 1908), Я. Коласа ("Песні-жальбы", 1910) вызначыла элегічную плынь нашаніўскай паэзіі, вядомую ў крытыцы як "плач па роднай староне". Паэтычныя трэны, альбо "плачы", былі папулярныя ў сусветнай літаратуры. У беларускім рэгіёне яны бяруць пачатак ад палемічнага твора Мялета Сматрыцкага "Трэнас" (1610), прысвечанага абароне Праваслаўнай царквы ў перыяд яе змагання з каталіцтвам і уніяцтвам.

Аднак паміж народнымі Лазаравымі песнямі, царкоўнай апалагетыкай і новай беларускай літаратурай пачатку XX ст. ёсць падабенства толькі па інтанацыі, мажорных матывах і на ўзроўні агульных архетыпаў. Паводле свайго ідэйнага зместу беларуская літаратура была свецкай, натхнялася ідэаламі сацыяльнай справядлівасці і нацыянальнага адраджэння Беларусі. Тэма біблейска-хрысціянскіх архетыпаў даследавалася ў шэрагу ранейшых публікацый.[5] Цікава, што якраз Максім Багдановіч (яго з часоў "Нашай Нівы" не без падстаў называлі паэтам чыстае красы) апублікаваў у "Нашай ніве" верш "З песняў беларускага мужыка" (1909), дзе ёсць мастацкая інтэрпрэтацыя прытчы пра Лазара Беднага — своеасаблівае паэтычнае прароцтва пра выспяванне рэвалюцыі:

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, —
Яны ж мне каменні давалі;
І тыя каменні між імі і мной
Сцяною вялізнаю ўсталі.

Яна усё вышай і вышай расце
І шмат каго дужа лякае.



Што будзе, як дрогне, як рухне яна?
Каго пад сабой пахавае?[6]

Другі скразны матыў новай беларускай літаратуры — біблейскі вобраз сельскага Раю і дасканалага грамадства, у якім зняты ўсе сацыяльныя супярэчнасці. У гэтым аспекце яна працягвала традыцыю сусветнай культуры, пачынаючы з антычнасці і Рэнесансу, новаеўрапейскай літаратуры, творчасці англійскага паэта Джона Мілтана (1608 — 1674), аўтара эпічных паэм на біблейскія сюжэты "Страчаны рай" (1667) і "Вернуты рай" (1671). Але ў адрозненне ад сваіх айчынных і заходнееўрапейскіх папярэднікаў эпох Сярэднявечча, Рэнесансу і Барока, якія рэдка выходзілі за рамкі біблейскіх архетыпаў і сюжэтаў, пачынальнікі новай беларускай літаратуры і яе класікі, застаючыся хрысціянамі, арыентаваліся на свецкую культуру. У іх творчасці біблейскія сюжэты і матывы набылі значэнне сімвалаў і выяўленчых сродкаў, было пераадолена ранейшае простае цытаванне і запазычанне з Бібліі.

Пекла і Рай грамадскага жыцця, народа і яго паэта-песняра ў вобразе прарока нацыянальнага адраджэння — скразная тэма новай беларускай літаратуры. В. Дунін-Марцінкевіч у вершаваным апавяданні "Люцынка, альбо Шведы на Літве" малітоўна звяртаўся да Усявышняга:

Божа наш! Ты шыбануў на зямлю чалавека,
І няшчасця бярэмя і шчасця адвеку
Ты прызначыў яму, выганяючы з раю, —
Як жа ў смутак душы яго любасць да краю
Ты уліў? І чаму ён ля роднае нівы
Адчувае і вольным сябе, і шчаслівым?

**(Пераклад з польскай мовы С. Дзяргая)**

Янка Купала і Якуб Колас у ранняй паэзіі абвясцілі свету пра пякельныя бакі нашай гісторыі і жыцця мужыцкай вёскі — гэтага спрадвечнага падмурка беларускай нацыі. А пазней, у 1910 — 1918 гг., пасталеўшы і пазбавіўшыся рыгарызму маладосці, таленавіта выявілі гармонію роднага краю, дзіўную красу адзінства сялянскага быцця з прыродай і космасам. У Якуба Коласа райскія матывы ёсць у лірычных адступленнях і эпічных карцінах "Новай зямлі" і "Сымона-музыкі". У М. Багдановіча — гэта цыклы вершаў пад назвай "У зачараваным царстве". У Янкі Купалы — эпічна-пастаральная паэма "Яна і я" (1913), дзе ў заключэнні ёсць такія радкі:

Раем на зямлі выглядываў нам сад,
Я ў ім — Адам, Яна ў ім — Ева;
У раі гэтым вецер быў нам Бог і сват,
Вецьвямі шлюб давала дрэва.[7]

Даследчыкі чамусьці не звярнулі ўвагі на хрысціянскія матывы Лазара Беднага, Пекла і Раю ў класічнай драме Янкі Купалы "Раскіданае гняздо" (1913). Ужо ў экспазіцыі да першага акта аўтар зазначае: "Данілка на зямлі скрыпку майструе. Старац сівы, як голуб, абчэплены торбамі, з кіем у руках, сядзіць на лаве". Старац і хлопчык-музыка — гэта здвоены вобраз беларускага дудара-жабрака, надзвычай папулярны ў традыцыйным сялянскім побыце. У чацвёртым акце ёсць дыялог Сымонкі і ягонай маці, дзе хлопчык-музыка кажа: "Бяда толькі, што няможна іграць на хаўтурах, а то такога "Лазара" завёў бы, што хоць у прысядкі ідзі". А ў фінале драмы — аўтарская рэмарка: "Старац ідзе наперад, за ім Марыля з дзецьмі па баках, а за Марыляй — Данілка. Усе пяюць "Лазара". Данілка іграе..."[8]

У шостай з'яве першага акта трагічная гераіня Зоська расказвае малодшым братам і маленькай сястрычцы Алёнцы свае райскія сны. Казачны анёл ("на галаве — месяц , у руцэ сонца трымае") вядзе выгнаную з роднага гнязда гаротную сям'ю ў Рай праз Пекла, папярэдзіўшы ўсіх: "Што б там перад вамі ці за вамі не рабілася — не аглядвайцеся назад, а ідзіце за мною ўсё наперад, усё наперад". Тут — алюзіі на вядомае паводле Біблії (Быццё 19: 26), антычных міфаў пра Арфея і беларускіх чарадзейных казак-табу, якога трэба прытрымлівацца пры пераходзе з ніжняй вертыкальнай зоны космасу (Апраметная) у зону верхнюю (Рай). Вобраз Раю ў снах Зоські — тыповы для беларускіх казак ("Ідзём гэтым *садам-раем* ды ідзём, ажно калі паглядзім!.. Стаіць палац відам не віданы, слыхам не слыханы; увесь зіхаціць: як бы з самога сонца быў зроблены; сцены залатыя-залатыя, а страха бліскучымі маланкамі пакрыта".). У Раі яны бачаць Спаса, Матку Боску, любімых у народзе святых — Юр'я, Міколу, Ілью.

Вобраз Раю як ідэальнага саду — таксама біблейская рэмінісцэнцыя (Быццё 2: 8 — 9).

Біблейскія матывы ў драме Купалы фалькларызаваліся, набылі прыкметы міфалагічных архетыпаў чарадзейнай казкі. У дыялогу Данілкі-музыкі і ягонай маці Марылі сын пытае: "А ці праўда, мамка, што ёсць такая старонка, праз каторую *плывуць крыніцы з жывою вадою*? Кажуць, калі напіцца тае вадзіцы жыватворнае, дык чалавек ніколі не ўмрэ (...). Як вырасту такі вялікі і дужы, як наш Сымонка, тады пайду з сваёй скрыпачкай шукаць гэнае крыніцы, а як знайду — сам нап'юся і вас усіх пачастую..." (Падкрэслена мною — *У. К.*) Данілка хоча знайсці і казачную ваду мёртвую, ад якой адразу памрэ доля горкая. Евангельская прытча пра жывую ваду (сімвалічны вобраз Хрыста) увайшла ў сюжэты беларускіх чарадзейных казак: у драме Янкі Купалы адбылася кантамінацыя евангельскай сімволікі (у эпізодзе сустрэчы з самарыцянкаю Хрыстос кажа: "...А вада, якую Я дам яму, зробіцца ў ім крыніцаю вады, якая пацячэ ў жыццё вечнае".) (Ян 4;14) з казачнымі ўяўленнямі пра жывую і мёртвую ваду.

Урэшце сюжэт драмы "Раскіданае гняздо" ёсць скрытая мастацкая інтэрпрэтацыя біблейскага сюжэту выгнання нашых прабацькоў Адама і Евы з Раю, бо ў народных уяўленнях гняздо, "родны кут", свая зямля — гэта жывыя сімвалы зямнога Раю. Пра гэты Рай мараць і шукаюць героі эпічнай паэмы Якуба Коласа "Новая зямля", а лірычныя апісанні "роднага кута" — мастацкая апалогія сялянскай сядзібы-раю.

Беларускія пісьменнікі эпохі нацыянальнага адраджэння другой паловы XIX — пачатку XX ст., як правіла, выступалі пад літаратурнымі псеўданімамі: Мацей Бурачок (Францішак Багушэвіч), Янка Купала (Іван Луцэвіч), Якуб Колас (Кастусь Міцкевіч), Змітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік), Алесь Гарун (Алесь Прушынскі) і інш. Было б памылкова тлумачыць гэтую псеўданімнасць толькі палітычнымі матывамі. Яе галоўная прычына — арыентацыя на звышасабістае, нават прарочае значэнне літаратуры, на яе выкрывальніцкія і прагнастычныя функцыі. Янка Купала лічыў беларускую адраджэнцкую паэзію прарочай, а яе творцаў — нацыянальнымі прарокамі. Вобраз прарока ў яго творчасці шматаблічны: гэта і "ціхі" гаротнік-селянін; і смелы выкрывальнік сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці, прыкрыты часовай, чыста працэдурнай пакорай (паэма "Гусляр"); і грамадскі дзеяч, што заклікае да адраджэння беларускай дзяржаўнасці ("На сход, на ўсенародны грозны, бурны сход // Ідзі, аграблены, закованы народ!" ("На сход", 1918.)

У сімвалічнай паэме Купалы "На куццю" (1911) вобраз прарока выступае ў трох іпастасях: асветніка ("А першы гэткі светлы быў, // Як небам сланыя праменні: // Ў руцэ меў светач, што наздзіў // Усе усюды зводзіў цені..."), рыцара-ваяра ("... У руцэ меў стрэл жалезны пук // І лук стальны меў за плячамі...") і песняра-паэта ("А трэці быў як раб і цар, // І слаб, і дуж ва ўсякім дзеле. // Як вечнасць, молад быў і стар: // Меў гуслі — на грудзях віселі..."). Магістралам да прарочых

цыклаў паэзіі Купалы стаў верш “Паўстань” (1919). За яго перавыданне ў 1930 годзе паэт ледзь не заплаціў жыццём. Гэты твор — трансфармацыя паэтычнай міфалогіі і прароцтваў у вобразную сістэму палітычна ангажаванай лірыкі: “Паўстань з народа нашага, Прарок, // Праяваў бураломных варажбіт, // І мудрым словам скінь з народа ўрок, // Які быў век праз ворагаў спавіт! // Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю, // Вазьмі з яе прысягу і зарок, // Што не прадасць сябе, сваю зямлю (...) // Паўстань з народа нашага, Пясняр (...) // Паўстань з народа нашага, Уладар...”

Урэшце з Купалавай паэзіі пачынаюцца багаборчыя матывы ў беларускай літаратуры, памылкова аднесеныя асобнымі даследчыкамі да атэізму. На самай жа справе прарочае багаборства ёсць вынік сатворчасці і сумоўя з Богам. Багаборчыя сны-архетыпы ёсць у відмах Якуба (Якава) з Біблії (“І змагаўся Нехта з ім да раніцы (...) І сказаў яму: з гэтага часу імя тваё будзе не Якаў, а Ізраіль, бо ты змагаўся з Богам, і чалавекаў перамагаць будзеш”.) (Быццё 32: 24 — 28), у кнізе Іова і іншых біблейскіх творах. Багаборчыя матывы Купалы ёсць у вершах “Мая малітва”, “Мая вера”, “Слугам аўтарным”, сфакусіраваныя ў малітве-запытанні: “За што, о Божа праведны, магучы, // Караеш так няшчасны наш народ? // Чаму на стогн маўчыць Твой гром бліскучы, // На стогн, што да Цябе йдзе з году ў год? (...) // Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа, // Калі ты Цар і неба, і зямлі!” (“Цару Неба й зямлі”)

Савецкая цэнзура (у тым ліку прымусовая аўтарская самацэнзура) імкнулася поўнасцю “абязбожыць” беларускую літаратуру. Першапачатковы варыянт Коласавай паэмы пра беларускага Арфея “Сымон-музыка” (друкавалася ў газеце “Вольная Беларусь” у 1917 — 1918 гг.) — адзін з самых хрысціянскіх твораў новай еўрапейскай літаратуры. Паэтычная эпічнасць беларускага Гамера (ён у адрозненне ад антычнага папярэдніка апяваў не герояў вайны, а красу традыцыйнага сялянскага побыту і працы) па кантрасце ўраўнаважвала неспакойную бунтарскую музу Купалы — беларускага шматпакутнага Іова. Ліра-эпічныя паэмы Якуба Коласа “Новая зямля” і “Сымон-музыка” (дакладней, эпічныя творы, у якіх выяўлены духоўны сэнс беларускага нацыянальнага Космасу) пранікнуты рэнесансавым пантэізмам, поглядам на Сусвет як на жывы твор Бога. У савецкіх публікацыях (яны, на жаль, узяты за аснову акадэмічных, таксама падцэнзурных выданняў твораў паэта) ягоны паэтычны эпас часткова абездухоўлены, тут выкінуты не толькі рэлігійныя ідэі і біблейскія матывы, але нават дэталі царкоўнага побыту. Напрыклад, *Божы свет* заменены *гэтым светам, а Бог — лёсам.*



Аднак жа Янка Купала і Якуб Колас (з класікамі крыху лічыліся і бальшавікі) здолелі захаваць духоўную аснову часткі сваіх твораў, ахвяраваўшы для цэнзуры біблейска-хрысціянскімі матывамі. Затое над душой Змітрака Бядулі быў учынены звычайны здзек: з адукаванага біблеіста ён быў пераведзены ў ранг ваяўнічага бязбожніка, з аматара беларускага фальклору і міфалогіі — у выкрывальніка “вясковых забабонаў”.

Хрысціянскія матывы, пераўтвораныя ў кантэксце нацыянальнай традыцыі, ёсць у творах Максіма Багдановіча “Хрэсьбіны лесуна”, “Летапісец”, “Перапісчык”, у цыкле “Мадоны”, у апавяданнях-прытчах “Апокрыф”, “Мадона”, “Апавяданне аб іконніку і залатару...”. Ёсць у яго літаратурныя альбо скрытыя алюзіі на біблейскія матывы ў вершы “Упалі з грудзей Пана Бога...”, баладзе “Страцім-лебедзь”. Уся творчасць гэтага паэта чыстае красы адсвечвае нябеснай гармоніяй, улагоджвае выяўленыя ў ёй трагічныя калізіі зямнога жыцця.

---

[1]Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 тамах. Т. 5. Мн., 1987. С. 262.

[2]Б а х т и н М. М. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. 2-е изд. М., 1990. С. 91.

[3]П а ў л ю к Б а г р ы м. Мн., 1994. С. 8.

[4]Р о м а н о в Е. Белорусский сборник. Вып. 5: Заговоры, апокрифы и духовные стихи. Витебск, 1891. С. 356.

[5]Роднае слова. 1996. № 9. С. 41 — 51. 1997. № 4. С. 20 — 33.

[6]Б а г д а н о в і ч М. Поўны збор твораў. У 3 тамах. Т. 1. Мн., 1992. С. 210.

[7]К у п а л а Я. Збор твораў. У 7 тамах. Т. 5. Мн., 1974. С. 130.

[8]К у п а л а Я. Збор твораў. У 7 тамах. Т. 6. Мн., 1975. С. 316, 340.

**Уладзімір КОНАН**



**Кацярына САЗАНКОВА,**
**студэнтка II курса Беларускай акадэміі мастацтваў**

*На сцэне — доўгая зімовая ноч. За акном злосна і тужліва вые вецер. І зноў... як у апошняй рэмарцы — доўгае трывожнае чаканне. Старыя выйшлі наперад... Глядзяць у той бок, дзе кожную раніцу ўзыходзіць сонца, каб асвятляць і саграваць зямлю...*



# “ВЕЧАР”

**П’еса Аляксея Дударава на сцэне Купалаўскага тэатра**

Існуе непаўторны мастацкі свет — свет Аляксея Дударава. Ён — творца псіхалагічнай драмы “Вечар”. Яна аб тым, як шмат гадоў вяскоўцы, сталыя ўжо людзі, жывуць у чаканні ўбачыць або пачуць сваіх дзяцей, якія, пакінуўшы аднойчы сваю вёску і пайшоўшы ў жыццё, далі бацькам толькі надзею і...

Менавіта гэтую тэму прапанаваў нам Аляксей Дудараў. Напэўна, няма такога чалавека, які, прачытаўшы твор, застаўся б абыякавым да яго герояў. І калі не дапамагчы, то паспачуваць ім, здаецца, здольны кожны.

Аўтар “Вечара”, відаць, ставіў перад сабой асноўную задачу — паказаць сучасную вёску такой, якая яна ёсць. Паказаць разам з яе жыхарамі, іх клопатамі, жаданнямі, марамі.

Ёсць і звышзадача — выявіць, як гэтыя сельскія людзі ўпарта, зацята, нават, можна сказаць, мужна змагаюцца з тым пачуццём, якое нельга выказаць словамі. Паказаць, як чалавек можа духоўна дапамагчы іншаму сустрэць свой “вечар”. Спачатку кожны пераадольвае цяжкасці паасобку, а потым людзі вядуць гэтую барацьбу разам. Разам, яно і весялей... і мудрэй.

У творы мы сустракаем незвычайны вобраз-сімвал. Гэта сонца. Справа ў тым, што бываюць іншым разам такія думкі, якія не выкажаш, ды і каму — на вёсцы толькі тры “жывыя хаты”, ды ў іх тры чалавекі на ўсё селішча. А сонцу можна расказаць пра многае, параіцца з ім, выказаць сваё, набалелае.

Сонца — сімвал цяпла і святла. Галоўны герой твора Мульцік так і кажа:

— *Вунь свеціць... І грэе ўсіх... Усё на зямлі ад цяпла і святла...*

*Калі душа ў чалавека цёплая і светлая, значыць, кавалак сонца па зямлі ходзіць...*

Так пачынаецца наша знаёмства з вяскоўцам Мульцікам. Ягонай размоваю з Сонцам. Маналог — зварот да Сонца — выяўленне дабрыні Мульціка, яго багатага ўнутранага свету. І хоць Ганна лічыць, што стары ашалеў пад старасць, што з Богам размаўляць трэба, а не невядома з кім, тым не менш наш герой мае свой погляд наконт таго, з кім лепей раіцца.

Вобраз-сімвал Сонца ў драме "Вечар" моцнай нябачнай сувяззю знітаваны з вобразамі Зямлі і Бацькаўшчыны.

П'еса пачынаецца наступнай рэмаркай: "Вуліца сучаснай неперспектыўнай вёскі. Хата, яе фасад. Пад вокнамі лавачка. Злева, каля плота, стары, рыпучы журавель. На адным яго канцы ледзь пагойдваецца абшарпанае драўлянае вядро, на другім — груз. Чаго толькі тут не панавешана! І шчарбатая шасцяронка ад камбайна, і доўгая мядзяная гільза ад снарада, і кавалак гусеніцы ад трактара, і нават іржавая прабітая каска. Калі набіраць ваду, праз тужлівы рып жураўля чуваць перазвон гэтых жалязяк — парэшткі мінулай эпохі".

Тужлівы рып... Ці не сімвалізуе ён сумнае жыццё трох старых людзей, якія знаходзяцца ў заўсёдным чаканні. У чаканні чаго, каго? Кожны раз пры сустрэчы ля калодзежа ўглядаюцца яны ўдалеч, ці не ідзе хто да іх у вёску. Замірае сэрца і ў чытача, і ў гледача. Разам з героямі спадзяёмся. Але...

*— Павярнуў... У Займішча, мабыць.*

Не раз хвалюемся, не раз чытаем: *"Выбеглі наперад, глядзяць. Чакаюць, уздыхнулі".*

*— Павярнулі... Па грыбы прыкацілі...*

*— А ты ўжо ўзрадаваўся! Не прыедуць...*

Не раз і не два вось так перажываюць, углядаючыся ў вуліцу, у канец вёскі, гэтыя людзі. І спадзяюцца.

Сумны скрып калодзежа, старэнькае абшарпанае вядро, груз... Неперспектыўная вёска.

А жыццё? Таксама неперспектыўнае? Змрочныя дэкарацыі... Здаецца, маючы такі пачатак і не ведаючы зместу "Вечара", можна здагадацца аб тым, што далей разгорнецца ў сцэнах-эпізодах гэтай п'есы: цяжкае сялянскае жыццё ад пенсіі да пенсіі, догляд сякой-такой жывёлы, няўдзячнасць дзяцей, сумнае бясконцае чаканне хоць якой-небудзь вестачкі ад іх.



Але, пазнаёміўшыся з героямі, правёўшы з імі пэўную колькасць дзён, бачым, што няма тут і следу галечы, нястачы, цяжкога жыцця. Сум і тугу разганяюць надзея на лепшае, розум і чысціня душы галоўнага героя — Мульціка.

Ці не з'яўляецца сам Мульцік сімвалам дабрыні, чысціні, практычнага розуму, сціпласці, любові да Бацькаўшчыны, да людзей, разам з тым Сонцам, да якога, як да асобы, не раз звяртаецца наш герой?

Адсюль бярэ свой пачатак адметнасць Мульціка ад Гастрыта — яшчэ аднаго героя п'есы, які, у адрозненне ад Мульціка, не верыць ні ў людзей, ні ў сябе, ні ў сваіх дзяцей, можа плюнуць у калодзеж, а ўжо пра Сонца і казаць няма чаго. Яго словы — лепшае сведчанне, лепшая характарыстыка яго душы:

*— Ты проста прыдурак ці толькі прыкідваешся? Сонцу, як людаед, моліцца, вада ў яго ну не проста вада, а жывая... Нябожчыку на пятку капні — у скокі пойдзе... Здзяцініўся пад старасць! Нездарма цябе Мульцікам клічуць.*

Герой драмы "Вечар", як і героі твораў Якуба Коласа і Янкі Купалы, ставіцца да зямлі з павагай. Гэта характарызуе Васіля — Мульціка — як чалавека працы. Зямля для яго — тое, што дае пачатак усяму жывому:

*— Зямля з радасцю аддае ўсё таму, хто да яе рукі прыкладае...*

Павага да Сонца, да Зямлі-карміцелькі характарызуе Васіля як чалавека- хлебароба:

*— Я хлебароб вечны... Хлеб раблю... А калі робіш хлеб — трэба сябе карміць.*

Вось тое галоўнае адрозненне Васіля ад Гастрыта — Мікіты, які харчуецца ў сталоўцы вёскі Займішча і не мае ні гаспадаркі, ні гародчыка. Васіль робіць на зямлі, марыць аб чымсьці, размаўляе з Сонцам, імкнецца рухацца, каб жыць, а галоўнае — перакананы: чалавек, які нарадзіўся на зямлі, на зямлі і памерці павінен, сам сабе ежу здабываючы.

*— Сам сябе ўсё жыццё карміў, кармлю і да смерці карміць буду.*

Ганна, з якой мы пазнаёміліся каля калодзежа і зразумелі, што адзінокая і яе душа, слухаючы Васіля, адказвае яму:

*— Стамілася толькі я...*

Васіль жа і на гэта прыводзіць важкі аргумент:

*— І я стаміўся... Але мы з табой яшчэ толькі таму і жывём,*

*што кожную раніцу па ваду ў гэты калодзеж ходзім, на сотках сваіх калупаемся... З зямлёй за доўгі век зрасліся, душой-сэрцам увайшлі ў яе, а цяпер па курортах? Паспрабуй толькі! Хоць адзін дзень паспрабуй паляжаць паленам — усе хваробы як саранча наляцяць...*

І зноў знітаванасць чалавека з зямлёй і тое спрадвечнае: у руху — жыццё.

Нават на прапанову Гастрыта ехаць на курорт, а таксама на прыведзеныя довады, што Мульцік хоча сабе батрачку на старасці, Васіль спакойна і мудра адказвае:

— *Хадзі, баба, да мяне! Жыць будзем, як жылі...*

*Памагаць адзін аднаму... Адпачываць па святах...*

*І рабіць на зямлі! Трэба так, Ганна, трэба...*

На працягу ўсяго твора можна заўважыць думку Васіля, якую ён выказвае не толькі Мікіту, але і Ганне:

— *Мы з табой нарадзіліся людзей хлебам карміць... Усіх. Давядзецца на Сонцы адказ трымаць, скажам: "Кармілі. Усё жыццё. Каб не войны праклятыя — лепей бы кармілі... Таму і жылі спакойна... З зямлёй і Сонцам у згодзе..."*

Гэтая філасофія хлебароба Васіля розніцца з філасофіяй Мікіты —філасофіяй дурноты.

Жыццёвыя погляды двух пажылых людзей — розныя, як розныя і іх лёсы. Калі ўзяць Ганну, то і ў яе лёс акажацца іншым; але нешта ў іх аднолькавае. А гэта — чаканне дзяцей, чаканне хаця б вестак ад іх. І яшчэ нешта аб'ядноўвае іх. Можа, калодзеж...

Менавіта каля яго сыходзяцца старыя, іменна ён, гэты стары калодзеж, дае ім надзею на жыццё...

І зноў філасофія, і зноў сімвал — вада. Вада — гэта жыццё.

І на пытанне, якое задае Мульцік Гастрыту, на сваё філасофскае пытанне — навошта людзі на зямлю прыходзяць, навошта жывуць? — сам жа дае адказ:

— *Зямля халодная, і неба халоднае, космас яшчэ халаднейшы... даў нам Бог жыццё, каб мы ўсё гэта сагрэлі... Душамі сваімі сагрэлі! І зямлю, і неба, і адзін аднаго...*

Каштоўнасць драмы — у яе праўдзівасці.

Задумаемся над меркаваннем Мульціка наконт пытання Гастрыта — "у чым жа шчасце?":

— *У працы... у радаснай працы...*



Мульцік філасофствуе аб тым, што шчасце — тады шчасце, калі сам яго здабываеш:

— *Шчасце з чужых рук заўсёды кіслае... Шчасце самому сабе рабіць трэба... І ўпрогаладзь жывучы, радасныя песні спяваць можна... Галодных у нас даўно няма... Не ў сытасці шчасце...*

Адна з рэмарак ясна гаворыць нам пра тое, аб чым мараць насельнікі неперспектыўных вёсак: "...І ці то ўяўляецца, ці то сніцца старым жыхарам наступнае: павольна і ўрачыста падыходзяць да калодзежа іх дзеці". Сон —сімвал калектыўнай падсвядомасці. Яшчэ ў М.Г. Чарнышэўскага яго раман "Что делать?" сном Веры Паўлаўны паказаў нам грандыёзныя мары людской грамады.

Але ўсё раствараецца, знікае. Доўга-доўга глядзіць на дарогу Мульцік. Дарога, далеч, невядомасць, надзея...

Праблема лёсу неперспектыўных вёсак даўно стала надзённай, балючай. Непазбежнасць прагрэсу — вось прычына таго, што вёскі пусцеюць, застаюцца без жыхароў.

Аўтар п'есы "Вечар" не проста паказвае псіхалагічныя ці драматычныя моманты жыцця герояў, але і робіць нас удзельнікамі падзей, прымушае суперажываць створаным ім персанажам. Аўтар вымушае нас задумвацца над паводзінамі такіх людзей, як Гастрыт.

Прыгадваючы жыццё Гастрыта, яго лёс, калі ўвесь час у яго было ўсё напалову, пачынаеш разумець яго філасофію:

— *Хіба можна ў гэтым свеце без нянавісці пражыць?*

Яго здзіўляе, што Мульцік, калі быў у партызанах, і немцаў без нянавісці біў.

— *Нянавісць і святая ёсць...* — *кажа ён.*

— *Святое ў жыцці толькі святло, цяпло, любоў і зямля.*

Гэта ўжо філасофія іншага чалавека, Мульціка.

Тут варта задумацца: чаму аднаго клічуць Мульцік, а другога — Гастрыт?

Заўсёды з'едлівы, да ўсяго чапляецца, задае пытанні, спрачаецца, плюе ў калодзеж, разважае па-свойму, дае свае ацэнкі кожнай з'яве. Аўтарская характарыстыка героя гучыць словамі Мульціка:

— *Каб ты здох! Ну што ты за чалавек? Гастрыт, адно слова — Гастрыт...*

І толькі напрыканцы жыцця Гастрыт задумваецца над тым, пра што гаворыць яму Мульцік. Што любіў мала, шкадаваў мала, плакаў мала.

“Не судзі, і не будзеш асуджаны”, — чуем мы часта. Дык будзем спачувальнымі да гэтага старога чалавека, які нарэшце разумнее, але ўсё ж такі, хоць і са слязьмі, лічыць, што вінаваты не ён.

*— Госпадзі! Як жа гэта? Я ж чэсна працаваў, падтрымліваў, стараўся. Казалі ісці — ішоў, казалі рабіць — рабіў, гаварыць — гаварыў... Ой, Васіль! Свет, свет наўкол паганы!.. Не ўсё ж для сябе рабіў! Сэрца сваё, бывала, да болю ў кулак заціскаў і... рабіў.*

Вобраз Васіля — Мульціка — увасабленне дабрыні, чысціні і надзеі, што свет не пазбавіцца такіх людзей, прыгожых сваёй душой. Ён добры, святы чалавек.

*— Свет добры... чысты... Гэта мы яшчэ дрэнныя... Нам саміх сябе перарабіць трэба, а мы, дурні, усё свет перарабіць хочам, пад сябе падагнаць...*

Зварот да Сонца ў канцы твора таксама сведчыць аб дабрыні Васіля:

*— ...Ні за адну, нават самую горкую, слязінку не наракаем на жыццё. Дзякуй за тое, што жылі, мучыліся, плакалі... Дай нашым дзеткам цяпла, святла... Сагрэй іх...*

Мульцік таксама перажывае адзіноту, але ставіўся да яе больш спакойна. Адпаведна свайму спакойнаму характару ён выпрацоўвае філасофію —філасофію любові, міласэрнасці, дабрыні, жалю, павагі да зямлі.

У дыялогах раскрываецца светапогляд трэцяй гераіні п'есы — Ганны. Задаючы пытанне, ці можна ўсё цяжарнай жанчыне вынесці, Ганна чуе адказ Васіля:

*— Ты не ў людзей, ты ў фашыстаў страляла...*

Ганна ж прыводзіць свае меркаванні, па якіх мы мяркуем пра яе філасофію:

*— Бабе трэба ласкавай быць, на сонца, як ты кажаш, часцей глядзець, тады і дзіцёнак цёплым родзіцца і ласкавым... А я... Толькі ваявала... Рабіла, рабіла, рабіла... а на гэтым свеце няма чаго пакінуць... І нашто нарадзілася?*

Ёсць у п'есе моманты, якія ўспрымаюцца з гумарам. У жыцці так заўсёды: смех і слёзы, слёзы і смех. Прыгадаем сцэну з пісьмом.

***Ганна.*** *Не-не-не! Табе радасць, дык ты ўжо і мяне парадуй... Згоцай “Лявоніху” з прыпеўкамі... А так — забі — не аддам!*

***Мульцік.*** *А, ёлкі-маталкі! Аддай, табе кажуць, а то зараз самую шчупаць пачну!*



Закончылася сцэна далёка не жартачкамі. Мульцік схапіўся за спіну, стаіць, як пытальнік.

*— Порхаўка старая! Прысядкі ёй трэба!.. Дай толькі разагнуцца — ты ў мяне балетам заскачаш!..*

Сцэна “сватання” вельмі захапляльная. Мы чуем прапанову Гастрыта:

*— Ганна... давай я на табе як-небудзь паджанюся... Га?*

А ў адказ:

*— Што-што-што?! Во спасібачкі! Во ўважыў! Гэта ты мяне замест ката свайго рыжага да сябе завеш... Каб дыхала... А мышэй мне лавіць у тваёй хаце не трэба будзе?*

А на прапанову Ганны жыць утраіх Гастрыт здзіўляецца, можа, нават абураецца:

*— Цьфу! Я ёй руку і сэрца, а яна мне — абшчажыція! Дом прыстарэлых!*

*— Тады пайду ў свайго Піліпа спытаюся... Калі дазволіць — перайду.*

Смех скрозь слёзы, як кажуць у народзе.

Прыгадаем сцэну, калі Мульцік захварэў. Убачыўшы яго з сашчэпленымі рукамі, Ганна загаласіла. Расплюшчыўшы вочы, Мульцік пытаецца:

*— Ты што, ашалела? Чаго скуголіш?*

*— Каб ты праваліўся! Чаго ляжыш, як чурбан?! Я думала, што ты ўжо гатоў... І рукі сашчапіў! — цяжка дыхаючы, кажа Ганна.*

*— Трэніроўку рабіў. Прымерваўся, як буду ляжаць на покуці...*

Да канца дзён сваіх Мульцік застаецца Мульцікам. Сама мянушка ў яго нейкая дзіцячая, жартаўлівая. Ледзь ачуняў ад хваробы, а ўжо рухаецца, некуды ісці збіраецца, патрабуе штаны:

*— Я сказаў — давай штаны...*

*— Я табе зараз чапялой па штанах! Ляж, певень трухлявы! — крыкнула Ганна.*

Мульцік увасабляе моц зямнога пачатку ў чалавека. Пачатак, як ён лічыць, чалавек бярэ ад зямлі. Вось і цягне яго да зямлі, да працы. Да працы — значыць, да руху. Вось адзінае выйсце, каб жыць, — трэба рухацца, працаваць.

***Ганна.*** *Куды? У цябе ж сэрца...*

***Мульцік.*** *Сэрцы ва ўсіх. А зямля не чакае... Яна без нашых рук хварэе...*

Зямелька, як і вадзіца, — сімвал жыцця. А дарога? Ці не сімвал гэта невядомасці, чакання? Гэта людзі новага пакалення з лёгкасцю адрываюцца ад зямлі, шукаюць сваё шчасце ў іншым — не ў зямельцы. Мы ж бачым людзей, моцна звязаных з зямлёй, якія не могуць адарвацца ад яе нават у думках.

Не існуе для Мульціка пытання, дзе жыць. Як бясспрэчная праходзіць праз увесь твор думка, што гэта магчыма для яго толькі на зямлі, у роднай вёсцы.

Надзеяй, што дзеці завітаюць на бацькаўшчыну, пачынаецца і заканчваецца твор. Але гэта не безнадзейнасць, а ўсё ж такі надзея. Спадзявацца, верыць — значыць, жыць.

Прачытаўшы твор, бачым неаднолькавае стаўленне аўтара да розных герояў. Але, улічваючы тое, што перад смерцю Гастрыт разумее многае — што не так жыў, не так любіў, не так рабіў — можна многае дараваць яму. Здаецца, для гэтага аўтар і паказвае нам Гастрыта, чалавека, які просіць прабачэння. У каго? Можа, у Бога?

Стаўшы на калені, ён яшчэ і разважае:

*— Калі б можна... Калі б другое жыццё... У мяне б нічога не было... Толькі шмат дзяцей і хлеба... Я здуру людзей жыць вучыў, а мне б хлеб расціць, дзяцей гадаваць... Гэта святое... Гэта ўсё.*

Мікіта памірае. Але з чыстымі думкамі, з добрым сэрцам. Застаюцца іншыя — тыя, хто ўвасабляецца ў вобразах Ганны і Васіля.

Лёсы людзей розныя, а дарога ў іх адна — углядацца ў канец вёскі, ці не ідзе хто. Ці прынясе шчасце ім дарога, у якую яны ўглядаюцца? Ці зменіцца іх лёс, ці дачакаюцца яны, гэтыя старыя, сваіх дзяцей? У гэтым іх шчасце. Значыць, не толькі ў працы на зямлі, а яшчэ і ў дзецях. І гатовы яны дараваць дзецям усё, абы толькі прыехалі, напісалі. Аўтар пакідае нам магчымасць памарыць з героямі свайго твора. Памарыць аб іх шчасці.

З таго, пра што і якімі словамі яны гавораць, праступае іх унутраная сутнасць. Нават уяўленні разам з думкамі, словамі, учынкамі — гэта таксама сведчанне іх маральнай чысціні, дабрыні. Уяўляецца Васілю тое, аб чым марыць і ён, і Ганна, і Мікіта. Уяўляецца, што: *“За вялікім сталом — вялікая сям’я. Мульцік, Ганна, сын Мульціка, яго жонка, шмат дзяцей, унукаў, значыць... Ганна і Мульцік на самым пачэсным месцы. Мульцік рэжа нажом вялікі бохан і раздае ўсім па лусце. Урачыста, святочна, радасна...”*

Часта спрачаліся Мульцік і Гастрыт, часта разважалі пра моладзь, пра ляноту, шчасце, смерць, пра заняпад духоўнасці, пра тое, што няма ў сённяшняй моладзі знітаванасці з зямлёй.



Што падказвае гэтым людзям іх філасофія? Дзе пачынаецца і дзе заканчваецца іх этычны і філасофскі пошук?

Этычна і маральна Мульцік і Ганна чыстыя, а Гастрыт па сваёй маральнай чысціні дарастае да іх толькі перад смерцю — і гэтым як бы ачышчаецца.

Чаму п’еса Аляксея Дударава называецца “Вечар”, можна зразумець, толькі прачытаўшы твор або паглядзеўшы спектакль — наступае **вечар жыцця** для герояў...

На сцэне Купалаўскага тэатра драма атрымала сваё годнае ўвасабленне. Артысты, якія выконваюць ролі Ганны, Мульціка, Гастрыта, — Аляксандр Ткачонак, Юрась Жыгімонт, Мікалай Кучыц, Тамара Міронава — сапраўдныя майстры акцёрскай справы. Кожны з іх умела, псіхалагічна правільна перадае ўнутраны свет свайго героя. З гумарам успрымаецца тая ці іншая смешная бытавая сцэна, спрэчка, размова персанажаў дзякуючы здольнасцям гэтых артыстаў.

Неабходна адзначыць талент рэжысёра-пастаноўшчыка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерыя Мазынскага.

Усё ў пастаўленым ім спектаклі сімвалізуе трывогу, з якой жывуць героі твора. У кожнай рэмарцы адчуваецца гэтая трывога. Так, у адной з іх гаворыцца, што Ганна і Мульцік углядаюцца ў дарогу. Наступныя рэмаркі аб тым, як надзея і трывога прымушаюць Ганну бегчы. Заплаканыя вочы яе гараць. Затым, ужо не стрымліваючыся, яна галосіць на ўсю моц... А потым... Пайшла, не азірнулася. Нельга абмінуць увагай і тую рэмарку, дзе Ганна, сеўшы на лавачку, плача. Ціха, аднымі вачамі.

На сцэне — доўгая зімовая ноч. За акном злосна і тужліва вые вецер. І зноў... як у апошняй рэмарцы — доўгае трывожнае чаканне. Старыя выйшлі наперад... Глядзяць у той бок, дзе кожную раніцу ўзыходзіць сонца, каб асвятляць і саграваць зямлю.

Сонца — сімвал надзеі. Хочацца толькі, каб чаканне гэтых людзей не было вечным...

Галоўнае — кожны вынес з п’есы прачытанай або з п’есы прагледжанай нешта для сябе. Нешта духоўнае, важнае, патрэбнае.

## Жан КЭЙРОЛ

### *Надпіс на муры*

Я належу цішыні,
Ценю свайго голасу,
Голым мурам Веры,
Чэрстваму хлебу Францыі.

Я належу вяртанню,
Зачыненай браме,
Што грукае ў двор
І ціха вуркоча
Пра мір.

Золак корміць зямлю
Крыніцай агню.
Я належу
Блакітнаму небу,
Што пакутуе
На камянях...

## Андрэ БАРЭ

### *Бессмяротнасці раскіданыя мары*

Я не разумею,
Я прымаю яе.



Яна ў кожнай
Страфе
Майго верша —
Бессмяротнасць...

Гэта мая страсць
Да таго
Тутэйшага люду,
Які застанецца,
Калі вернецца мір.

Якраз тады
Мажліва будзе
Агледзецца
У пошуках сонца:
Мора,
Нябесны куток
Лістоты,
Дрэваў,
Дзетак,
Любоўнікаў,
Кветак,
Сняданкаў
У веснім лузе,
Ветразяў волі
На азёрах лета...

Але ў глыбіні
Майго верша —
Толькі
Разбітыя водблескі,
Толькі
Водгукі
Раскіданых караў
Бессмяротнасці...

## Аліс ЛЕМ’Ё-ЛЕВЕК

### *Калі мяне не стане*

Хай жаданне тваё не гасне,
Ты забудзь, што мяне няма,
І панураю ноччу і яснай
Кліч мяне з небыцця сама.

Хай у ціхай жаночай песні
Твой пакутны растане сум,
Хай асветліць надзеяй весняй
Сонца сэрца тваё і дом.

І ўначы, што ў чаромхавым цвеце,
Пад жыцця салаўіны спеў
Я прыйду, я вярнуся са смерці,
Каб бясконца кахаць цябе.

## Франсуаз МАСІКОТ-БОШАМ

### *Мець толькі б...*

Мець толькі б сумленную ласку,
Што ў сэрцы запаліць агеньчык,
Ды твой пацалунак, што казкай
Здаваўся у мроях хлапечых.

Мець толькі б чарнявыя вочы.
А ў іх, бы два сонцы, — адданасць
Тваёй прыгажосці дзявочай,
Твайго і майго кахання...



## Раймонд ГРАВЕЛЬ

### *Вечар*

Мой вечар прыйшоў пад дзверы,
Праз фортку прыйшоў забыцця,
З пахамі смерці і веры
На ганку стаіць небыцця.

Прыйшоў, аж да пятак у чорным,
Нібы ў апошні пакос,
Прынёс успаміны аб горы,
Пра боль успаміны прынёс.

Уладна, бы грук пакарання,
У дом — ні стала, ні кала —
Услед незнаёмка растання,
Як жах мой, за ім забрыла.

“Імя маё, знай, адзінота,
Мой звычай — прыходзіць з цямна,
Туды, дзе туга і гаркота”, —
Сказала і знікла яна...

## Шызлен САВАР-МАРКОТ

### *Я смяялася, плачучы*

Я смяялася
Перад бляклым
Люстэркам,
Дзе жыццё цікавала

Мае хібы...
Я разглядвала
Мой гонар,
Мае скаргі
І перад іх
Маршчынiстым плачам
Я смяялася...

Я смяялася
Душой, нахіленай
Да скрушнае лістоты,
Напоўненай
Маім небыццём,
І перад
Начамі без зорак,
Перад марамі
Без радасці,
Перад ілбом,
Пазначаным
Пячаткай дзён,
Дзе я не жыла,
Я смяялася...

Чаму я верыла
У спрадвечны міраж
Юнацкіх мараў,
Калі была толькі
Неабсяжнай пустыняй
Палаючай адзіноты?..

Я смяялася
З маіх адлучак
Без мэты,



З маіх вяртанняў
Без берагоў,
З маёй незалежнасці
Без кветак,
З маіх штормаў
Без хваляў,
З маіх песень
Без мелодый...

Самотная
На беразе вар'яцтва,
Прывязаная
Да сваіх руінаў
Спакутаваным сэрцам,
Што просіць шчасця,
Я смяялася
Доўга-доўга,
Я смяялася,
Плачучы...

***Пераклад з французскай***
***Леаніда ЯЎМЕНАВА***

# Ne sutor ultra crepidam
## («Суди, дружок, не выше сапога»)

***У працяг палемікі аб канцэптуальных палажэннях сучаснай Скарыніяны (Cadus Cassus resonat. Рэха з бочкі. // Крыніца. 2002. № 7 — 8) публікуем матэрыял, ужо часткова надрукаваны (Ne sutor ultra crepidam // Arche-Пачатак. 2001. № 6). Там ён змешчаны разам з заказным каментарыем В. Пазнякова, аўтар якога знайшоў не толькі неіснуючае «Масонскае скарыназнаўства», а з вышыні свайго энцыклапедызму ў запале спрэчкі не заўважыў, як у сваіх астранамічных вымярэннях сузор'я Пчала з Скарынавага гравюрнага партрэта (або «Мухі Агіевіча») скараціў працягласць прэцэсіі з больш як 26 000 гадоў да (дакладна) 225 гадоў. Рэдакцыя ж настолькі ашчаджае сваю цнатлівую пазіцыю адносна неіснавання многіх тэм ў Скарыніяне і так мяняе сэнс нашых палажэнняў, што іх аднаўленне само па сабе цікавае і паказальнае ў святле ліберальнай пазіцыі, метадаў і пісьменнасці публікатараў, якія пачалі з таго, што знялі эпіграф з вершам «рускага» аўтара і лацінамоўны пераклад:***

**Художник-варвар кистью сонной**
**Картину гения чернит**
**И свой рисунок беззаконный**
**На ней бессмысленно чертит...**
А.С. Пушкін. Адраджэнне

*Artifex-barbar tinxit pictum*
*Ateram setam manus habet,*
*Et desudatiem propriam*
*Discribit en exanimatier...*
(Пераклад наш. — ***У. А.***)



***Як працягвалася гісторыя?***

Некалі рэдактар чарговага зборніка «Беларусікі», кн. 5 (Мн.: Навука і тэхніка, 1995) А. Мальдзіс звярнуўся да замежных скарыністаў: нашая скарыназнаўчая галота не здольная справіцца з логікай выказванняў У. Агіевіча і ягонымі меркаваннямі, «якія заслугоўваюць пільнай увагі» (С. 299) (але якія мы не друкуем (?!)), і заклікаў да «дальнейшай палемікі» (нібыта была папярэдняя на міжнароднай канферэнцыі па беларуска-амерыканскіх гістарычна-культурных узаемадачыненнях (Мінск, 1994)).

І вось, у 2001 годзе заклік даляцеў да заморскіх кітоў, бо да кантынентальных жырафаў яшчэ не дайшоў. У газеце «Наша ніва» (2001, №17) і ў часопісе «Архэ» (2001, №3) раскінуў шаты сваёй эрудыцыі «нястомны айцец» А. Надсон, апостальскі візітатар для беларусаў грэка-каталіцкага веравызнання (вуніятаў). Гэты аўтар, хто прызвычаіўся пісаць водзывы на мінскія акадэмічныя выданні і чые друкаваныя артыкулы на тэмы Скарыніяны як бы знарок створаны, каб падагуліць зады навукі і маніфеставаць празеліцкую перакананасць, якая, вядома, прававернейшая за рымскага пантыфіка, шле А. Мальдзісу адказ-прывітанне.

Нам хацелася напісаць на лацінскай мове рэпліку з нагоды публікацыі А. Надсона «Скарына і ананасы» ў трэцім нумары часопіса «Arche-Пачатак»[1] за 2001 год. Аднак зацікаўленасць у чытача з шырокіх колаў грамадскасці абрэзала нам крылы: лаціны яны не адолеюць. Ды і ці варта страляць з пушкі па вераб'ях, тым больш вегетарыянскіх, якія збіліся ў чародку на ніве сваіх публікацый. Да раслiннага ананасна-апельсінавага вегетарыянства далучыўся в.а. рэдактара газеты, які пераслаў тэкст «Cadus Cassus resonat. Рэха з бочкі» ў Лондан. Пасля знаёмства з ім заўважана рэакцыя: тамтэйшы аўтар паздымаў нелагічныя абгрунтаванні сваёй рэмы. Аднак не справіўся з усімі, бо ў «Скарыне і ананасах» іх непараўнальна больш.

***Вегетарыянцы, збіваючыся ў гурт, могуць пашчыпаць не толькі artitus doctor, якога выдаюць за асла, але і aquila, quae non capit muscas?***

Публікацыя задавальняе тым, што ў 26-ці абзацах наша імя паўторана роўна ў два разы больш. А гэта значыць, што метад «шубы» (няважна, ён украў, ці ў яго ўкралі), ужыты аўтарам, спрацаваў супраць намеру. Аднак паколькі рацыянальнае асэнсаванне неабходна занатаваць для цікаўных, то пакажам ім бездапаможнасць імпэтных абвяргальнікаў матэматычна-астранамічных аксіёмаў.

***Чаму са спазненнем?***

Вы пытаецеся, чаму эскапады маюць месца не ў 1993 годзе, калі з'явілася першая публікацыя (дарэчы, у Лондане), і не ў 1997, калі апублікаваны метад даследавання, і не ў 1999, калі насуперак высілкаў «навуковай грамадскасці» Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі была выдадзена фундаментальная

манаграфія, а акурат у 2001 годзе, юбілейным для Скарыны, поўным знамянальных дат, напрыклад, 225-годдзя ўзнікнення навуковай Скарыніяны? У чым тут промысел Божы? У тым, што калі Ён пажадае некага пакараць, то пазбаўляе розуму... але ў пэўны час. Калізія — яркае пацвярджэнне гэтаму ў год 525-годдзя з дня нараджэння мысляра-біблеіста.

Усё, як кажуць, у імені — nomen est omen! Прыступаючы да справы, наш апанент пачынае таксама з яго, сцвярджае пра надпіс на Скарынавым партрэце (мал.). «Нават неабазнаныя з кірылічнай палеаграфіяй могуць прачытаць яго як **Доктор Францискo Скорина**». Такім чынам аўтограф Скарыны ўспрымаюць многія, аднак ніводны даследчык не расклаў славянскую вязь на элементы-літары ў графічнай форме, адэкватнай арыгіналу надпісу. Элементарная ж спроба паказвае, што няма ніякага «доктара». Таму пра такіх чытакаў гавораць: глядзяць у кнігу, а бачаць хвігу. А калі яны сузіраюць партрэт Скарыны, чалавека, які знаходзіцца ў Храме, і бачаць у яго галаўны ўбор (берэт), то ператвараюць хрысціяніна-верніка ў свінню з ярмолкай. Індактрынацыя дасягае такіх глыбінь, што людзі, нават узнагароджаныя ордэнам з словамі імя «Георгія (Францыска) Скарыны», бяздумна далучаюцца да хору: «Ён сябе такім іменем не называў!» Некаторыя з іх дазваляюць сабе паблажліва кпіць з Скарынавых знакаў, называючы іх «жучкамі-павучкамі».

Атрымаўшы першыя ўражанні ад метаду крытыканства, не хочацца прытрымлівацца этычнага тону акадэмічнай карэктнасці, наадварот, так і падштурхоўвае... Бо ёсць просты крытэрый для адрознення крытыка, які, будучы зацікаўленым у поспеху справы, робіць аналіз, каб даць ацэнку рабоце, — ад крытыкана-нядобразычліўца, які працуе супраць асобы аўтара. Крытык разумее сэнс працы, адзначае станоўчае і адмоўнае, абавязкова бачыць перспектыву, якая іманентна вынікае з логікі твора. Нядобразычліўцы з лічынай (larvae) крытыка падладжваюцца пад яго ў разглядзе асобы аўтара, пераважна яе адмоўных ці нерэпрэзентабельных рыс. Недахопы — вось што істотна для іх.

***Паколькі ў гэтым працягу не варта паўтараць таго, што ўжо сказана ў папярэдняй размове, то давайце спынімся на іншых тэмах, напрыклад, непісьменнасці?***

Гаварыць, што дыпламаваны спецыяліст-выкладчык трох моў блытае 2-ю асобу з 3-й, малапераканаўча. Карэктарская памылка, якіх дарэчы вельмі шмат у сучасных часопісных публікацыях, — хісткая падстава. Наш настаўнік А. Бандарын, пэўна, круціўся б у труне ваўчком, калі б яго вучні не ўсведамлялі і не ведалі катэгорыі асобы. Не больш кур'ёзнейшая справа з абвінавачваннямі кшталту, «як гэтага хоча Агіевіч». Мізэрнасць мяжуе з просталінейным перакручваннем. Так, мы пішам: «Відавочная недарэчнасць



у выразе «носіць імя пана Францыска» недаравальная з розных бакоў...», — а А. Надсон падае: «... «nominatus est»... — азначае «быў названы», а ў ніякім выпадку не «носіць імя», як гэтага хоча Агіевіч». Ды не мы так хочам, а аўтары акадэмічнага выдання, якія тым самым выяўляюць сваю некрытычнасць, бо ў тэксце дакумента сказана «nominitabatur doctor Franciscus». Рэдакцыя падуанскага пратакольнага запісу абумоўлена тым, што ў рытуальнай перадэкзаменацыйнай прысязе Скарына, ужо доктар вольных навук, папярэдзіў, што яго неаднаразова называлі (да часу прысягі, адсюль і ўжыванне перфэктнай формы дзеяслова, а не дзеепрыметніка, як у Надсона) «доктарам Францыскам», г.зн. акадэмічным (універсітэцкім) прафесіянімам (параўнай зноў з «доктарам Фаўстусам»). Дарэчы, нельга пазбаўляць статусу аўтарства волевыяўленне Скарыны пад выглядам таго, што яно было ў інтэрпрэтацыі некаторых скарыністаў перададзена старшыні камісіі або пратакалісту. Апошнія атрымалі інфармацыю толькі ад самаго Скарыны, ён яе суверэн.

Этымалагічныя «труджанні» нашага крытыка прадоўжыліся з словам artitus, прыметнікам адносным, які ўжываецца ў выразе doctor artitus і які нельга блытаць з прыметнікам якасным artium, што спрэс робіцца зараз. У яго ніколі не было сэнсу, што прыпісваецца: «хітры, пранырлівы». Камедыёграф Плаўт напісаў п'есу «Asinaria», дзе паказаў глупства artiti viri — людзей ад навукі.

Філосафы казычуць сваё самалюбства мыслярскай здольнасцю, якая не заўсёды адэкватная. Напрыклад, Сакрат адносіўся здзекліва да натурфіласофскіх пастулатаў і разважанняў, таму што лічыў іх спекуляцыямі, якія замяняюць сапраўдную філасофію. Яе ўвагі вартыя толькі гнасеалагічныя і этычныя праблемы: gnwdi seauton — спазнай самаго сябе і затым зрабіся такім. Сакратава пераасэнсаванне мэт традыцыйнага мыслярства збядняла задачы філасофіі, якая вуснамі Піфіі такім чынам адказвала на пытанне: «Што самае лепшае для цябе?» За гэта карыкатурны вобраз Сакрата быў выведзены Арыстафанам у «Воблаках». Цыцэрон таксама здзекаваўся з недарэчнасцей «філосафаў».

Аднак жа і той і другі не пераходзілі крытычнай мяжы ў сваіх сатырах настолькі, каб замацаваць за словамі artiti viri толькі негатыўны змест. Таму і Сакратаўскі метад дыялога як сродка дасягнення ісціны — важнейшая яго заслуга ў гісторыі філасофіі. І мыслярская дзейнасць наогул, у тым ліку і філасофія прыродазнаўства, ацэньваецца чалавецтвам станоўча. Антычныя сатырыкі акурат крытыкавалі тую «вучонасць», што супрацьстаіць сапраўдным ведам і мудрасці або, па-нашаму, што параджае прымхі і забабоны ў асяроддзі навукоўцаў. Толькі хваравітая свядомасць знаходзіць радасць і задавальненне ў праявах цёмных бакоў жыцця, называе дыялогам

размову праўды з няпраўдай, ведаў з непісьменнасцю, калі ў наяўнасці просталінейнае, лагічна не абгрунтаванае адмаўленне, як у выпадку з пярэчаннямі акадэміка А. Надсона нам. Гэта знешне падобнае на дыялог дзеянне, нейкая гамеапатыя. Тую ж мімікрыю пад навуковую дзейнасць мы наглядаем, калі адзін з гісторыкаў філасофіі сцвярджае, што «вольнадумства і атэізм былі ўласцівы такім відным мыслярам і грамадскім дзеячам, як…», і пачынае пералічэнне імёнаў з «Францыска (Георгія) Скарыны»[2]. Чаму б не дадумацца далей, паводле сваёй логікі, да абсурднага сцвярджэння, што асветнік пераняў заганную традыцыю ад святых Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага? Другі даследчык, з аглядкай на «дасягнуты ўзровень» засваення спадчыны, перакананы ў тым, што «Скарына… падрываў рэлігійныя асновы»[3]. Сапраўды, як сказаў Цыцэрон, няма ніводнай бязглуздзіцы, якой бы не ўчынілі філосафы!

***Але як можна апалагетам адмовіць «нястомнаму айцу» ў публікацыі яго керпанняў (дзе ад паўтарэння задоў навукі ісціна не ўзнаўляецца, а зашмальцоўваецца)? Рэдактарскі страх прадчувае, што «оскудеет рука дающего»?***

Наогул жа, журналісцкая этыка пакідае жадаць лепшага не толькі ў лібералаў. Спашлемся на прыклад, звязаны з ужываннем хроснага імя Скарыны. «ЛіМ» надрукаваў артыкул доктара медыцыны члена-карэспандэнта НАНБ У.А. Кульчыцкага «Ці будзе радзіць дрэва без карэнняў?» (30 сакавіка 2001 года), дзе аўтар называе Скарыну Георгіем. Аднак рэдакцыя папраўіла медыка на свой капыл, падтарнавала пад свой густ — насуперак волі аўтара знарок замяніла хроснае імя Георгі на імя прынятае Францыск. Спытаемся: на карысць каго ці якога палажэння ў праблеме імя Скарыны сведчыць факт такой публікацыі? Каб потым сказаць: вось маем чарговы прыклад — няма ніякага Георгія? Нам вядома, што доктар навук даслаў у рэдакцыю свой пратэст супраць адвольнага абыходжання з яго ным тэкстам, бо як спецыяліст, які ведае гісторыю і практыку зносін паміж чальцамі еўрапейскай медычнай карпарацыі, ён ставіць наперад хроснае імя чалавека, а затым прынятыя. Ігнаруюць такое або тыя, хто ім пярэчыць (антыхрысты), або прафаны. Як бачым, ёсць і ў рэдакцыях газет функцыянеры, што «ведаюць лучшай». Але ці толькі газета «творчай інтэлігенцыі Беларусі» аказваецца з душком халуйскага аўтарытарызму? Хіба сучасная «Наша ніва» не такая ж пад кіраўніцтвам в.а. рэдактара А. Дынько, у руках у якога пагатоў затыкала для апанентаў?

Усё гэта — вада на млын непісьменнай імперскай ідэалогіі апендыксацэнтрызму, вядомай пад эўфемізмам «западноруссизм», паводле якой калыска ўсходнеславянскай культуры і цывілізацыі апынулася ад выспятка шавіністычнага бота… на перыферыі. З другога боку, інтэлектуальная неданошанасць канцэпцыі заходнерусізма незаўважна толькі апалагетам барацьбы з «русіфікацыяй» русаў (беларусаў, маларосаў, тых жа русаў) і іх «велічным» апанентам з кагорты «вялікарусаў».

***Разуменне сэнсу слова — вялікае майстэрства?***

Наконт разумення лексікі не будзем спрачацца: тут або разумееш, або не. Мы падаём два дзесяткі значэння слова miser, а А. Надсон абыходзіцца двума. Жывучы ў Англіі, і пісаць: «Я ня мог знайсьці слова «аўдыравацца», але калі яно азначае тое, што я думаю, дык выглядае, што не Падуанскія дактары экзаменавалі Скарыну, але ён іх». (С. 6 — 7.) — Чарговы раз сведчыць, што ні з культурай, ні з мовай англічан у аўтара не наладзілася зносін, дзе публіка (аўдыторыя) з трыбун, па радыё, тэлебачанні кожны дзень «аўдыруецца» з ранку да вечара і з вечара да ранку. Значыць, да публікі даносіц-ца інфармацыя, а не яна экзаменуецца.

Затое выпускнік еўрапейскіх вучэльняў надзелены здольнасцю вынаходзіць «паўночную нябесную паўкулю», на якой «ніякага сузор'я Пчалы… астраномы ў часы Скарыны не ведалі, як, між іншым, не ведаюць і ў нашыя дні». (С. 8.) Канешне, пакольк ёсць зямная куля, а нябеснай астраномы сапраўды не ведаюць, то ім не вядомы ніякія зямныя сузор'і. Блытаць зямную паўсферу з нябеснай могуць дазволіць сабе толькі падобныя бакалаўры дакладных навук.

Гэта само па сабе паказальна. Так, далучанасць да ордэна Pauperes Commilitones Christi Templique Solomonici, членам якога з'яўляўся, напрыклад, і М. Лютэр, была для негацыянта Скарыны дастаткова прагматычным актам, дазваляла яму карыстацца магчымасцямі самай развітай еўрапейскай банкаўскай сістэмы, створанай у інфраструктуры ордэна, давала веданне кан'юнктуры, таварапатокаў і да т.п. з'яў толькі што народжанага капіталізму. Пра такую «несумяшчальнасць з Навукаю Хрыста», асабліва ў Лютэра, няхай рассусольваюць тыя, хто ў прыналежнасці да ордэна бачыць і адначасовае прыняцце «сакрэтных вучэньняў». Назву ордэна А. Надсон хоча перакладаць са злучнікам que. Літаральнасць (пазбегнуць якой дапамагае акурат ужыванне энклітычнага сродка que замест злучніка et) пры перакладзе «ўзбагаціць» сонм апосталаў, г.зн. дадаць да Хрыстовых паплечнікаў (апосталаў) яшчэ ўсіх ордэнцаў Храма Саламонавага, бо, паводле А. Надсона, назва ордэна Pauperes... павінна падавацца так: «Бедныя **хаўруснікі Хрыста і Храма** Саламонавага». Шырокі жэст для айца, які запісвае ў «хаўруснікаў» Ісуса ўсіх чальцоў самага багатага ордэна Еўропы, ды яшчэ называючы іх «беднымі» насуперак фактам! Аднак шырыня душы яго здраджвае, калі, не зразумеўшы дыдактычнай цытаты з апісаннем і аналізам гравюрных выяў, ён называе з інквізітарскім тонам лухтой тое, што мы выкарыстоўваем для ілюстрацыі пераемнасці Скарынавага метаду ад

пазнавальных і этычных усечалавечых традыцый, якімі не грэбавалі і пазнейшыя масоны. Каб некаторыя паспешлівыя чытачы не падумалі, што такім чынам ператвараем Скарыну ў адэпта эзатэрычных вучэнняў, мы загадзя спецыяльна прысвяцілі гэтай прынцыповай тэме заключэнне манаграфіі. А што разумее наш Заіл? Не дачытаўшы, як Манілаў, да канца, ён піша з абурэннем: «У кнізе... прыкра ўражвае... намаганне прывязаць да эзатэрычных арганізацыяў Скарыну...» Але такога не было ў рэчаіснасці, няма і не можа быць у манаграфіі.

***Ваш апанент не заўважае камізму свайго апломбу дзеда-ўсяведа?***

Некаторыя праявы звычаёвага стаўлення да новага выявіліся ва ўспрыняцці тэрміна «фражскі ліст», назвы жанра, у якім выкананы гравюрны партрэт Скарыны. Бракуе А. Надсону адэкватнага разумення тэксту і эстэтычнага чуцця, калі ён звяртаецца да аналогіі з апавяданнем «Дзіўная заява» М.Чарота. Там непісьменны чалавек у форме малюнка (г.зн. сродкамі піктаграфіі) прадставіў для суддзяў відавочную справу (суседская свіння А. Гарбуза залезла ў чужы агарод і была забіта гаспадаром М. Шклянкам). Аднак «суддзі гэтага не зразумелі». Пісьменнік паказвае, што прадажны суд не лічыцца нават з відавочнымі рэчамі, не разумее, чаму Мікола Шклянка сімвалічна вымаляваны як шклянка, а Апанас Гарбуз — як гарбуз, што лёгка разумеюць непісьменныя сяляне, але не суддзі, пазбаўленыя яснасці мыслення. «Мусіць гэта і быў «фражскі ліст», — распісваецца ў эстэтычнай глухаце крытыкан, перакасабочвае мараль апавядання, каб паказаць безсэнсоўнасць піктаграфіі і наогул жанра фражскага ліста, пра які пачуў упершыню. Зноў Cadus cassus resonat — пустая бочка гудзіць.

Многія папрокі грунтуюцца на верхаглядным прачытанні нашых работ. Адсюль і неахайнасць з цытаваннем і інтэрпрэтацыямі. Заўвага датычыць разбору кірылічнай вязі на плакетцы з гравюрнага партрэта, а таксама трактавання павязкі на галаве чалавека ў Храме, этымалогіі астральных аб’ектаў — Пчалы і Лямпы, якія сімвалізуюць сузор’і і адначасова паслугоўваюць астранімамі (псеўданімамі) Скарыны — імёнаў Георгі і Францыск. Гэта датычыць ледзь не кожнай дробязі.

***Лепш не пра дробязі, а пра сапраўды прынцыповыя палажэнні?***

З найбольш істотных выберам «глупства астранамічнага маштабу». Тут айцу запляскалі ў далоні многія, нават членкорышы з акадэміі, якія патрабуюць астранамічнай экспертызы. Яе ўзяўся зрабіць выпускнік Лонданскага універсітэта. Аднак ці варты гэты Парыж месы? Нам дастаткова ведаў з праграмы па астраноміі для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы (напрыклад, СШ № 19 імя Янкі Купалы г. Мінска). З яе аб’ёмаў ведаў вынікае, што астранамічныя вымярэнні вугла ўзыходжання $\alpha$ нябесных аб’ектаў робяцца ў дзень вясенняга раўнадзенства ад Авена. На эпоху Скарыны гэта



быў дзень 10 сакавіка (паводле т.зв. старога стылю) або 20 сакавіка паводле гіпатэтычнага Грыгарыянскага (у той час яшчэ не прынятага): 10 сакавіка плюс 10 дзён спазнення з часоў прыняцця Юліянскага календара. Сузор’е Пчалы, якое на старажытных картах пазначалася назвамі Apis, Musca, Wespa (Пчала, Муха, Аса з-за рознасці перакладаў з арабскай мовы), знаходзіцца пад 347° ад яго, што і паказаў Скарына «манаграмай» ТМЗ, лічбавы эквівалент якой складае акурат 347. Гэта адно. Дзякуючы прэцэсіі месцазнаходжанне Пчалы разам з усімі целамі на нябеснай цвердзі перамяшчаецца па крузе адносна назіральніка з Зямлі. Застаючыся пры Авене і Цяльцы, яно аддаляецца ад дня вясенняга раўнадзенства і на эпоху Скарыны ўступала ў экліптыку не праз 13 дзён пасля раўнадзенства, а ўжо 23 красавіка, на Дзень Святога Георгія. (Дзякуючы ўсё той жа прэцэсіі гэта дата ў наш час у XX і XXI стагоддзях прыпадае на ўжо 13 дзён пазней, г.зн. на 6 мая.) Вось чаму Пчала выбрана Скарынам у якасці астраніма. Мы адсылаем цікаўных да карт Я. Гевелія, К. Фламарыёна (С. 221 манаграфіі), а таксама да карт з кнігі Н.Марозава «Пророки» (М., 1914), што карэктна адлюстравана і ў бібліяграфіі. Навошта пісаць: «ён забыўся падаць даты, аўтараў і месцы выданняў гэтых мапаў»?

А. Надсон «неабазнаны» не толькі з навуковымі прынцыпамі. Ён «не абазнаны» з навуковай метадалогіяй, з гісторыяй навукі, напрыклад, з роллю геаметрыі ў філасофіі, з малюнкавым пісьмом (піктаграфіяй) — з, так бы мовіць, з’явамі зямнымі. Аднак бярэцца разважаць нават пра тэмы зорныя, ...і пачынае свяціцца. Калі бакалаўр *дакладных* навук сцвярджае, што «сонца ніякім чынам не магло быць 23 красавіка ў сузор’і Пчалы, калі яно наогул існуе» (?!), — то тым самым ён кампраметуе Almae Matris. Як сказаў Дж.Чосер:

І выпусціў ён з заднага праходу
Руладу надзвычайнешага роду.

Не здолеўшы звязаць гэтыя два і два ў чатыра (суадносіны экліптыкі і сузор’яў), наш ментар з апломбам гаворыць пра «глупства астранамічнага маштабу», не ўсведамляючы, што de te fabula narratur. Дык у каго rats in the belfry? Хто не рупіцца, у таго скура лупіцца? Яшчэ два-тры такіх опусы of mental derailment, і Лонданскі універсітэт анулюе дыплом бакалаўра *дакладных* навук у А. Бочкі (акад. А. Надсона).

***Падладжваючыся тыпалагічна-несвядома пад амплуа памерлага савецка-амерыканскага акцёра Савелія Крамарава, пад амплуа дурня, можна ненарокам ператварыцца і ў марадзёра, рабуючы нябожчыка, хіба не так?***

Асаблівасць некаторых тэкстаў, як і тэкстаў Скарыны, часта інтэрпрэ-

туецца надзвычай тэндэнцыйна. Напрыклад, прапанова папам Дамасіем Іераніму выправіць тэксты Новага Запавета ў адпаведнасці з Септуагінтай, ніколькі не вымушае меркаваць, што Евангеллі ўзніклі адначасова з ёй. Айцец жа Аляксандр убачыў у прапанове папы нешта новае для сябе, а з рэмаркі аб папярэдніцтве Іераніма-перакладчыка — перакладчыку Скарыну робіць шматзначную фігуру, натхняючы апалагетаў наогул на прысваенне царкоўнага дзеяча IV — V стст. толькі каталіцызму. Наш жа біблеіст неаднаразова з прыхільнасцю ўспамінае перакладчыка Вульгаты, якога называе то «презъвитеръомъ», то таксама «святым». Ці вынікае з факта кананізацыі Іераніма заходнім хрысціянствам непазбежнае меркаванне, што і Скарына глядзеў на яго як на католіка?

Калізія «блажэнны — святы» (абодва валодаюць боскай благадаццю) адносна Іераніма-прэсвітэра высвечвае змястоўную штучнасць пры канфесійным супрацьпастаўленні практыкі ўжывання гэтых вызначэнняў. Тут выяўляецца толькі традыцыя, а не веравызнаўчая пэўнасць, хоць слова «прэсвітэр» ужыта Скарынам акурат як яно бытуе толькі ў праваслаўным кантэксце. Вульгата Іераніма была кананізавана ў 1545 годзе. Велічанне яго «святым» уласна не за святасць, а за паслугі царкве мела месца задоўга да гэтага моманту, калі каталіцкія манахі-іеранімітьі ўзялі сабе за ўзор жыццё святога Іераніма. Істотна тое, што ў антыахійскі перыяд жыцця, як прызнае Праваслаўная Царква, Іеранім у 378 (379)г. Паўлінам «праваслаўным епіскапам быў пасв[ячоны] у прэсвітэры»[4]. Шэсць выпадкаў упамінання аб такім Іераніме занатавалі тэксты пражскіх выданняў Скарыны: «С[вя]тый Герасимъ презъвитеръ» (Другая предъмолва... в книгу Исуса Сирахова. — Прага, 1517. — Л.г (адварот)); «С[вя]тый Герасимъ» (Предословие // Премудрость божия. — Прага, 1518. — Л. а); «Св[я]тый Герасимъ учитель великий» (Предъсловие... во Книги г Моисеwвы Левитъ. — Прага, [1519]. — Л. г); «И светый Еронимъ» (Предословие... в книги Даниила-пророка. — Прага, 1519. — Л. д (адварот); «Светый пакъ Еронимъ или Ерасимъ прѣзъвитеръ» (Предословие... в книги Есьфера-царицы. — Прага, 1519. — Л. д (адварот)); «... Азъ теже наследуя мужа светого...». (Тамсама.) У трох з іх Іеранім называецца «презъвитеръомъ» ці «учителемъ», што пацвярджае менавіта праваслаўную практыку выкарыстання Скарынам (а не намі) слова «презъвитеръ» — для ўрачыстага велічання святара.

А зараз зойдзем на поле супраціўніка. «Ян Дамаскін, Язэп Гімнограф і Язэп з Тэсалёнікаў ніколі не пісалі акафістаў: яны і вышэй менаваныя манахі-студыты былі аўтарамі канонаў...», — піша знаўца ўсяго і ўсякага. Напомнім, што з устойлівай традыцыі VI ст., меўшай пачатак ад акафістаў Багародзіцы Прысна Дзевы Марыі, пачалася наогул гімнаграфія. Як нельга ўявіць паэта, што не піша вершаў, так нельга назваць гімнографа, які б не пісаў акафістаў.



Іншая справа, ці ўваходзілі тыя або іншыя акафісты розных гімнографаў у літургічную практыку. Магчыма, названыя аўтары і не мелі такой нагоды, але неўжыванне не ёсць неіснаванне. Мы ж паказваем галоўнае: гімнографы карысталіся формай акравершаў. Ад іх як настаўнікаў пераняў і вучань, студыёзус, г.зн. студыт, а не пэўны гістарычны манах з Студыйскага манастыра.

Усё гэта наводзіць на скрушнае сумненне адносна прычын настолькі мізэрнага спосабу «вядзення вайны». Што зробіш, калі змяя пераджыла сваю атруту (Дж. Р. Кіплінг). Яна сыкае, але не джаліць. Асяроддзе, дзе існуе А. Надсон, неінтэлігібельнае. Сапраўды, хіба сталі б адукаваныя брытанцы-джэнтльмены называць ягонага знаёмага Сяргея Mike'ам. Не, сп. Бочка не інтэграваўся ў цывілізаванае грамадства. Няхай ён са сваёй бядой пацешыцца чытаннем кнігі Дж. Мікеша (J. Mikes) «How to Be an Alien» і зразумее, чаму брытанцы трываюць такіх, як ён. Чалавек, які не чуў пра фражскае пісьмо (тую ж піктаграфію), які блытае дыфаматара з дэфарматарам, або не можа зразумець, як мажліва прасачыць адпаведнасць дагматыкі Новага запавету — Старому, — такі не цікавы нават прафесару Х. Хігінсу, які «аўдыраваў» сваіх вучняў.

---

[1]Старажытны філосаф Анаксімандр (AnaximandroV (610 — 546 да н.э.)), які ўвёў катэгорыю «arch», для паняцця «пачатак» меў іншае слова — «apeirov» — няпэўная матэрыя. Цэя arch увасабляецца колам, кругам, кальцом, дзе рэчы ўзнікаюць і ў чым канчаюцца. Зразумела, што тэкст спасылкі не задавальняў рэдактароў-цэнзараў часопіса, якія блытаюць пачатак з кальцом.

[2]П о д о к ш и н С. А. Научно-атеистическая мысль / Развитие марксистско-ленинской философии в период строительства коммунизма // Очерки истории марксистско-ленинской философии в Белоруссии. — Мн.: Наука и техника, 1968. С.246.

[3]П р о ш к о в и ч Н. Франциск Скорина // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). — Мн.: Наука и техника, 1972. С. 42.

[4]Іеронимъ // Полный Православный Богословский энциклопедический словарь. Т.1. — СПб.: Изд-во П.П. Сойкина, б/г. Стб. 1046.

**Уладзімір АГІЕВІЧ**

# «РЭХА З БОЧКІ» ЯК ЖЫВАТВОРНАЯ КРЫНІЦА ВЕДАЎ

Разам з сёмым-восьмым нумарам «Крыніцы» прыплыло да мяне «Рэха з бочкі» Уладзіміра Агіевіча. У якасці эпіграфа пабачыў я тут лацінскае выслоўе «Cadus cassus resonat», што значыць «Пусты збан пасылае рэха». У загалоўку публікацыі збан перарос у бочку (вядома, каб рэха аказалася больш гучным і дабралася да большай колькасці ашаломленых чытачоў), затое ж згубілася слова «пусты» ці «пустая». Але калі ўспрымаць сур'ёзна эпіграф, то мы і тое слова павінны вярнуць з небыцця, паставіць на сваё месца. Прыслухаўшыся, чым тое рэха ўзбагачае ці інтрыгуе чытача, я вырашыў паслаць яму сваё водгулле, не зважаючы на тое, што яно дакацілася-даплыло па крынічнай вадзе з бочкі пустой.

Уладзімір Агіевіч у чарговы раз расправўляецца з апанентамі, якія ніяк не жадаюць называць беларускага першадрукара Георгіем і ўпарта лічаць яго Франциыскам ці хоць сабе Францішкам. З усёй упэўненасцю ён, напрыклад, пераконвае рознага роду недавяркаў: «Ці варта спрачацца пра адлюстраванне імя Георгі ў копіях дакументаў пазнаньскай справы Скарыны, калі безумоўна ўстаноўлена яго абсалютная наяўнасць». («Рэха з бочкі». Крыніца. 2002, № 7 — 8. С. 67.) Перад гэтым ён яшчэ паведамляў чытачу: «Мы ўсведамляем, што і палеаграфічная, і перакладная частка публікацыі Г. Галенчанкі, а за ёй і А. Надсона — недасканалая і памылковая». (С. 66.)

У. Агіевіч засведчыў вельмі добрае веданне лацінскай мовы, і таму я сабе дазволю выкарыстаць адну лацінскую форму. «Мы» — гэта «pluralis maiestatis», множны лік велічнасці, так сябе называлі каралі, цары, папы рымскія. Карыстаюцца гэтай формай і некаторыя звычайныя аўтары ў наш час, што засведчыла прыведзеная мною цытата. Яна цікавая сама па сабе. Хочацца звярнуць увагу на адну акалічнасць. Каб чытач, не дай Бог, не захацеў сам пацікавіцца меркаваннямі ці доказамі Г. Галенчанкі, У. Агіевіч прадбачліва не робіць спасылкі на канкрэтную крыніцу з разважаннямі апанента. А той, між іншым, пісаў: «Цяпер можна сказаць, што і апошні гістарычны дакумент «геаргіянцаў» не вытрымаў навуковай крытыкі. Намі нарэшце знойдзены сапраўдны, арыгінальны акт непасрэднай рэгістрацыі прывілею ў магістрацкіх кнігах Познані, дзе адбываўся вядомы працэс Скарыны з крэдыторамі яго нябожчыка брата. (Тут робіцца спасылка на архіўны адрас дакумента. — *У.К.*) Дакумент мае назву «Pragmatica sanctio doctoris Francisci Skorina a Rege data». У прэамбуле, якая адсутнічае ў варшаўскай копіі, прама ўказана, што прывілей Жыгімонта I у арыгінале з вісячай пячаткай прад'яўлены самім Францыскам Скарынам і па яго жаданні слова ў слова ўпісаны познанскім бурмістрам у магістрацкую кнігу. Далей ідзе вядомы тэкст акта ад 25 лістапада 1532 г., дзе знакаміты фрагмент «з Георгіем» выкладзены па каралеўскім арыгінале, як таго і патрабавала актавая традыцыя ў дачыненні да еўрапейскіх дыпламаваных дактароў навук: «...egregii Francisci Scorina de Poloczko artium et medicine doctoris...» (Георгі Галенчанка. Канец застарэлага міфа: Новы дакумент пра Скарыну. Кантакты і дыялогі. 1996, № 9. С. 4 — 5.)

Уладзіміра Агіевіча гэтыя звесткі проста не цікавяць, ён не прымае іх да ведама, бо яны пярэчаць яго канцэпцыі, з якой ён зжыўся і ад якой адмаўляцца не збіраецца. Але вось новых прыхільнікаў заваяваць яму штосьці не ўдаецца. Бо даследчыкам патрэбны не чыесьці эмоцыі, а пераканаўчыя доказы, рэальныя факты. А яны ж, скажам проста, вельмі шкодзяць аўтару дыялога «Рэха з бочкі».

Сёння ад імя «Георгі» адмовілася ўсё наша скарыназнаўства. Застаўся адзін апошні магіканін, хоць сам ён і называе прозвішчы прыхільнікаў. Аднак яны чамусьці не ідуць у бой разам са сваім правадыром, трымаюцца ў цянёчку. Затое ж У. Агіевіч цвёрда трымаецца сваіх поглядаў, з усёй непахіснасцю адкідаючы ўсе факты, доказы, меркаванні, якія пярэчаць яго канцэпцыі. Пры гэтым ён робіць выгляд, быццам не заўважае таго, што адбываецца ў нашым скарыназнаўстве на сучасным этапе. А між тым тут пасля 1986 года разгарнулася дыскусія адносна імя першадрукара. Але аспрэчваюцца толькі дзве формы: Францыск і Францішак.

І калі ў працэсе падрыхтоўкі да 500-гадовага юбілею першадрукара практычна ўсюды выкарыстоўвалася адна форма «Францыск», узаконеная пастановай бюро Аддзялення грамадскіх навук Акадэміі навук Беларусі ў 1967 годзе, з гэтым імем прайшлі юбілейныя мерапрыемствы і пабачылі свет публікацыі таго перыяду (энцыклапедычныя выданні, манаграфіі, зборнікі, даклады на навуковых канферэнцыях — праўда, не на ўсіх, бо ў 1990 годзе ў Варшаве называлася толькі імя «Францішак»), то пасля дыскусіі на нейкім этапе больш часта пачала сустракацца форма «Францішак». У Мінску

дзейнічае Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, галоўная магістраль сталіцы Беларусі была перайменавана ў праспект Францішка Скарыны, гэтая форма ўсё часцей сустракаецца ў друку. Аднак на многіх сучасных аўтараў, у тым ліку і з высокімі вучонымі званнямі і навуковымі ступенямі, уздзейнічае тое, што яны ў кніжках, прысвечаных першадрукару, бачаць толькі імя «Францыск».

Ды і Георгі Галенчанка, абвергнуўшы адзін міф, цвёрда трымаецца другога і ўсюды піша «Францыск». Так і У. Агіевіч там, дзе ўзнікае такая нагода, бачыць толькі імя «Францыск». Такім вось чынам праблема з імем першадрукара пакуль што яшчэ канчаткова не вырашана. Але рана ці позна яна непазбежна вырашыцца.

Выкарыстанне формы «Францыск» — недарэчнасць перш за ўсё па той прычыне, што ў скарынінскую эпоху яе ў назоўным склоне ў беларускай мове проста не існавала — ні ў тым і ні ў наступных стагоддзях. Не знайшоў яе і аўтар манаграфіі «Беларуская антрапанімія» акадэмік М.В. Бірыла, які пералічыў у сваёй кнізе ўсе формы гэтага імя, што захаваліся ў друкаваных і пісьмовых крыніцах: «Франак, Франчак, Франё, Франка(о), Фрaнтишек, Франук, Франуль, Франусь, Франуська, Франучок, Франц, Франціш, Францiша(о)к, Францко, Франчук, Франь, Франька, Франя, Пран(ь)ко, Пpaнуза, Пранук, Прань, Пранюк, Проня». А дзе тут «Францыск»? Не сустракаецца нідзе.

Імя «Францыск» было прыдумана, шляхам мовазнаўчай селекцыі выведзена са скарынінскіх формаў ускосных склонаў «Францискa», «Францискомъ». Пры гэтым ніяк не ўлічвалася , што ў тую эпоху «ци» чыталася як «ці», а гэта значыць, што «ц» у такім спалучэнні было мяккім. Але форма «Францыск» прыйшла да нас з рускай мовы, дзе раней за беларусаў пачалі цікавіцца спадчынай вялікага першадрукара. І паколькі ў рускай мове ў XIX стагоддзі ды і сёння «ци» чыталася і чытаецца як беларускае «цы», то адсюль імя першадрукара ва ўскосных склонах набыло форму «Францыска» і «Францыскам». Аднак жа пры ўтварэнні ўскосных склонаў мы сёння бяром за аснову назоўны склон. А ў назоўным склоне формы «Францыск» або нават «Францiск» не было на працягу стагоддзяў, пакуль яе не пазычылі тыя ці іншыя аўтары. Дык на якой падставе некаторыя нават і надта вучоныя асобы так за яе трымаюцца і сёння? І ўводзяць яе ў навучальныя праграмы ўсіх ступеняў, у падручнікі, дакументы і розныя публікацыі? Колькі часу можна разбірацца з гэтым пытаннем? Рана ці позна яно будзе вырашана, але пакуль што камусьці ніяк не хочацца прызнаваць свае памылкі або недасведчанасць.

Для Уладзіміра Агіевіча форма «Францыск» уяўляецца псеўданімам, хоць ніякіх дакументаў у пацвярджэнне гэтага ён не прыводзіць. А чаму ж першадрукар пісаў усюды: «Я, Францішак, Скарынін сын…»? «Скарынін» — гэта ніяк не псеўданім. Дык ці можам мы лічыць, што першая частка тут прыдумана, пазычана, а другая — свая, рэальная, прыроджаная?

Уладзімір Агіевіч паведамляе: «Даўнавата, дакладней у 1993 годзе, у часопісе «Голас часу» (Voice of Time, London), № 27 (6) рэдактар Ю. Весялкоўскі на прапанову свайго польскага калегі Міколы Гайдука надрукаваў наш артыкул «Хто такі быў Скарына», дзе было падрабязна паказана, чаму беларускі першадрукар-біблеіст не адрокся ад хроснага імя Георгі (…). І гэта ён зрабіў насуперак эзатэрычнай маралі цэха кніжнікаў, дзе некалі даў прысягу называцца ў карпарацыі толькі прынятым іменем Францыск, прычым зрабіў так, прыняўшы пазначэнне-прафесіяонім «доктар Францыск», а не проста Францыск». (С. 60)

Тут узнікае шэраг пытанняў — вядома, у чалавека некампетэнтнага. Дзе, як і калі Францішак Скарына даваў такую прысягу? Якімі дакументамі гэта пацвярджаецца? І яшчэ больш шчымлівае пытанне: Францішак Скарына даваў прысягу карпарацыі, «прыняўшы пазначэнне-прафесіяонім «доктар Францыск», а не проста Францыск». Калі першадрукар даваў прысягу, будучы ўжо доктарам, ці не павінны мы адсюль лічыць, што ён спачатку стаў доктарам, а потым паступіў у Ягелонскі універсітэт у Кракаве, каб стаць бакалаўрам? Бо і там ён ужо быў толькі Францішкам. І якая «карпарацыя кніжнікаў» у Полацку магла прымаць тую прысягу ў «доктара Францыска»? Словам, загадкі раскручваюцца адна за другою. А ці дачакаемся калі-небудзь адказу на гэтыя і іншыя пытанні? Ды яшчэ адна справа магла б зацікавіць некампетэнтнага чытача. Калі ў Полацку існавала «карпарацыя кніжнікаў», якая магла прымаць прысягу ў Францішка Скарыны перад яго паступленнем у Кракаўскі універсітэт, то калі яна ўзнікла, як яна апярэдзіла першадрукара ў пашырэнні кніжнай мудрасці, якое дачыненне яна мела да кніг? Я тут зразумеў толькі адно: прысягнуўшы «карпарацыі кніжнікаў» карыстацца толькі формай «Францыск» — ды яшчэ з дабаўкай «прафесіяніма» «доктар», Францішак, Скарынін сын, не мог парушыць прысягу, пераступаючы парог Кракаўскага універсітэта.

А наогул калі першадрукар усюды, у кожнай без выключэння кнізе «Біблії», піша пра сябе «Я, Францішак, Скарынін сын» або «Францiска, Скарыніна сына», «Францiскам Скарыніным сынам», то ва ўсіх разважаннях Уладзіміра Агіевіча адчуваецца катэгарычнае і цвёрдае патрабаванне да паслушных чытачоў: «Не верце яму! Яго звалі Георгіем!»

Так выглядаюць некаторыя з пытанняў, якія нараджаюцца пад уздзеяннем «рэха з бочкі».

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

**Раздзел III**

## АДКРЫТАЕ ГРАМАДСТВА



Фота Васіля ЗЯНЬКО.





# *ДАР ЗЯМЛІ І НЕБА*

Ні Пушкін, ні Шэкспір, якія валодалі агромністым лексічным запасам, ніколі б не сказалі, што яны пакарылі вяршыню пад назвай Мова. Горняе фізічнымі адзінкамі не вымяраецца. Горняе — гэта аднначасова ўнутранае, зрок, сэрца, і знешняе — усеабдымнае, колькасна і лагічна фіксуемае. Дыялектычнае спалучэнне гэтых дзвюх якасцей і спараджае Мову. Дар зямлі і дар неба.

Кожнае слова, нават слоўца, некуды вядзе: ці да духоўнага святла, ці ў цемрадзь... Выбірай словы, чалавеча, беражы іх! Бог даў табе свабоду выбару, але не даў права на бяспамяцтва і згубства.

Дарагія мае,
сябрукі-аднагодкі!
На мове якой вам сны
у маленстве сніліся?
Няўжо вы пра час
той салодкі,
Няўжо назаўсёды
забыліся?
Няўжо вы рашылі —
наіўная вера —
Што з роднаю мовай
шлях толькі у пекла?
Скажыце,
якая сякера
Вам памяць
па самыя плечы адсекла?

Ну вось і выказаўся. На душы, як быццам, лягчэй стала. А што далей? Хай нейкі дзядзька, надзелены ўладай, пра развіццё роднай мовы думае? Так яно ў большасці выпадкаў і атрымліваецца. Хопіць стаяць каля ўяўнай сцяны плачу і пасыпаць галаву ўяўным (моўным) попелам. Лягчэй за ўсё схавацца за чарговую "фанеру" — так званую "русіфікацыю". А як тады пераварыць той факт, што кожная чацвёртая краіна ў свеце мае на сёння дзяржаўнай мовай англійскую? Аж 52 краіны! Што, енчыць пра "англафікацыю"?

Цалкам згодны са Святланай Алексіевіч, якая сцвярджае ў друку пра няздатнасць беларускіх пісьменнікаў да выказвання новых ідэй. Колькі напісана наконт мовы, а воз — на месцы. Больш таго, сітуацыя пагаршаецца. Асабліва, што тычыцца нармiраванай літаратурнай мовы. Дакуль будуць існаваць розныя моўныя курсы? Мова — не валюта. Хочаце ўвесці некаторыя элементы "Тарашкевіцы"? Калі ласка. Але гэта павінны прапанаваць дасведчаныя спецыялісты, а не гарлапаны на мітынгах, якія лічаць, што "мяккі знак дазволіць хутчэй інтэгравацца ў "Эўропу".

Першае, што трэба зрабіць сёння, дык гэта абараніць на дзяржаўным узроўні нарміраваную літаратурную мову. Упэўнены, што пасля адпаведнай падрыхтоўчай работы Дзяржава сваё слова скажа. Наша задача — дапамагчы ёй канкрэтнай кваліфікаванай работай.

**Вячаслаў ДАШКЕВІЧ**





**Віктар ІЎЧАНКАЎ,**
**загадчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання, кандыдат філалагічных навук, дацэнт**

# *У ВЕЧНЫМ ПОШУКУ СВАЙГО ПРАВАПІСУ*

Кожны з нас у сваім жыцці сутыкаецца з правапісам. У каго гэта адбываецца, калі ён упершыню бярэ ў рукі асадку, у іншага — калі задумваецца над напісаннем не зусім вядомага яму слова, а ў каторага — на зыходзе свайго жыцця. Вечная праблема… такая простая і такая складаная.

Чалавек, прыдумаўшы пісьмо, заўсёды клапаціўся пра тое, каб як мага больш дакладна, лаканічна і зразумела перадаць сваю думку. У гэтым памкненні пазнаюцца Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына, Яўхім Карскі, Мікалай Каспяровіч, Браніслаў Тарашкевіч і іншыя славутыя сыны зямлі беларускай. Вядомы такі клопат і нашаму сучасніку, якому бывае так не проста разабрацца ў напісаннях. А як інакш — пытанні беларускага правапісу ўсвядомлена сталі абмяркоўвацца толькі ў XX стагоддзі. Пры тым, што вядучым кірункам развіцця беларускай арфаграфіі было імкненне найбольш поўна адлюстраваць жывое вымаўленне. Агульнапрызнана, што прагрэсіўнае тое пісьмо, якое найбольш набліжана да вымаўлення.

Зусім нядаўна мы трапілі ў сітуацыю, калі спрабавалі перагледзець існуючыя нормы беларускага правапісу. Адштурхоўваючыся ад пануючага прынцыпу арфаграфіі ў рускай мове, мы агалошвалі няпісанае правіла: па-беларуску пішы, як чуеш. Колькі шкоды прынёс гэты нягласны настаўніцкі імператыў...

Канешне, калі беларускую мову "прапускаць" праз рускую, то бачыцца перавага фанетычных напісанняў. Напрыклад, закон недысімілятыўнага акання накладаецца на правапіс: гаворым [малако] і пішам *малако*, тады калі ў рускай мове гаворым [мъл^ко], а пішам *молоко*.

Цікава, што і ў рускім мовазнаўстве набывае моц азначэнне ў якасці вядучага прынцыпа напісання рускай арфаграфіі фанемнага, паняцце якога было выведзена яшчэ ў 1930 годзе Р. Аванесавым, і вычарпальнае вытлумачэнне якога даецца ў манаграфіі С. Кузьміной "Тэорыя рускай арфаграфіі" ў 1981 годзе.

На працягу XX стагоддзя, калі беларуская мова была і незабароненай, і нешырока функцыянальнай, а "мовай экзатычнай", такі падыход мог мець месца. Але ж калі мы абвясцілі на ўвесь свет, што мы незалежныя, то хай кане ў Лету школьная небыліца, якую, упэўнены, чуў кожны, хто вывучаў беларускую мову. Навошта тады здзіўляцца напісанням тыпу *на кладацці, даццэ, шытак, сьнех, дарох і інш.*

Гісторыя сведчыць, як толькі на арэне гісторыі з'яўляецца значная асоба або нарастае грамадскі катаклізм — гэта заўсёды адбіваецца на азбуцы і арфаграфіі. Прывядзем толькі факты з гісторыі рускай і беларускай моў: 1708 — 1710 гг., 1917 — 1918 гг., 1933 г., 1956 г. ( у рускіх) і 1959 ( у беларусаў), спробы змяніць беларускі правапіс 1993 — 1994 гг. Яны красамоўна сведчаць пра тое, у які час абвастраюцца пытанні правапісу...

Як бы і сёння не патрапіць у даўнюю "хваробу" грамадства, калі так рашуча і ўпэўнена спрабуем абвергнуць тое, што дасталося нам у спадчыну, не звяртаючы ўвагі на інтэлектуальныя традыцыі мінулага, абвергнуць усё разам, каб не надакучала, не мазоліла вочы. Нешта падобнае можам назіраць у намаганнях сучаснікаў распарадзіцца лёсам гісторыі — "вывесці" правілы арфаграфіі, якія б супадалі з большасцю галасоў.

Але ж арфаграфія — не парламент, і большасцю галасоў тут не возьмеш. Арфаграфія — сукупнасць правіл, якімі павінен кіравацца кожны пры перадачы вуснай мовы на пісьме і якія вызначаны і апісаны навукоўцамі — назіральнікамі за моўнымі заканамернасцямі і тэндэнцыямі. Менавіта на іх (заканамернасцях) і павінна грунтавацца пісьмо. Бо, як бы мы не спрабавалі абысці гэтую ісціну, прадпісваючы і загадваючы пісаць так, як гэта вымушаецца пазамоўнымі цікавасцямі, дарэмнымі будуць нашы жаданні.



Такіх сведчанняў гісторыя беларускага правапісу ведае нямала. Варта прыгадаць тут і граматыку, якая таксама не можа стаць паслужніцай палітычных памкненняў. Рэформай 1933 года ў арфаграфію беларускай мовы былі ўнесены змены, што вымушалі пісаць словы "рэвалюцыйнага" паходжання на манер рускай мовы *(комунізм, соцыялізм)*, гэтым жа словам прадпісвалася мець не ўласцівыя ім канчаткі (напрыклад, у родным склоне: *камунізм -а, сацыялізм -а, марксізм -а, ленінізм -а.*), тады калі ў словах такога ж лексіка-граматычнага разраду пісаўся канчатак — *-у (феадалізму, дарвінізму, імперыялізму, трацкізму, капіталізму і г.д.)*. Гэта яскравае сведчанне асуджэння такіх намаганняў на правал, бо не можа ў мове застацца надоўга чужародная з'ява. Раней ці пазней яна выпадзе з ужытку. Так і сталася з прыгаданымі словамі: у правілах 1959 года ўжо не знаходзім выключэння тыпу *комунізм*, а на сёння напісанне ў родным склоне канчатка *–а* ў словах тыпу *сацыялізм* з'яўляецца анахранізмам. Хоць гэта ўжо не арфаграфія, а граматыка. Сучаснаму чытачу сёння могуць здацца недарэчнымі і "з'едлівымі" такога кшталту выпадкі. Але не трэба спяшацца.

Да месца будзе ўзгадаць фрагмент з кнігі вядомага беларускага мовазнаўца І. Лепешава, у якім распавядаецца пра выпадак, калі адзін са стваральнікаў найбольш масавага і прызнанага арфаграфічнага слоўніка паспрабаваў патлумачыць наменклатуршчыкам ад партыі, што, маўляў, найменні абстрактныя мужчынскага роду ў родным склоне маюць канчатак *–у*, на што была імгненная рэакцыя тыпу: "Вы што, лічыце камунізм, сацыялізм абстракцыяй?!" Каб у невуцтва былі крылы, то далёка паляцелі б такія заўзятары марксізму-ленінізму. Але Бог не даў ім крылы – і сядзяць яны і па сёння...

Ці не задумваемся, чаму сёння пішам *Ільіч, Ульянаўск*, калі ў беларускай мове ў інтэрвакальным становішчы (паміж галоснымі) адбываецца падаўжэнне зычных, чаму сёння назіраецца выразная непаслядоўнасць у назвах месяцаў — усе яны ўласнаславянскія, акрамя назвы *"май"*. Паказальна, што апошняе набывае нават алегарычнае тлумачэнне: маем на ўвазе ўзгадку шаноўнага лінгвіста, які надаў гэтай назве іншае гучанне — з паганскіх часоў так называецца звычай у беларуса, які павінен быў, пакланяючыся аднаму з багоў, прынесці з лесу і пасадзіць ля сваёй сядзібы дрэўца. Тады будзеш мець дабрабыт, шчасце і добрую долю. Адсюль, маўляў, і май — у сэнсе "май усяго шмат". Давялося нядаўна пачуць падобнае на пасяджэнні круглага стала, арганізаванага Саюзам пісьменнікаў, з вуснаў адзінага дзеючага лінгвіста-акадэміка. Штучнасць такіх меркаванняў не патрабуе каментараў.

На жаль, пералік такіх прыкладаў можна доўжыць і доўжыць. Менавіта

ўзгаданыя напластаванні на мову даюць падставы зневажальна сцвярджаць пра "рэпрэсаванасць" сучаснага правапісу. Але іх неправамернасць, лінгвістычная беспадстаўнасць навідавоку, і не трэба быць вялікім знаўцам, каб заўважыць гэта. Падобныя з'явы сталі лыжкай дзёгцю ў рэфармаванні арфаграфіі ў 30-я гады мінулага стагоддзя.

Рэформа правапісу 1933 г., якая закранула не толькі арфаграфію беларускай мовы, а значна паўплывала на яе граматыку, засноўвалася на пошуках магчымасцей уніфікацыі пісьма, спрашчэння яго дзеля практычнага выкарыстання. Як толькі ўсходнеславянскія азбука і правапіс сталі фарміравацца і набываць сваё выяўнае абліччa, праблема іх спрашчэння была асноўнай і своечасовай у носьбітаў мовы. Да гэтага прыклаў руку Пётр Вялікі, спрабаваў унесці карэктывы Міхайла Ламаносаў. Але нішто і ніхто не вольны ладзіць правапіс, як час...

Нельга сказаць, што рэформа 33-га вырашыла ўсе праблемы беларускага правапісу, як нельга не сказаць, што пошукі ўдасканалення правапісу не былі беспраблемнымі.

Інтэнсіўная праца па рэформе беларускага правапісу і азбукі вядзецца з першых гадоў XX стагоддзя. Шырокавядомая ў той час граматыка Б. Тарашкевіча (1918) — першая на Беларусі, у якой у дасканалай, даступнай форме падаюцца асноўныя якасці і выразныя асаблівасці нашай мовы. Яна карысталася вялікім попытам у сучаснікаў. З цягам часу, аднак, "Граматыка" не магла задаволіць узрастаючыя патрабаванні да нармавання мовы. У навуковых колах паўстала пытанне пра інтэрпрэтаванне некаторых правілаў, змешчаных у ёй. Мабыць, такая занепакоенасць тлумачыцца не толькі якасцю навуковага ўзроўню аналітычнага апісання моўных фактаў, але і данінай часу — бурлівага і ў сваёй рэвалюцыйнай узнятасці, паспешлівага.

Існаванне нармаванай літаратурнай мовы лічыцца найважнейшай формай праяўлення культуры народа, нацыі. І правапіс адыгрывае ў гэтым найгалоўную ролю. Яму павінны падпарадкоўвацца ўсе. Як ужо адзначалася, прагрэсіўнае тое пісьмо, якое наглядна падпарадкоўваецца вымаўленню. Але як бы не хацелася паставіць знак роўнасці паміж напісаннем і вымаўленнем, зрабіць гэта немагчыма, бо перашкодай будзе супрацьстаянне "фанетыка — марфалогія". Вось чаму ізноў-такі непрымальны распаўсюджаны ў нас прынцып "пішы, як чуеш". Энцыклапедыя "Беларуская мова" (1994) сведчыць: "Колькасць правіл, заснаваных на марфалагічным прынцыпе, пераважае".

У нядаўнім часе амаль не модай стала ўвядзенне ў друкаванае слова "альтэрнатыўных" форм правапісу, граматыкі, словаўжывання.

Заўзятары так званай "тарашкевіцы" ў запале перакanання перадачы на



пісьме асіміляцыйнай мяккасці пішуць і вымаўляюць *ськінуць, сьхіліць, зьгінуць*, тады калі ўсходнеславянская мова мае асобную гісторыю функцыянавання заднеязычных *[г], [к], [х]*, што доўгі час не маглі памякчацца нават перад галоснымі тыпу *[і], [е]*, а пераходзілі ў іншыя гукі. Вось адкуль назіраем чаргаванні гукаў *[г]//[з], [г]//[ж]* і да іх пад. *(дарога — дарожанька — на дарозе)*. Як адбітак гэтай гістарычнай з'явы выступае асаблівасць сучаснай беларускай мовы, што замацавана і ў граматыцы Тарашкевіча, — найбольш здатныя да памякчэння гукі *[з], [с]* не памякчаюцца перад заднеязычнымі *[г], [к], [х]*.

Рэформай 33-га была адменена перадача на пісьме асіміляцыйнай мяккасці. Менавіта мяккаму знаку 90-я гады мінулага стагоддзя надалі сімвалічнае напаўненне беларускасці. За што, здаецца, яму такая павага? Чаму нават вучоныя-лінгвісты бачаць у ім панацэю ад бед, ад няправільнага вымаўлення? Бо мы скіраваны на практыцызм. Стаіць мяккі знак — вымаўляй мякка. Але ж як быць з такімі выпадкамі, як *[з'ява*], дзе *[з]* мяккі. Наракаюць настаўнікі беларускай мовы: паспрабуй, маўляў, навучыць дзяцей правільна вымаўляць словы тыпу *снег, песня, звер*.

Прыпадабненне па мяккасці (асіміляцыйная мяккасць, якая выклікаецца фанетычнай пазіцыяй, суседствам гукаў) — яскравая адметнасць роднай мовы, і вымаўленне ў словах тыпу *снег, песня* пры збегу зычных — мяккае. Гэта імператыўная (строгаабавязковая) норма арфаэпіі.

У сучасным правапісе нормы напісання мяккага знака грунтуюцца на пазначэнні так званай этымалагічнай мяккасці. Варта адзначыць, што яны не пазбаўлены супярэчлівасцей. Навідавоку недакладнасць пэўных фармулёвак. Напрыклад, такой: **мяккі знак пішацца ў сярэдзіне слова пасля мяккага, які пры змене слова можа станавіцца цвёрдым (*на пісьме — пісьмо*)**. Гэтае правіла пануе і ў беларускай, і ў рускай, і ва ўкраінскай мовах. Астатняе — прыватныя выпадкі напісання мяккага знака. Аднак словы тыпу *прызба* таксама падпадаюць пад гэтае правіла *(на прызбе — прызба)*, таму што па закону асіміляцыі *[з]* павінен быў прыпадобніцца да *[б']*. Здаецца, і тут трэба пісаць мяккі знак. У літаратурнай мове згаданае слова закадыфікавана ў прапанаваным выглядзе, хоць мала хто з карэнных беларусаў вымаўляе *[прызба]*, у народным вымаўленні аддаецца перавага варыянту *[прыз'ба]*. Ёсць яшчэ выпадкі амаль такога кшталту — *пры хунце, пры камунізме* і да іх пад. Вось што, мабыць, і павінна было б стаць прасторай для думак...

Праблема абазначэння асіміляцыйнай мяккасці існуе даўно. Аднак ніколі ў прынцыпе не адкідвалася сама ідэя мяккага вымаўлення ў пэўным фанетычным становішчы гукаў. Бо немагчыма штучна спыніць дзеянне

закона. Трэба правільна вымаўляць словы, трэба ведаць нормы арфаэпіі — раздзела мовазнаўства, якому ва ўсіх цывілізаваных грамадствах аддаецца пэўная доля ўвагі і ведаў, якая падпарадкоўвае сабе варыянты вымаўлення, уніфікуе іх у строга азначаны.

Маю цвёрдае перакананне, калі нават і вярнулі б пазначэнне асіміляцыйнай мяккасці графічна, то ненадоўга, да наступнай рэформы, якія нам так падабаецца рабіць. Зразумела, што мы павінны больш увагі надаваць вывучэнню арфаэпіі роднай мовы. Тады і дзеці нашыя не страцяць пяшчотнасці, мяккасці і мілагучнасці ў вымаўленні.

Арфаграфія — справа лінгвістычнага парадку, але мае пад сабой і сацыяльны, пазамоўны грунт. Нездарма “Правілы” зацвярджаюцца ўрадам той ці іншай краіны. Можна сказаць — гэта закон, які ніхто не мае права парушаць. Маюцца краіны (Францыя, Японія, Польшча і інш.), у якіх за парушэнне лексічных норм накладаюцца штрафныя санкцыі. Да месца можам узгадаць Англію, у якой вельмі асцярожна ставяцца да змен у арфаграфіі. З XIV стагоддзя англійскі правапіс не змяняўся. Нездарма ў народзе з’явілася выслоўе: пішам Ліверпуль, а чытаем Манчэсцер. Пра што гэта сведчыць? Толькі пра адно: англічане не церпяць умяшальніцтва ў святая святых. Там ажыццяўляецца ўсвядомленае, мэтанакіраванае ўздзеянне грамадства на функцыянаванне і развіццё мовы, тое, што называецца моўнай палітыкай. Дасканаласць літаратурнай мовы вынікае з адзінства норм маўлення бацькоў і дзяцей, дзядоў і праўнукаў. Мінулае стагоддзе зведала некалькі інтэрпрэтацый беларускага правапісу — 1918, 1933, 1957 гг. Ці не зашмат на адно стагоддзе? І так і не. Калі ўлічыць, што беларуская мова доўгі час была ў забароне, то жаданне сістэматызаваць правапіс, як гэта зрабіў Б. Тарашкевіч, было натуральным і заканамерным. Іншая справа, калі маўленне беларуса (і пісьмовае, і вуснае) падладкоўвалі пад іншую мову. Мала якія мовы зведалі такі экстралінгвістычны ўплыў, як беларуская.

Шмат было ў праведзенай рэформе штучных абмежаванняў, выключэнняў, якія ідэалагічна “ахоўвалі” каштоўнасці свайго часу. Шмат мы згубілі, не змаглі ацаніць моўнага скарбу, які быў укладзены ў слоўніках М. Байкова і С. Некрашэвіча (“Беларуска-расійскі слоўнік”, 1926 г.), М. Касяпровіча (“Беларуска-расійскі слоўнічак”, 1925 г.), М. Байкова і М. Гарэцкага (“Практычны расійска-беларускі слоўнік”, 1924 г.), В. Ластоўскага (“Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік, 1924 г.). Не змаглі зберагчы і саміх вучоных...

У мовазнаўстве існуе тэорыя эканоміі маўленчых намаганняў, паводле якой усё неінфарматыўнае або роўнакамунікатыўнае павінна ці знікнуць ці уніфікавацца. Мяккі знак, які фіксаваў толькі фанетычнае суседняе



прыпадабненне, якраз і стаў празмерным. Нешта падобнае назіралася і ў рускай мове, калі цвёрды знак (былы ёр) абавязкова павінен быў суправаджаць словы, што заканчваліся на цвёрды зычны (*онъ, вотъ, крестьянинъ)*. Наглядалася сітуацыя — слова на зычны павінна было заканчвацца або мяккім знакам, або цвёрдым. У далейшым пазначэнне цвёрдасці на канцы слова было заменена сацыяльнай дамоўленасцю: слоў, якія заканчваліся на цвёрды зычны, было значна больш, чым тых, якія заканчваліся мяккім — адсюль фіксацыя толькі мяккага зычнага.

У беларускай мове да гэтага яшчэ фіксавалася і суседняя мяккасць, якая паказвалася і фанетычна (арфаэпічна), і графічна (арфаграфічна). Такая празмернасць была відавочнай. Такім чынам у нашай мове прыватнае, больш грувасткае замянілася агульным, больш адцягнутым ад частага практычнага ўжывання. І не вяртацца нам трэба да напісання неінфарматыўнай літары, а ўдасканальваць сваю арфаэпію.

Шмат пытанняў ставіць перад намі час, які няўмольна прымушае ўглядацца ў мінулае, абагульняць і ацэньваць нашу гісторыю. Яшчэ больш праблем і трывог выклікае будучыня, якую трэба падгрунтаваць, і барані Божа, зрабіць гэта паспешліва, неабдумана і ў духу “дэмакратычных” бадзянняў.



**Алена АНІСІМ,**
**старшыня Мінскай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", намеснік старшыні ТБМ**

# *МОВА Ў СМІ*

Функцыянаванне беларускай мовы ў СМІ я разглядаю ў двух аспектах. Першы — паўната рознага роду інфармацыі на беларускай мове. Гэты аспект мяне цікавіць у першую чаргу як старшыню Мінскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Наша арганізацыя, як вядома, зацікаўлена ў тым, каб правы людзей размаўляць, навучаць дзяцей, атрымліваць інфармацыю на беларускай мове было забяспечана цалкам. Гэтай праблеме, якая носіць выразны прававы характар, мы надаём вельмі вялікае значэнне ў сваёй дзейнасці.

Для таго, каб знайсці шляхі выпраўлення існуючага сёння становішча, калі ў многіх сферах жыцця грамадства ігнаруецца мова карэннага народа, рэспубліканская арганізацыя і гарадская ў тым ліку распачалі працу па стварэнні Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Зараз гэта праца падыходзіць да завяршэння. Акрамя таго, наша арганізацыя супрацоўнічае з дзяржаўнымі структурамі па пытаннях функцыянавання беларускай мовы. Прыкладам плённага супрацоўніцтва ці нават



узаемадзеяння розных грамадскіх арганізацый і дзяржаўных структур можна назваць Міжнародны сімпозіум "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", які адбыўся 9 — 10 ліпеня ў Доме літаратара. Таварыства беларускай мовы было адказным за правядзенне трох круглых сталоў, на якіх абмяркоўваліся праблемы функцыянавання дзяржаўнай беларускай мовы ў сферы адукацыі, у рэкламе і маркетынгу, у камп'ютэрных тэхналогіях. Дарэчы, адзін з круглых сталоў, за правядзенне якога адказваў Саюз пісьменнікаў Беларусі, быў прысвечаны мове ў СМІ.

Сяброў гарадской арганізацыі надзвычай незадавальняе сітуацыя на канале Сталічнага тэлебачання, дзе дзяржаўная беларуская мова адсутнічае, можна сказаць, зусім. І атрымліваецца, што беларускамоўныя грамадзяне сталіцы і некаторых раёнаў, дзе прымаюцца праграмы "СТВ", дыскрымінуюцца кіраўніцтвам тэлеканала. Мы звярталіся з прапановамі да Мінгарвыканкама наконт гэтай праблемы, але, на жаль, справа пакуль не зрушылася з месца. Зараз мы праводзім кампанію па лістах грамадзян да кіраўніцтва тэлеканала з патрабаваннем забяспечыць вяшчанне розных праграм на дзяржаўнай беларускай мове. Спадзяёмся, што голас грамадскасці будзе пачуты і кіраўніцтва "СТВ" перастане ігнараваць дзяржаўную мову. Мы будзем настойваць на забеспячэнні законных правоў усіх грамадзян, якія карыстаюцца беларускай мовай у штодзённым жыцці.

Другі аспект ужывання мовы ў сродках масавай інфармацыі датычыцца сферы культуры мовы. Не сакрэт, што вельмі часта, асабліва калі казаць пра радыё і тэлебачанне, мы сутыкаемся з выпадкамі ўжывання нелітаратурнай мовы. Думаю, што гэта праблема закранае як носьбітаў (каму прыемна, калі з тваёй мовы ледзьве што не здзекуюцца — крыўляюцца), так і навукоўцаў-філолагаў. Як супрацоўнік Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, я лічу, што кожная рэдакцыя (друкаванае гэта выданне, ці радыё або тэлевяшчанне) павінна сачыць за культурай мовы сваіх дыктараў і журналістаў. Я не кажу пра цэнзураванне ці поўную нівеліроўку аўтарскага стылю, а маю на ўвазе дасканалае валоданне словам. Бо гэта — адна з прыкмет прафесійнасці. Не думаю, што журналісты не ўсведамляюць сілу друкаванага слова. Таму хацелася б, каб яны больш адказна падыходзілі да ўжывання тых ці іншых словаформ, часцей карысталіся слоўнікамі пры падрыхтоўцы матэрыяла. Прыкрыя, а то і анекдатычныя выпадкі ўжывання некаторых моўных канструкцый зусім не падвышаюць прэстыжнасці рэдакцыі, наўрад ці садзейнічаюць яе прафесійнай папулярнасці, не кажучы ўжо пра імідж канкрэтнага журналіста або дыктара. Ва ўсялякім разе, неаднойчы чула ад розных людзей: "Калі я паслухаў, што дыктар беларускага тэлебачання гаворыць "вараздушныя стасункі", то лепей я буду гаварыць па-руску". Вядома,

я запярэчыла свайму суразмоўцу, запытаўшы, што рабіць тады, калі чалавек дрэнна размаўляе па-руску? (А такіх выпадкаў у жыцці сустракаецца надзвычай многа.) Тады, па логіцы, трэба наогул замаўчаць? Вось так праблема культуры мовы аднаго ці некалькіх журналістаў вырастае, як снежная лавіна, у праблему грамадства. Адсюль, іншага шляху, як толькі павышэнне асабістай адказнасці кожнага журналіста, кожнага рэдактара за свой прафесійны ўзровень, я не бачу.

Рызыкую выклікаць гнеў многіх людзей, але я не бачу вялікай праблемы ў тым, якімі менавіта нормамі карыстацца: "наркамаўкай" ці "тарашкевіцай". Мне здаецца, важней прытрымлівацца чагосьці аднаго: калі рэдакцыя лічыць, што выданне павінна выходзіць на мове пачатку XX ст., значыць, усе журналісты карыстаюцца гэтым варыянтам мовы. Калі ж лепей валодаюць сучаснай літаратурнай мовай, значыць, прытрымліваюцца гэтых нормаў. Важней для мяне падаецца, каб пад размовы пра тое, што беларуская мова нібыта недасканалая, нераспрацаваная, некаторыя працаўнікі пяра не пачалі ўвогуле ігнараваць саму мову або пісаць па прынцыпу: "хто как хаціт, тот так і гаварыт".





**Сяргей МАКАЁНАК,**
**загадчык рэдакцыі камп'ютэрнай падрыхтоўкі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя"**

# *БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС У КАМП'ЮТЭРЫ*

Часам даводзіцца чуць, маўляў, каму патрэбна камп'ютэрная праўка беларускай мовы? Ды ўсім, хто карыстаецца камп'ютэрам — у школах, інстытутах, розных установах і арганізацыях.

Гэта — стымул для ўдасканалення ведання мовы, калі ты сядзіш за камп'ютэрам, набіраеш тэкст, адразу бачыш праўку і сам выпраўляеш свае памылкі. Лепей жа вучыцца, гледзячы на манітор, адзін на адзін з сабою, чым чырванець за памылкі дзе-небудзь прылюдна.

Азірнемся навокал! Колькі ў нашых гарадах вывесак, шыльдаў, аб'яў, таварных этыкетак на беларускай мове з памылкамі. Мабыць, не ўва ўсіх пад рукамі ёсць слоўнікі, не ўсе ўмеюць імі карыстацца. Затое цяжка ўявіць сабе ў наш час офіс без камп'ютэраў. А там сёння

ёсць камп'ютэрная праўка англійскай, кітайскай, французскай, ды пры жаданні знойдзеш любую мову свету акрамя беларускай. Што ў такім выпадку можа думаць звычайны ПК-карыстальнік? Няма праграмы правапісу — значыць, і мовы такой няма!

Між іншым, у нашай краіне ніхто не адмяняў двумоўя. Дзяржаўнымі з'яўляюцца і руская, і беларуская мовы. З першай усё ў парадку. Праблемай уводу камп'ютэрнай праўкі беларускай мовы займаўся Інстытут кібернетыкі НАНБ. Але ў пэўны час паклаў яе на паліцу — гэтая распрацоўка каштуе грошай. Выдавецтвам БелЭН сумесна з Акадэміяй навук створаны фундаментальны слоўнік беларускай мовы. Чаму б не зрабіць яго даступным?

Сёння ў нас шмат інфармацыі для таго, каб увесці ў камп'ютэр дакладны беларускі правапіс, беларускую стылістыку — і літаратурную, і навуковую. Але акадэмічныя інстытуты робяць тэму, а не палітыку. А дастаткова згадаць пра грошы, як усе агітатары і змагары за родную мову імгненна змаўкаюць. Добра, што няма праблем з напісаннем у камп'ютэры беларускіх літар. Па гэтай прычыне беларуская мова прысутнічае ў Інтэрнеце.

На мой погляд, вырашэнне пытання камп'ютэрнай праўкі беларускай мовы павінна ўскласці на сябе дзяржава, — у прыватнасці Міністэрства адукацыі, Міністэрства інфармацыі — а не чакаць, пакуль за гэтую справу возьмецца пэўная грамадская арганізацыя ці прыватная фірма, якія, між іншым, таксама за бясцэнак сваё аўтарскае права нікому не прададуць.

Прыкладам рэальнага клопату пра мову сёння служыць міжнародны французскі канал тэлебачання, фільмы якога мы ўжо прывыклі ўспрымаць па-беларуску. Вось аб чым думаюць еўрапейскія краіны — каб пры зліцці ў Еўрасаюз не страціць сваю самабытнасць.

***Заканчэнне тэмы ў наступным нумары.***



# НАПЯРЭДАДНІ НАВАСЕЛЛЯ

**Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — 80 гадоў**

Бібліятэка заснавана Пастановай Савета Народных Камісараў БССР ад 15 верасня 1922 года першапачаткова як Беларуская дзяржаўная і універсітэцкая бібліятэка. Для рэгістрацыі і канцэнтравання ўсіх твораў друку, што выходзілі ў межах БССР, пры Бібліятэцы ў 1922 годзе была створана Беларуская кніжная палата. Збіральнікам і кіраўніком Бібліятэкі на працягу 40 гадоў быў яе першы дырэктар І.Б. Сіманоўскі, ідэолаг і арганізатар практычна ўсіх напрамкаў дзейнасці Бібліятэкі. З першых гадоў існавання Бібліятэкі была наладжана бібліяграфічная дзейнасць. З 1924 г. стаў выдавацца "Летапіс друку БССР", пачалася работа ў галіне рэтраспектыўнай нацыянальнай бібліяграфіі.

У фарміраванні фондаў вялікую ролю адыграла дапамога дзяржавы, буйнейшых бібліятэк Масквы і Ленінграда, сістэматычнае папаўненне бягучымі выданнямі. З моманту заснавання Бібліятэка атрымлівала абавязковы бясплатны экзэмпляр друкаваных выданняў, што выходзілі ў СССР, і два абавязковыя беларускія экзэмпляры. Былі набыты буйнейшыя спецыялізаваныя кнігазборы, сярод іх — прыватныя калекцыі акадэміка Я.Ф. Карскага і прафесара М.А. Янчука па беларусазнаўству, этнаграфіі і літаратуры, акадэміка У.І. Пічэты па гісторыі Беларусі, акадэміка Я.К. Грота па славяназнаўству, кнігазборы прафесара П.М. Жуковіча, былога апекуна Віленскай вучэбнай акругі І.П. Карнілава і інш.

У сувязі з ростам кніжных фондаў і развіццём функцый Бібліятэкі



*І.Б. Сіманоўскі.*

Пастановай СНК БССР ад 14 мая 1926 года яна была выдзелена ў самастойную Беларускую дзяржаўную бібліятэку.

У 1932 г. Бібліятэка была рэарганізавана ў Дзяржаўную бібліятэку БССР з прысваеннем ёй імя У.І. Леніна. У той жа год яна атрымала новы будынак, узведзены паводле праекта архітэктара Г. Лаўрова, у якім размяшчаліся чытальная зала на 400 месцаў, чытальная зала для навуковых супрацоўнікаў, былі арганізаваны даведачна-бібліяграфічны аддзел, абанемент, кабінет бібліятэказнаўства. Кніжны фонд Бібліятэкі ўжо налічваў больш за мільён адзінак захоўвання і ўяўляў сабой грунтоўную базу для абслугоўвання навукоўцаў і спецыялістаў розных галін навукі і народнай гаспадаркі. На працягу 1926 — 1933 гг. Бібліятэка адкрыла свае філіялы ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, а ў 1934 г. — у Мінску пры Доме Урада. У далейшым на базе гэтых філіялаў былі арганізаваны Урадавая (зараз Прэзідэнцкая) і абласныя бібліятэкі.

На пачатку 1941 г. фонд Бібліятэкі налічваў больш за 2 млн. тамоў, а колькасць чытачоў — 15 тыс. чалавек.



*Галоўны корпус Бібліятэкі, узведзены ў 1932 г. па праекце Г. Лаўрова, з'яўляецца помнікам беларускай архітэктуры 20-х гадоў.*



У гады Вялікай Айчыннай вайны нямецкія акупанты па-варварску разрабавалі і знішчылі кніжныя фонды і бібліяграфічны апарат Бібліятэкі. Найбольш пацярпела калекцыя абавязковага экзэмпляра, ад якой засталося ўсяго 33 тыс. тамоў. Цалкам быў вывезены архіў друку БССР, газетны фонд, фонды аддзела беларускай літаратуры, рэдкіх і старадрукаваных кніг, абанемента, чытальных залаў. Разам з літаратурай быў спалены будынак рэзервовага фонду, знішчана багатае спецыяльнае абсталяванне. Будынак Бібліятэкі застаўся ў вельмі пашкоджаным стане, а з двухмільённага фонду ўцалела толькі 321 тыс. экзэмпляраў.

Праз некалькі дзён пасля вызвалення Мінска ў 1944 годзе было прынята ўрадавае рашэнне аб аднаўленні Бібліятэкі, але яшчэ ў пачатку 1943-га такую работу ўжо праводзіла група супрацоўнікаў Бібліятэкі, якая знаходзілася ў Маскве. Былі зроблены захады да аднаўлення абавязковага ўсесаюзнага экзэмпляра друкаванай прадукцыі з пачатку вайны. У аднаўленні фонду вялікую дапамогу

аказалі Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У.І. Леніна, Дзяржаўная бібліятэка па народнай адукацыі імя К.Д. Ушынскага, Народны камісарыят асветы РСФСР, Дзяржаўны фонд літаратуры, арганізацыі, установы і бібліятэкі іншых саюзных рэспублік. У кастрычніку 1944 года Бібліятэка ўжо была адкрыта для чытачоў. З вясны 1945-га пачаўся сістэматычны пошук вывезеных фондаў. Часткова іх знаходзілі ў Германіі, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі. У 1948 г. фонды Бібліятэкі былі колькасна адноўлены на даваенным узроўні, хоць шмат якія прабелы не ўдалося ліквідаваць і да гэтага часу. У 1961-м Бібліятэка атрымала новы корпус, што дало на той час магчымасць палепшыць умовы работы чытачоў і захавання фондаў.

Сведчаннем грамадскага прызнання дзейнасці Бібліятэкі стала ўзнагароджанне яе ў 1972 годзе ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. У 1977 г. са структуры Бібліятэкі была выдзелена і рэарганізавана ў самастойную ўстанову Кніжная палата. Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 мая 1992 года Бібліятэка перайменавана ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі.

Універсальны па тэматыцы фонд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі зараз налічвае каля 8 млн. адзінак захоўвання больш чым на 50 мовах свету і складаецца з рукапісаў, кніг, часопісаў, газет, аўтарэфератаў і мікрафіш дысертацый, нот, карт, выяўленчых выданняў, аўдыёвізуальных матэрыялаў, электронных дакументаў. Бібліятэка з'яўляецца дэпазітарыем матэрыялаў ААН, ЮНЕСКА, Савета Еўропы, АБСЕ, дзяржаўным міжгаліновым дэпазітарыем, захоўвае адзіныя ў Рэспубліцы Беларусь друкаваныя экзэмпляры выданняў, якія выйшлі ў свет у межах былога СССР па ўсіх галінах ведаў.



Асаблівую каштоўнасць уяўляе ўнікальны збор літаратуры, выдадзенай на Беларусі з пачатку XIX ст. да нашага часу, а таксама ўсіх выданняў і матэрыялаў пра Беларусь, у тым ліку і замежных. У фондах Бібліятэкі зберагаецца 65-тысячны збор рэдкіх выданняў, рукапісаў і старадрукаў. Сярод рукапісных матэрыялаў XIV — XX стст. (звыш тысячы адзінак захоўвання) на славянскіх, заходнееўрапейскіх і ўсходніх мовах вылучаецца калекцыя рукапісных кніг старажытнай традыцыі, у тым ліку беларускага паходжання (евангеллі, пралогі, служэбнікі, жыццяпісы святых, зборнікі слоў і павучэнняў і інш.); калекцыя спеўных рукапісаў крукавай і ноталінейнай натацыі; калекцыя ўсходніх рукапісаў па граматыцы, філасофіі, праву, мусульманскай тэалогіі і інш.; рукапісы дзеячаў навукі і культуры Беларусі (М.В. Доўнар-Запольскага, Е.Р. Раманава, А.М. Семянтоўскага (Курылы), У.І. Пічэты, З. Бядулі, Ц. Гартнага, Я. Коласа і інш.). Фонд старадрукаў (звыш 26 тыс. асобнікаў) уключае калекцыю інкунабулаў (44 адзінкі), сярод якіх "Кніга хронік" Х. Шэдэля (1493), выданне "Боскай камедыі" А. Дантэ (1481), першы нямецкі пераклад грэчаскага рамана III ст. "Гісторыя Апалонія, караля Цірскага" (Аўтсбург, 1471); калекцыю палеатыпаў (каля 200 асобнікаў), у тым ліку 16 прыжыццёвых выданняў М. Лютэра, выданні венецыянскай друкарні Альдаў (XV — XVI стст.), галандскіх кнігадрукароў Эльзевіраў (XVI — XVIII стст.), знакамітых друкароў Эц'енаў, Фрабэнаў, Планцэнаў і інш. У калекцыі кірылаўскага друку захоўваецца адзіны ў Рэспубліцы Беларусь збор выданняў беларускага першадрукара Францыска Скарыны — 10 выпускаў Біблії (Прага, 1517 — 1519), якія паклалі пачатак беларускаму кнігадрукаванню; выданні Васіля Гарабурды "Евангелие учительное" (каля 1580 г.), "Апостол" (Львоў, 1574 г.) і "Біблія" (Астрог, 1581 г.) Івана Фёдарава; кнігі з друкарні братоў Мамонічаў (XVI — XVII стст.); выданні рускіх, беларускіх, украінскіх друкарняў XVI — XVIII стст., сярод іх —"Азбука" В.Ф. Бурцава (1634), "Арифметика" Л. Магніцкага (1703), "Грамматика" М. Сматрыцкага (1648). У калекцыі рускага грамадзянскага друку ёсць прыжыццёвыя выданні М.В. Ламаносава, кнігі вядомага рускага асветніка XVIII ст. М. І. Навікова і часопісы, якія ён выдаваў: "Древняя российская вивлиофика", "Живописец", "Кошелёк". У Бібліятэцы захоўваюцца каштоўныя выданні XIX — пачатку XX стст.: з прыватных калекцый П.М. Жуковіча, І.П. Карнілава, акадэміка У.І. Пічэты па гісторыі Беларусі; А.П. Сапунова і І.І. Гальдштэйна па гісторыі Літвы і Польшчы, акадэміка Я.Ф. Карскага, прафесара М.А. Янчука па беларускай літаратуры, мове і этнаграфіі; першыя выданні твораў

В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і інш.; першыя легальныя беларускія газеты "Наша доля" і "Наша ніва"; першая нелегальная беларуская газета "Мужыцкая праўда", што выдавалася К. Каліноўскім; першая савецкая газета на беларускай мове "Дзянніца"; рэспубліканскія, абласныя, раённыя газеты і часопісы ад пачатку іх выдання. Захоўваюцца дакументы, якія адлюстроўваюць вялікія гістарычныя падзеі, сярод іх — выданні перыяду Вялікай французскай рэвалюцыі, калекцыі лістовак часоў Парыжскай камуны; выданні першых гадоў савецкай улады; збор падпольнага і партызанскага друку перыяду Вялікай Айчыннай вайны; вялікая калекцыя кніг з аўтографамі вядомых пісьменнікаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў; самая вялікая ў Рэспубліцы Беларусь калекцыя нот (80 тыс.); больш за 105 тыс. адзінак захоўвання выяўленчых матэрыялаў (плакатаў, паштовак, рэпрадукцый); звыш 30 тыс. аўдыёвізуальных дакументаў, сярод якіх значная колькасць грамзапісаў класічнага рэпертуару. У газетным фондзе сабраны ўсе беларускія газеты, камплекты дарэвалюцыйных газет, усе цэнтральныя, рэспубліканскія і выбарачна абласныя газеты Савецкага Саюза, асобныя газеты замежных краін. Бібліятэка мае 15-тысячны фонд карт, больш за 776 тыс. аўтарэфератаў і мікрафіш дысертацый. У склад фондаў уваходзяць звыш 1,5 млн. экзэмпляраў дакументаў на замежных мовах, 123 тыс. дакументаў на мікраносьбітах, больш за 1 600 электронных дакументаў, каля 4 тыс. дысертацый, абароненых у Рэспубліцы Беларусь, пачынаючы з 1994 года.





Штогадовая колькасць наведвальнікаў Бібліятэкі — звыш 600 тысяч чалавек, агульная выдача перавышае 3 млн. экзэмпляраў. Для чытачоў працуюць 14 галіновых і спецыялізаваных чытальных залаў, разлічаных на тысячу месцаў; рыхтуюцца шматлікія выстаўкі (каля 300 у год), сярод якіх тэматычныя, юбілейныя (прысвечаныя знамянальным і памятным датам), выстаўкі-прагляды; праводзяцца прэзентацыі лепшых выданняў, вернісажы, творчыя сустрэчы і іншыя мерапрыемствы. Паслугамі міжбібліятэчнага і міжнароднага абанемента карыстаюцца каля тысячы бібліятэк у краіне і за яе межамі. Актыўныя і рэгулярныя кнігаабменныя сувязі Бібліятэка падтрымлівае з 333 партнёрамі з 50 краін свету.



Навукова-даследчая і навукова-метадычная дзейнасць Бібліятэкі ахоплівае ўсе бакі бібліятэчнай сферы: заканадаўства, бібліятэчную сетку, камплектаванне, інфармацыйныя тэхналогіі, кансервацыю і захаванасць фондаў, абслугоўванне карыстальнікаў, функцыянаванне сістэмы МБА, наменклатуру бібліятэчна-інфармацыйных паслуг, і накіравана на навуковае і метадычнае забеспячэнне прыярытэтных напрамкаў, на вывучэнне і ўкараненне інавацый у практыку работы біблі-ятэк, на распрацоўку галіновых заканадаўчых і нарматыўна-рэгламентуючых дакументаў.

Выдавецкая дзейнасць Бібліятэкі накіравана ў першую чаргу на выпуск бібліяграфічнай прадукцыі (больш чым 20 назваў за год), якая мае адносіны да Беларусі. Сярод падрыхтаваных НББ рэтра-

спектыўных і бягучых навукова-дапаможных паказальнікаў, зборнікаў дакументаў — “Кніга Беларусі. 1517 — 1917” (1986), “Бібліяграфія па гісторыі Беларусі: Феадалізм і капіталізм” (1969), “Беларусь у друку XVI — пач. XX стст.” у 5-ці кнігах (1982 — 1985), “Беларуская драматургія” ў 2-х кнігах (1917 — 1986), нота- і фанаграфічны паказальнік “Беларуская літаратура ў музыцы (1918 — 1989)” (1991), штомесячны бібліягра-фічны бюлетэнь “Новыя кнігі: па старонках беларускага друку” (выдаецца з 1960 г.), зборнік дакументаў і матэрыялаў “Библиотечное дело в БССР” у 2-х кнігах (1918 — 1941) і (1941 — 1958) і яго працяг — зборнік дакументаў “Бібліятэчная справа на Беларусі, 1959 — 1975”. Вядзецца падрыхтоўка наступнага выпуску зборніка, які ўключае матэрыялы за 1976 — 1990 гадоў.

З 1990 года пачалася распрацоўка і ўкараненне аўтаматызаванай інфармацыйнай сістэмы Бібліятэкі. Створаная на базе лакальнай вылічальнай сеткі, сістэма аб’ядноўвае зараз больш за 170 персанальных камп’ютэраў. З 1993 года дзейнічае электронны каталог, ствараючы рэтраспектыўныя базы даных (БД) нацыянальнага дакумента, рэдкай кнігі і старадрукаў, аўдыёвізуальных і іншых дакументаў.

У рамках рэалізацыі міжнароднай праграмы “Памяць свету”, якая ажыццяўляецца пад эгідай ЮНЕСКА, Бібліятэка прымае ўдзел у распрацоўцы нацыянальнай праграмы “Памяць Беларусі”, з’яўляецца членам міжнародных прафесійных арганізацый, уваходзіць у лік заснавальнікаў Бібліятэчнай Асамблеі Еўразіі, арганізуе і праводзіць міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі, прысвечаныя актуальным пытанням бібліятэчнай дзейнасці.

**Галіна АЛЕЙНІК,**
**дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі,**
**заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь**



# *З ЖЫЦЦЯ СУЧАСНАЙ ЛАТВІІ*

***На працягу апошніх гадоў у друку краін Заходняй Еўропы і дзяржаў, суседніх з Рэспублікай Беларусь, змешчана шмат матэрыялаў, ёй прысвечаных. Даводзіцца канстатаваць, што публікацыі багатыя на фактычныя недакладнасці і памылкі, у большасці — неаб’ектыўныя. Аўтары быццам бы згаварыліся, расказваючы аб адным і тым жа і аднолькава інтэрпрэтуючы працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі. У той жа час публікацыі, прысвечаныя падзеям у краінах, якія адмовіліся ад незалежнай палітыкі, асабліва грашаць на замоўчванні, скажэнні, памылкі, а часам і на хлусню. Нельга не сказаць і аб тым, што ў перыядычным дзяржаўным друку Беларусі вельмі мала навукова дакладных, аналітычных матэрыялаў аб падзеях і працэсах у суседніх краінах. Адсутнасць аб’ектыўнай дакладнай інфармацыі спараджае чуткі і здагадкі. Так, у адным інтэрв’ю мінскага прафесара я са здзіўленнем прачытаў аб тым, што нібыта ўлады Латвіі клапоцяцца пра жыхароў сваёй краіны. Аб сапраўды рэальным сацыяльна-эканамічным становішчы і “клопаце” тых, хто мае ўладу ў Латвіі, пра жыхароў краіны — у нашым аб’ектыўным дакументальным аповедзе. Такім чынам, Латвія.***

## *Усіх зноў палічылі*

У сёмы раз, пачынаючы з 1897 года, насельніцтва Латвіі палічылі. Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне (ЦСУ) Латвійскай Рэспублікі (ЛР) апублікавала канчатковыя вынікі перапісу насельніцтва краіны.

Выяўлена: 31 сакавіка 2000 года ў Латвіі жылі 2,375 мільёна жыхароў, у тым ліку 1,37 мільёна латышоў, 0,7 мільёна рускіх, 97 тысяч беларусаў, 63 тысячы ўкраінцаў, 59 тысяч палякаў...

Усяго ў Латвіі жывуць прадстаўнікі больш за 150 нацыянальнасцей. Але пры гэтым ЛР — не краіна 100 моў. Так, рускую мову прызналі роднай і пераважная большасць тых, што жывуць у Латвіі беларусаў, украінцаў, палякаў, яўрэяў, татар, немцаў, больш за 48 тысяч латышоў, звыш 5 тысяч літоўцаў, больш за 500 цыганоў. Дзяржаўную мову лічаць "сваёй" амаль палова латвійскіх літоўцаў і эстонцаў. І атрымліваецца, што латышская — родная для амаль 1,4 мільёна жыхароў, руская — амаль для мільёна, а іншыя мовы — для некалькіх дзесяткаў тысяч чалавек.

За час ад перапісу 1989-га да перапісу 2000 года насельніцтва краіны зменшылася на 289 тысяч чалавек. Пры гэтым павялічылася адносная вага хутаран: на вёсцы колькасць насельніцтва зменшылася ўсяго на 2,4%, а ў гарадах — на 14,3%.

У Латвіі са страшэннай рэгулярнасцю скарачаецца колькасць і латышоў, і рускіх, і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Што датычыць латышоў, то, нягледзячы на вяртанне тысяч людзей на этнічную радзіму з Захаду і Усходу, змену нацыянальнасці, якая забяспечвае прызнанне прыналежнасці да карэннай нацыі, іх агульная колькасць знізілася амаль на 20 тысяч чалавек. Рускіх за час паміж перапісамі стала менш на 223 тысячы, украінцаў — амаль на 29 тысяч, беларусаў — на 22 тысячы. А яўрэяў засталося меней за трацiну ад ўзроўню 1989 года.

У пачатку сакавіка гэтага года ў Латвіі было 2 348 тысяч жыхароў — на 29 тысяч меней, чым на момант перапісу 2000 года, і на 318 тысяч меней, чым налічылі ў 1989 годзе.

## *Былая вітрына Савецкага Саюза*

Як вядома, Латвія была вітрынай СССР, адной з найбольш квітнеючых рэспублік. Здавалася б, аднаўленая незалежнасць павінна была забяспечыць дабрабыт і згоду ў грамадстве. Але ці так гэта? Ужо 15 кастрычніка 1991 года парламент Латвіі прыняў пастанову "Аб аднаўленні правоў грамадзян Латвіі і асноўных умовах



натуралізацыі". Гэтай "гістарычнай" пастановай больш за 30% пастаянных жыхароў краіны былі пазбаўлены ўсіх палітычных правоў, а праз непрацяглы час — і многіх сацыяльна-эканамічных. На май 1993 толькі 66% насельніцтва аказаліся грамадзянамі краіны. Не былі прызнаны як такія... 715 тысяч чалавек.

Прайшло болей 10-ці гадоў з часу абвяшчэння суверэнітэта і незалежнасці Латвійскай Рэспублікі. Тэрмін дастатковы, каб падвесці пэўныя вынікі і аб'ектыўна ацаніць дасягнутыя рэзультаты. Латвія аказалася адкінутай далёка назад. Мяркуйце самі: у 1970 годзе ў Латвіі аб'ём унутранага валавога прадукту (УВП) у разліку на аднаго жыхара складаў 2 406 долараў ЗША, у той час як у Японіі быў 2 365 долараў. Латвія па гэтаму важнейшаму эканамічнаму паказчыку была вышэй за сярэдні ўзровень па СССР на 30%, наперадзе Венгрыі і Польшчы. Але за апошнія 10 гадоў Латвія зрабіла імклівы скачок назад і апынулася ззаду суседніх краін.

Валавы ўнутраны прадукт (УВП) — адзін з важнейшых макраэканамічных паказчыкаў, які вызначае сукупную вартасць канчатковага прадукту (прадукцыі, тавараў, паслуг), створаных на працягу года ўнутры краіны.

Дзесяць гадоў незалежнага жыцця Латвіі не прывялі да чаканага росквіту. Пра гэта гавораць лічбы: аб'ём УВП за 1999 год дасягнуў толькі 57,9%, прамысловая вытворчасць — 45%, а сельскагаспадарчая — 34% да 1990 г., апошняга года "акупацыі" Латвіі Савецкім Саюзам. Цяпер толькі каля 5% апытаных ацэньваюць свае жыццёвыя ўмовы як добрыя.

У дакладзе спецыялістаў Сусветнага банка "Пераход да рыначнай эканомікі: першыя 10 гадоў" адзначана, што за мінулыя гады аб'ёмы вытворчасці ў Латвіі скараціліся напалову. Агульнае скарачэнне з 1990 да 2000 года роўнае 51%. Акрамя таго, у 2000-м УВП Латвіі быў на 41% меней, чым у 1990 годзе. Спецыялісты СБ адзначаюць, што гэта горшыя вынікі сярод краін Цэнтральнай Еўропы і Балтыі.

## *Інстытут прапаганды і падману*

У верасні 1998 года пастановай урада Латвійскай Рэспублікі (ЛР) створаны Інстытут Латвіі (ІЛ). Ён заснаваны з мэтай стварэння і папулярызацыі вобраза краіны за мяжой і ўнутры краіны, падрыхтоўкі

ідэалагічных і інфармацыйных матэрыялаў па палітыцы, міжнацыянальных адносінах, гісторыі, сацыяльна-эканамічных і іншых пытаннях. Інстытуту Латвіі даручана не толькі рыхтаваць і прапаноўваць патрэбную інфармацыю, але і каардынаваць папулярызацыю Латвіі. Прыярытэтныя напрамкі вобраза Латвіі павінен вызначаць стратэгічны савет Інстытута Латвіі (як у камандаванні фронтам), які складаецца з 17 чалавек. І вось узнікае пытанне: ці быў патрэбен такі Інстытут Латвіі — нейкае падабенства аддзела агітацыі і прапаганды ЦК кампартыі Латвіі савецкага часу, — калі б у Латвійскай Рэспубліцы сапраўды былі рэальныя поспехі ў сацыяльна-эканамічнай галіне?

Сацыялагічныя апытанні паказалі, што ў няправільнай скіраванасці працэсаў у Латвіі перакананы 46% латышоў і 57% прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

## *Блеф на экспарт*

Дзяржаўныя і палітычныя кіраўнікі Латвійскай Рэспублікі як замову паўтараюць заявы пра дасягнутыя Латвіяй поспехі. У чым жа канкрэтная сутнасць гэтых міфічных "поспехаў", замоўчваецца. Прыкладам такога "блефу на экспарт" можна назваць выступленне ў газеце "Frankfurter Alldemeine" міністра замежных спраў Латвіі Індуліса Берзільша з артыкулам "На агульным шляху ў еўрапейскую будучыню". Артыкул спадара І. Берзільша паўтарае даўно вядомыя факты, але не змяшчае ніякай канкрэтнай інфармацыі пра "поспехі". Чаму ж яе замоўчвае спадар міністр? Ды таму, што нармальнаму чалавеку, які хаця б крыху ведае рэальнае эканамічнае і сацыяльнае становішча ў Латвійскай Рэспубліцы, вельмі цяжка вешаць на вушы лапшыны.

Латвію прызнаюць бяднейшаю дзяржавай сярод усіх кандыдатаў на ўступленне ў Еўрасаюз. Але гэта яшчэ не ўсё: Латвія — самы жабрачы рэгіён у складзе тых жа краін-кандыдатаў. Такую сумную выснову змяшчае даследаванне статыстычнага бюро ЕС Eurostat. Паводле даных Eurostat, унутраны валавы прадукт (УВП) у разліку



на душу насельніцтва Латгаліі (раён Латвіі) складае толькі 16% ад сярэдняга ўзроўню ў дзяржавах ЕС. У Латвіі ў цэлым вытворчасць УВП на душу насельніцтва ў чатыры разы ніжэй, чым у краінах ЕС. Для параўнання: у Літве гэты паказчык складае 29%, у Эстоніі — 34%.

## *Што было*

У 1940 годзе Латвія была далучана да Савецкага Саюза. Мы не будзем разбіраць, што гэта было, бо разгляд гэтага пытання ўяўляе асобную работу. Пакуль жа толькі заўважым, што прэзідэнт Латвіі Карліс Ульманіс заклікаў грамадзян сваёй краіны: "Заставайцеся ўсе на месцах, я застаюся на сваім!"

Ужо ў 1940 годзе пачалася рэканструкцыя вагонабудаўнічага завода "Вайрагс", завода ВЭФ, Ліепайскага металургічнага завода і шэрагу іншых. Але з пачаткам вайны гэты працэс прыпыніўся. Пасля заканчэння вайны, з 1945 года, адначасова з аднаўленнем разбуранай гаспадаркі пачаліся рэканструкцыя прамысловасці і будаўніцтва новых прадпрыемстваў.

Укладзеныя ў развіццё прамысловасці інвестыцыі забяспечылі сярэднегадавы прырост прамысловай вытворчасці ў Латвіі ў 1945 — 1950 гадах на ўзроўні 45% у год.

На працягу 20 гадоў у Латвіі былі пабудаваны буйныя заводы — "Аўтаэлектрапрыбор", "Гідраметпрыбор", Рыжскі электралямпавы завод, завод мікрааўтобусаў РАФ, Валмірскі завод шкловалакна, Рэзекненскі і Даўгаўпілскі заводы электраінструментаў, Рэзекненскі завод даільных установак, Аб'яднанне электроннай тэхнікі "Альфа", Даўгаўпілскія заводы хімвалакна, аўтамабільных прываднях ланцугоў, кабельны, Алабінскі хімкамбінат, Огрскі трыкатажны завод і іншыя. Для забеспячэння такога гіганцкага для Латвіі росту прамысловасці пабудаваны Рыжская і Плявіньская гідраэлектрастанцыі, дзве ТЭЦ у Рызе, пашырана Кегумская ГЭС. У 60-я гады былі пабудаваны нафтапровад Полацк — Вентспілс і Вентспілская нафтабаза (цяпер — "Вентспілс нафта").

## *Што сёння?*

На працягу апошніх 10-ці гадоў Латвійская Рэспубліка апынулася адкінутай далёка назад асобамі безадказнымі, хціўымі, прафесійна малапісьменнымі, якія дбаюць толькі пра ўласны дабрабыт. У выніку гэтак званых "паспяховых рэформаў" (тэрмін беларускай "Свабоды"), а на самай справе татальнага разбурэння народнай гаспадаркі Латвіі (і не толькі сельскагаспадарчай вытворчасці, пра што я аргументавана і доказна распавёў у адкрытых пісьмах беларускай рэдакцыі радыё "Свабода"), ад ранейшага ўзроўню (1990 год) засталося наступнае:

— прадукцыя прамысловасці — 38,8%;
— прадукцыя сельскай гаспадаркі — 34,8%;
— транспарт, перавозка грузаў — 20,9%:
— перавозка пасажыраў — 32%;
— будаўніцтва — 17,7%;
— аб'ём УВП — 62%.

Латвійскі часопіс "для ўпэўненых мужчын" Klubs, як ён сам сябе называе, апублікаваў хіт-парад латвійскіх мільянераў. У яго трапілі 250 чалавек. У якасці дадатку да асноўнага топу-250 прапануюцца імёны тых, хто выбыў з "чарту", а таксама імёны "сумленных мільянераў". У спіс не ўключаныя 7 мільянераў, якія пераканалі Klubs пакуль не называць іх імёнаў. Часопіс адзначае, што ў некаторых мільянераў... і паспяховая "прыхватызацыя, і паўкрымінальныя здзелкі", з чым нельга не пагадзіцца. Зразумела, выпускнікі пачатковай або дапаможнай школы не могуць за некалькі гадоў павысіць кваліфікацыю да выпускнікоў універсітэтаў. Дакладна гэтак жа сотні людзей, якія валодаюць маёмасцю ў некалькі дзесяткаў тысяч долараў, у маленькай Латвійскай Рэспубліцы сумленна за некалькі гадоў не могуць зрабіцца мільянерамі. Буйнейшы раней гаспадарчы кіраўнік А.С. Умбрас вядзе вывучэнне і статыстыку рабавання нацыянальнага багацця Латвіі. Паводле яго разлікаў, за 10 гадоў у Латвіі было скрадзена "30 мільярдаў, і не долараў, а латаў" (1 лат = 0,62 долара). А штуршком да незалежнага расследавання паслужыў зварот латышскага грамадства да тагачаснага прэзідэнта Гунціса Улманіса: "Сапраўдная прычына жабрацтва — раскрадванне дзяржавы па ўсіх накірунках і на ўсіх узроўнях: рэкет, ценявая эканоміка". Такім чынам, ужо сем гадоў таму назад было відаць, што ў краіне адбываецца нешта нядобрае.

Без уліку вартасці лясоў і нетраў Латвіі на канец 1990 года яе нацыянальнае багацце ацэньвалася ў 48 мільярдаў рублёў. Сюды ўваходзілі асноўныя вытворчыя фонды чатырохсот заводаў і фабрык. А ў цэлым за продаж асноўных вытворчых фондаў вартасцю 20,2 мільярда рублёў атрымалі 167 мільёнаў латаў — столькі здала ў дзяржаўную казну Агенцтва прыватызацыі. У працэсе продажу ўсе гэтыя матэрыяльныя каштоўнасці былі ўцэнены ў 145 разоў! Адбылося пераразмеркаванне матэрыяльных каштоўнасцей і засяроджванне нацыянальных багаццяў у руках некалькіх соцень чалавек.

Асобны раздзел раскрадання і карупцыі — распродаж дзяржаўных рэзерваў. Дзяржаўныя рэзервы — гэта абавязковая ўмова для нармальнага жыцця дзяржавы. Матэрыяльных абаротных сродкаў у 1989 годзе ў Латвіі было на 7,6 мільярда рублёў. За кароткі тэрмін усе запасы матэрыялаў былі распрададзены на свабодным рынку.

Цяпер у Латвіі няма нават кавалка медзі на тое, каб зрабіць кватэрныя лічыльнікі, — іх Латвія закупляе ў Літве. Няма ніводнага станка і кілаграма латуні дзеля таго, каб рабіць гузікі для салдацкага абмундзіравання. Гузікі таксама закупляюць за мяжой. А распрадавалі дзяржаўныя рэзервы па такіх цэнах: медзь, латунь, каляровыя металы — 350 — 500 рублёў за тону. На біржах Лондана, Гамбурга за тую ж тону каляровага металу плацілі паўтары-дзве тысячы долараў. Чорны метал (арматура, ліставая сталь) аддавалі фірмачам па 160 — 180 рублёў за тону, а на японскай біржы ён ішоў па 480 долараў за тону. І, зразумела, на такой розніцы цэн "наварваліся" грошы, якія аселі ў кішэнях наваспечаных мільянераў.

Беларусь не пайшла па такім шляху "прыхватызацыі", не дапусціла рабавання краіны. Таму рэспубліка мае ўстойлівы эканамічны базіс і можа сабе дазволіць быць сапраўды незалежнай дзяржавай.

## *Як пражыць пенсіянеру?*

У мінулым годзе колькасць тых, хто атрымлівае пенсію, у Латвіі зменшылася на 10,6 тысячы чалавек. Адна з прычын — павышэнне пенсійнага ўзросту. Пры гэтым багацейшымі пенсіянеры не робяцца.

Большасць з іх атрымліваюць пенсіі ад 50 да 60 латаў, 17,1% — менш за 50 латаў і толькі 4% — звыш за 100 латаў. Прычым “новыя” пенсіянеры бяднейшыя за “старых”. У 2001 годзе на заслужаны адпачынак накіраваліся 11,5 тысячы чалавек. У сярэднім ім выплачваюць усяго па 50,83 лата.

Вось і атрымліваецца: нягледзячы на дэклараваны рост у краіне, нягледзячы на індэксацыю, “сярэдняя” пенсія не паспявае за ростам цэн.

Усяго ў краіне налічваецца 630,4 тысячы пенсіянераў, яны складаюць 26,5% насельніцтва краіны.

Адзінокаму пенсіянеру, які жыве ў Рызе ў кватэры плошчай 30 кв. метраў, за жыллё, камунальныя паслугі, тэлефон і электраэнергію давялося заплаціць у студзені 2001 года 53,8 лата. І заставалася ад сярэдняй пенсіі 4,5 лата на жыццё. А гэтых грошай недастаткова нават для пакупкі універсальнага праязнога білета ў грамадскім транспарце. Таму пенсіянеры ў Латвіі — найбольш абдзеленая катэгорыя насельніцтва; многія з іх не ў стане аплаціць ацяпленне, грамадскі транспарт, харчаванне.

Высяленні з кватэр за няўплату камунальных паслуг набываюць усё больш шырокі размах. У снежні 1998 года скончыўся сямігадовы тэрмін, вызначаны законам 1992 года “Аб дэнацыяналізацыі”. Гаспадары дэнацыяналізаваных дамоў ператварыліся ў паўнапраўных гаспадароў. У Рызе пад пагрозай высялення знаходзяцца 155 тысяч чалавек. Больш за тысячу сем’яў ужо выселены. Каля 7 тысяч спраў у судах чакаюць свайго разгляду.

Такой дзікасці, як у Латвіі, калі ў Рызе зімою ў 10 — 20 градусны мароз адключалася ацяпленне жылых будынкаў і ўстаноў, у Беларусі не ведаюць.

Ва ўсходніх раёнах Латвіі, дзе беспрацоўе складае 20 — 25%, для многіх сем’яў пенсія зрабілася адзінай рэгулярнай крыніцай існавання. Гарады і населеныя пункты Латвіі напоўнены жабракамі, якія збіраюць міласціну. Пенсіянеры ўсё далей і далей апускаюцца ў жабрацтве, жывуць галаднавата і раней часу паміраюць. Бо платная медыцына пазбаўляе асноўную масу пажылых людзей магчымасці атрымліваць медыцынскую дапамогу і лячыцца.

## *Беспрацоўе*

Здабытая незалежнасць ператварылася для насельніцтва “свабоднай” Латвіі ў кашмар беспрацоўя, гэта значыць, прымусовае вызваленне ад магчымасці працаваць. Сістэмы сацыяльнай абароны, адпаведнай узроўню заходнееўрапейскіх краін, у Латвіі няма. Ужо да канца 1992 года было зарэгістравана 31,3 тысячы беспрацоўных. Праз год колькасць беспрацоўных павялічылася ў два разы і дасягнула 5,8% ад усяго эканамічна актыўнага насельніцтва. Гэтая тэндэнцыя захоўвалася, і ў сярэдзіне 1999 года афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў Латвіі склаў 10,2%. Вельмі высокі ўзровень беспрацоўя сярод моладзі. Усяго толькі каля 52% маладых людзей ва ўзросце ад 16 да 25 гадоў здолелі працаўладкавацца. Жанчыны складаюць 57% латвійскіх беспрацоўных. Паводле даных Дзяржаўнага фонду сацыяльнага страхавання, у студзені 2000 года права атрымліваць дапамогу мелі толькі 40% ад агульнай колькасці беспрацоўных.

На пачатак 2000 года ў Латвіі было афіцыйна зарэгістравана 109,5 тысяч беспрацоўных або 9,1% эканамічна актыўнага насельніцтва. Вельмі цяжкае становішча ў Латгаліі, дзе ўзровень беспрацоўя перавышае 20%. У Балвскім раёне 22,9% беспрацоўных; у Даўгаўпілскім — 20,1%; у Краслаўскім — 21,9%. Самы высокі ўзровень беспрацоўя ў Рэзекненскім раёне — 27,2%; а самы нізкі ў Рызе — 4,7%. Але гэта прыведзены афіцыйныя статыстычныя даныя.

У нацыянальным разрэзе латвійскае беспрацоўе выглядае так: латышы тут складаюць 49% (пры долі ў насельніцтве Латвіі — 55,8%), рускія — 36,7% (пры долі ў насельніцтве — 32,3%), беларусы — 5% (пры долі ў насельніцтве — 4%), палякі — 3% (пры долі ў насельніцтве Латвіі — 2,2%) і гэтак далей. Такім чынам, нават афіцыйная статыстыка фіксуе пэўную няроўнасць сярод беспрацоўных па нацыянальнай прымеце.

Узровень беспрацоўя ў Латвіі высокі. Па афіцыйных звестках, узровень беспрацоўя ў пачатку красавіка ў цэлым па краіне — 8,2%; у Рызе — 4,2%; у Балвскім раёне — 21,6%; у Рэзекненскім раёне — 27,6%. На самай жа справе ў краіне тых, хто шукае працу, намнога больш — 12,8%. У той жа час у Беларусі ўзровень беспрацоўя на 1 чэрвеня 2002 года складаў 2,6% ад эканамічнага актыўнага насельніцтва. Самы высокі ўзровень беспрацоўя ў Віцебскай вобласці — 3,5%, самы нізкі адзначаны ў Мінску — 1,5%.

## *Ахова здароўя*

Сумная карціна і ў ахове здароўя. З-за адсутнасці грошай або страхавых полісаў (за якія няма чым заплаціць) вялікая частка жыхароў Латвіі вымушана адмовіцца ад неабходнай ім медыцынскай дапамогі. У адпаведнасці з апублікаванымі вынікамі даследавання жыцця насельнікаў Латвіі, праведзенага ЦСУ Латвійскай Рэспублікі і нарвежскім інстытутам дзелавых і сацыяльных даследаванняў “Fafo”, кожны пяты жыхар краіны ацэньвае сваё здароўе як дрэннае ці вельмі дрэннае, ад лячэння зубоў вымушаны адмовіцца 40%, ад наведвання патрэбнага спецыяліста — 23%. Гэтыя адказы аднолькавыя ў вяскоўцаў і ў жыхароў гарадоў.

Узрастае захворваемасць на сіфіліс і туберкулёз. За апошнія сем гадоў захворваемасць на сухоты сярод дзяцей вырасла ў 4 разы. У мінулым годзе трэцяя частка хворых на сухоты памерла ў першы год пасля ўстанаўлення дыягназу — дыягназ быў устаноўлены занадта позна. Захворваемасць на сухоты ў Латвіі ставіць яе ў адзін шэраг з такімі краінамі, як Уганда.

Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, захворваемасць да дыфтэрыю ў Латвіі ў мінулым годзе была самай высокай у Еўропе і па ўсёй постсавецкай прасторы, апярэдзіўшы Таджыкістан і Кіргізію, якія лідзіравалі да гэтага.

Але ж у цывілізаванай дзяржаве мець праблемы з дыфтэрыяй лічыцца непрыстойным гэтак жа, як і з педыкулёзам, дызентэрыяй і часоткай, выпадкаў захворвання на якія ў Латвіі таксама болей чым дастаткова. Непрыстойна па дзвюх прычынах. Па-першае, мясцовая медыцынская служба проста абавязана змагчы хутка і эфектыўна з імі справіцца, лакалізаваўшы хворых і разносчыкаў хваробы і забяспечыўшы абарону астатнім. Па-другое, галоўным метадам папярэджвання эпідэміі з’яўляецца клопат насельніцтва пра ўласнае здароўе, уключаючы такую элементарную рэч, як вакцынацыя.

Беднасць бацькоў непасрэдна ўплывае на здароўе дзяцей. Менш за 40% з іх нараджаюцца здаровымі.

Па ўзроўні смяротнасці Латвія цяпер займае адно з першых месцаў у Еўропе. Па самагубству — таксама. Узровень захворвання на хваробы, якія ўзнікаюць у выніку псіхічных перагрузак, у Латвіі — адзін з самых высокіх у свеце. Колькасць нервовых зрываў падвоілася. Узровень самагубстваў у Рызе амаль у тры разы вышэй, чым у ЗША, і значна перавышае аналагічны паказчык сталіц суседніх краін.

19 тысяч чалавек паміраюць у Латвіі штогод ад сардэчных захворванняў.

1 987 чалавек у Латвіі заражаны ВІЧ-інфекцыяй. Толькі за 4 месяцы гэтага года заразіліся яшчэ 222. Галоўная прычына распаўсюджвання страшнай інфекцыі — наркаманія: звыш 1 500 чалавек інфіцыравалася, уводзячы сабе наркотыкі.

Латвійская ахова здароўя памірае проста на вачах жыхароў Латвіі. Пры поўным патуранні рэфарматараў ад медыцыны. Выснова відавочная: вінаватая сама сістэма. “Пры такой арганізацыі ахова здароўя будзе ў крызісе”, — заявіла ў інтэрв’ю для друку старшыня камісіі Сейма Латвіі па сацыяльных справах Айя Барла.

Паводле звестак Сусветнай арганізацыі аховы здароўя адносна стану аховы здароўя ў розных краінах свету, у 2000 годзе Латвія займала 105-е месца з 192 дзяржаў. Заўважым, што 15 гадоў таму назад па гэтаму ж паказчыку Латвія займала 24-е месца ў свеце.

## *Прастытуцыя*

Нізкае матэрыяльнае становішча вядзе да распаду сем’яў, безбацькоўства і прастытуцыі. Рыга ператвараецца ў галоўны горад бардэляў Прыбалтыкі, якія прыкрываюцца шыльдай інтым-клубаў. І

не выпадкова ў 2000 годзе 35% дзяцей нарадзіліся ў маці-адзіночак. Як паказала даследаванне "Дзеці і сем'і ў Латвіі", праведзенае Латвійскім нацыянальным камітэтам ЮНІСЕФ, камерцыйна-сексуальнае выкарыстанне дзяцей у краіне зрабілася звычайнай з'явай, калі малалетнія дзяўчынкі складаюць 20% усіх прастытутак. Латвія распачала пастаўку малалетніх путан за мяжу.

Большасць беспрацоўных — жанчыны. Дзяржава штурхае жанчын на панэль. А што ім рабіць, калі перад імі маячыць галодная смерць? Нельга без дрыжыкаў чытаць споведзі "жрыц кахання панявролі", якія часамі з'яўляюцца ў друку. Штотыднёвік "Земе" апублікаваў некаторыя з пісьмаў жанчын, вымушаных займацца гэтым старажытным рамяством. Святлана: "Мала таго, што дзяржава не можа забяспечыць нас працай і ўскосна прымушае ісці на панэль, яна не супраць за наш кошт папоўніць казну". Гаворка ідзе аб тым, што міністэрства дабрабыту Латвіі распрацавала гэтак званую карту здароўя для асоб, што займаюцца прастытуцыяй, якія і атрымліваюць адпаведны дакумент жоўтага колеру. Але асобы, якія атрымліваюць такі дакумент, павінны дзейнічаць як усе ўладальнікі прыватных фірмаў і індывідуалы: складаць справаздачы і плаціць падаткі. І Латвійская Рэспубліка мяркуе папаўняць свой мізэрны бюджэт прастытуцыяй. Жанна, 19 гадоў: "Займаюся гэтай справай з 16 гадоў. Спачатку за смачны абед. Цяпер "працую" ў адной "фірме". З кожнага кліента атрымліваю 15 латаў, але мне застаецца 6 — 7. Гэта не так дрэнна, і я магу жыць нармальна". Ганна, 27 гадоў: "Калі б у мяне былі праца і прыстойны заробак, то наўрад ці я вяла б такі спосаб жыцця. Ёсць у мяне прафесія і адукацыя, а каму яны цяпер патрэбныя?"

Даныя Жэнеўскага фонду Швецыі сведчаць, што большасць жанчын, якія зрабіліся ахвярамі гандлю людзьмі, трапляюць у Швецыю і ў Данію з краін Балтыі. Вярбоўшчыкі дзяўчат выкарыстоўваюць і звычайныя клубы знаёмстваў. Частка жанчын ведаюць або здагадваюцца, што праца за мяжой будзе звязана з аказаннем сексуальных паслуг. Тых, хто пагадзіўся на такія ўмовы, прадаюць як нявольніц. Кошт жанчын — ад 5 да 20 тысяч долараў ЗША. Эксперты мяркуюць, што на змену папулярным жанчынам з



Украіны прыходзяць жанчыны з краін Балтыі — Латвіі, Літвы і Эстоніі. У 2000 годзе з-за мяжы, у асноўным з Германіі, у Латвію дэпартавана 273 жанчыны.

## *Весткі з Садома*

Дэградацыя грамадства і беднасць значнай большасці жыхароў Латвіі садзейнічаюць уцягванню дзяцей у прастытуцыю і крымінальныя злачынствы.

У Рызе не было сакрэтам легальнае існаванне квітнеючай фірмы "Логас", якая займалася знешне добрапрыстойнай дзейнасцю — відэаздымкамі і паліграфіяй, а таксама разбэшчваннем малалетніх, стварэннем порнафільмаў, "артыстамі" ў якіх выступалі непаўналетнія. "Маючы прыкрыццё ў "тых, хто мае ўладу", "Логас" шырока рэкламаваў: "Патрабуюцца мадэлі ад 14 гадоў. Аплата — 100 долараў у гадзіну". Натуральна, што ў Латвіі, дзе большасць людзей жывуць у бядноце, недахопу ў непаўналетніх "артыстах і артыстках" не было. Непаўналетнімі "артыстамі" займаўся асабіста прэзідэнт "Логаса" Юрый Юр'еў. Саракатрохгадовы гаспадар фірмы, па прафесіі ўрач-гінеколаг, сваіх ахвяр часта сустракаў у генеральскім мундзіры з ўзнагароднымі атрыбутамі. Юр'еў — вядомы ў Латвіі педафіл са стажам. Першы раз яго павязалі яшчэ ў 1983 годзе. Справа нават дайшла да суда, хаця рыжская пракуратура спрабавала забраць рэчавыя доказы. Юр'еў тады абышоўся лёгкім спалохам: атрымаў два гады ўмоўна. І не выпадкова — вядомыя асобы карысталіся паслугамі педафіла Юр'ева. А праз год "справа Юр'ева" знікла з картатэкі інфармацыйнага цэнтра МУС Латвіі.

Малалетніх "артыстаў", якія прыходзілі ў "Логас", Юр'еў аддаваў на апрацоўку свайго акружэння, што складалася з гомасексуалістаў. Упадабаных юнакоў Юр'еў запрашаў да сябе дахаты, дзе спойваў і разбэшчваў. Прадаючы порнафільм па 5 — 8 тысяч долараў, юнакам плацілі па 50 — 60 зялёных.

Вынікі парламенцкага расследавання "справы аб педафіліі" паставілі пад удар фактычна ўсю сістэму дзяржаўнай улады ў Латвійскай Рэспубліцы. Згодна з ацэнкай Я. Адамсонса, парламенцкае

расследаванне выявіла, што "блакітныя" займаюць ключавыя пасады ў Латвіі. На падставе паказанняў сведак і іншых сабраных доказаў да справы аб педафіліі маюць дачыненне прэм'ер-міністр Латвійскай Рэспублікі Андрыс Шкеле, міністр юстыцыі Валдзіс Біркаўс, дырэктар дзяржаўнай службы даходаў Андрэйс Сончыкс, гендырэктар пошты Латвіі Айвар Дройскіс, дырэктар рыжскай класічнай гімназіі Раман Аліеў і дырэктар адміністратыўнага дэпартамента Генеральнай пракуратуры Латвіі Юрыс Заміціс. Гэта — вяршыня айсберга латвійскай супольнасці педафілаў! Бо да порнабізнэсу маюць дачыненне таксама члены паліцыі і арміі.

У выніку прэм'ер-міністр Латвійскай Рэспублікі Андрыс Шкеле ўсё ж страціў сваю пасаду.

## *Дэградацыя адукацыі і навукі*

У Латвійскім Міністэрстве адукацыі і навукі з'явіліся новыя аддзелы і дэпартаменты, павялічылася колькасць чыноўнікаў. У той жа час тысячы дзяцей і падлеткаў пазбаўлены магчымасці атрымаць школьную, прафесійную і вышэйшую адукацыю.

Згодна з перапісам, больш за 40% не маюць нават сярэдняй адукацыі, а 5 тысяч жыхароў старэй за 6 гадоў не ўмеюць чытаць і пісаць. Больш за ўсё непісьменных у Даўгаўпілскім, Краслаўскім і Талсінскім раёнах — 0,7%. У сувязі са зніжэннем інтэлектуальнага патэнцыялу краіны кіраўнікі Латвійскай Акадэміі навук Я. Страдзіньш і А. Сіліньш накіравалі адкрытае пісьмо прэзідэнту і прэм'ер-міністру Латвіі. Акадэмікі заявілі, што ў "асабліва крытычным стане" знаходзяцца навука і вышэйшая адукацыя". Так, у Латвіі ў 2000 годзе ў разліку на аднаго жыхара краіны на навуку было выдаткавана 2,6 лата (1 USД = 0,62 Ls). У той жа час у дзяржавах Еўрасаюза (ЕС) гэты паказчык у сярэднім складае 100 латаў.

Падае якасць школьнай адукацыі. За 2000 год пакінулі школу 663 дыпламаваных настаўніка. На пытанне: чаму? Адказ адназначны: вельмі нізкая зарплата. У той жа час грошы ў краіне знаходзяцца на зарплаты ў 1000 — 1500 лат высокапастаўленым чыноўнікам, на павелічэнне, амаль на 100% за апошнія тры гады, фінансавання арміі,



на дарагія аўтамабілі і г.д. Але па-ранейшаму няма грошай для інвалідаў і старых, настаўнікаў і дзяцей.

Пастаянны прадстаўнік праграмы развіцця ААН у Латвіі Ян Сорэнсен, пазнаёміўшыся са станам адукацыі ў Латвіі, параіў ураду знайсці сродкі для інвестыцый у адукацыю.

З прыняццем у 1998 годзе Закона аб адукацыі палітычныя мары тых, хто мае ўладу, аб асіміляцыі нацменшасцей пачалі ператварацца ў практыку. Прычым практыку абуральную. Катастрафічна пагаршаецца становішча рускіх школ і змяншаецца іх колькасць. Вышэйшая адукацыя на рускай мове практычна ліквідавана. З 1 верасня 2004 года плануецца прымусовы перавод сярэдніх школ на латышскую мову. І гэта пры тым, што цяпер у Рызе на рускай мове вучацца 55% школьнікаў, а ў другім па колькасці насельніцтва горадзе Латвіі Даўгаўпілсе — 85%. Права тытульнай нацыі на адукацыю абаронена законам. Супраць гэтага пярэчыць ніхто не збіраецца, але ўзнікае пытанне: а што будзе з правам на адукацыю нацыянальных меншасцей? Пры гэтым каля 8 тысяч настаўнікаў страціць працу. А колькі страцяць у развіцці дзеці, колькі з-за гэтага з'явіцца люмпенаў, наколькі павысіцца злачыннасць сярод дзяцей і падлеткаў — падлічыць немагчыма.

У Латвіі няма ўсёахопнай дзяржаўнай сістэмы па навучанню ўсіх жыхароў латышскай мове. Дэпутат Сейма Латвійскай Рэспублікі, доктар педагагічных навук Якаў Плінэр зазначае: "У дрэнныя савецкія часы латышам не ўчынялі экзамена на веданне рускай мовы. Тады проста латышоў добра вучылі рускай мове... Я лічу, што нацыянальна настроенай большасці не трэба, каб мы ведалі латышскую мову".

Якая ж рэакцыя? Якаў Плінэр атрымлівае паштоўкі з такім тэкстам на дзяржаўнай мове: "Вон з Латвіі". А дэпутат, старшыня камісіі Сейма Латвійскай Рэспублікі па правах чалавека А. Сейкстс "супакоіў", заявіўшы: "Наогул рускамоўныя мусяць ціха радавацца, што іх не забіваюць".

Распушчаная чарнасоценна-расісцкая прапаганда вядзецца ў нацыянальных сродках масавай інфармацыі Латвіі. Дайшло да арганізацыі русафобскіх конкурсаў сярод школьнікаў і студэнтаў аб "дэкаланізацыі" Латвіі. Апошнім ініцыятарам "літаратурнага" конкурсу русафобскіх сачыненняў і сачыненняў фашысцкага тыпу

сярод латышскай моладзі стаўся прадпрымальнік, дырэктар выдавецтва Vieda Айварс Гарда, які з дапамогай узнагароды заахвочвае латышскую моладзь пісаць сачыненні, якія распальваюць міжнацыянальную варожасць. Тэмы сачыненняў, прапанаваныя Айварсам Гардай, цалкам адпавядаюць духу Трэцяга Рэйха. Мяркуйце самі: “Рэалізацыя Боскай справядлівасці, або Вызваленне Латвіі ад 700 тысяч каланістаў, — задача нумар 1”, “Нацыянальныя партызаны і легіянеры — прыклад гераізму для сучаснай латышскай моладзі” і да т.п. Цяпер такія сачыненні выдадзены асобнай кнігай.

Як вядома, падрыхтоўка спецыялістаў абумоўлена патрэбамі народнай гаспадаркі дзяржавы. У недалёкім мінулым Латвія была цэнтрам сучаснай прамысловасці і навукаёмкіх вытворчасцей перадавога сусветнага ўзроўню. У тым ліку — цэнтрам радыёэлектроннай прамысловасці. Цяпер фактычна канулі ў нябыт такія вядомыя прадпрыемствы, як “ВЭФ”, “Альфа”, “Камутатар” і “Радыётэхніка”.

З 1995 года зніжаецца бюджэтная фінансаванне навукі. І калі ў 1997 годзе выдаткі на навуку складалі 0,25% ад унутранага валавога прадукту краіны, дык на 2000 год — выдзелена 0,22% УВП. У той жа час у перадавых еўрапейскіх краінах і ў ЗША ў 2001 годзе фінансаванне навукі складае 2 — 2,5% УВП, тады як у Афрыцы — каля 0,2% УВП. І Латвійская Рэспубліка паспяхова дасягнула афрыканскага ўзроўню.

## *Моўны ГУЛаг? Так!*

Закон аб дзяржаўнай мове, прыняты Сеймам Латвіі, зведаў знішчальную крытыку сусветнага друку і міжнародных арганізацый. Латвія выціскае рускую мову. “Латвійскі парламент прыняў закон, які дыскрымінуе рускамоўных”, — піша галандская газета Metro. Шведскае выданне Dadens Industri лічыць, што супярэчлівы закон занепакоіць як замежных прадпрымальнікаў, што працуюць у Латвіі, так і Еўрапейскую камісію, рэкамендацыі якой не былі ўлічаны. Па сутнасці, Сейм Латвіі прыняў сацыяльна небяспечны для дзяржавы і грамадства закон. Латвія фактычна ператварылася ў дзвюхабшчынную дзяржаву, дзе спрабуюць навязаць такія дыскрымінацыйныя драконаўскія законы ў дачыненні да рускамоўнага насельніцтва і ўсіх нацыянальных меншасцей, 30 красавіка 2002 года Сейм унёс у Канстытуцыю папраўкі, якія забараняюць выкарыстанне рускай мовы не толькі ў парламенце, але і ў органах мясцовага самакіравання. З гэтага часу рускамоўным грамадзянам пры звароце ў дзяржінстытуты і муніцыпалітэты не гарантаваны адказ па сутнасці на рускай мове. Савет па радыё і ТБ пазбавіў на вяшчанне і рускае радыё Латвіі. Адбываецца шырокамасіраваная дыскрымінацыя рускамоўных жыхароў.

Афіцыйныя асобы АБСЕ выказваліся наконт ужывання моў у Латвіі. Нагадаем, што дырэктар бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытуцыях і правах чалавека Ж. Студман задаўся пытаннем: чаму б не зацвердзіць дэ юрэ выкарыстанне рускай мовы ў Латвіі?

Вярхоўны камісар АБСЕ Р. Эксус заўважыў, што “правілы выкарыстання мовы не павінны супярэчыць асноўным правам чалавека, у тым ліку правам нацменшасцей”. Больш за тое, Р. Эксус адзначыў: “Я хачу падкрэсліць, што ўстанаўленне дзяржаўнай мовы і спрыянне яе выкарыстанню... не павінна адбывацца за кошт іншых моў...”

У Фінляндыі, Швейцарыі і ў іншых краінах Еўропы — дзяржаўнае шматмоўе. На агульнанацыянальным рэферэндуме грамадзяне Беларусі прагаласавалі за двухмоўе — беларускую і рускую дзяржаўныя мовы. Слушны і мудры выбар! Сёння Рэспубліка Беларусь — аднаабшчынная дзяржава, міжнацыянальных праблем не мае, нікога з-за нацыянальнасці ў друку і ў побыце не абражаюць, помнікаў не ўзрываюць.

Статус латышскай мовы як дзяржаўнай ніхто не збіраецца аспрэчваць. Але ў месцах кампактнага пражывання нацменшасцей рускую мову належыць выкарыстоўваць пры зносінах насельніцтва з органамі мясцовай улады. На прыканцы мінулага года адміністрацыя мэра Нью-Йорка Дыдліяні абвясціла рускую мову афіцыйнай мовай горада. Цяпер усе дзяржаўныя, службовыя або любыя іншыя паперы могуць быць пададзенымі на рускай мове. У Нью-Йорку жыве менш

як 5% рускамоўных жыхароў, і тым не менш мэр Нью-Йорка абвясціў рускую мову афіцыйнай мовай горада. У Рызе жыве больш чым 50% рускамоўных жыхароў, але руская мова не з'яўляецца афіцыйнай мовай Рыгі.

## *Эліта па-зладзейску захоплівае дзяржаўныя кватэры*

У адпаведнасці з заканадаўствам Літоўскай Рэспублікі, вызваленыя кватэры павінны пераходзіць у распараджэнне муніцыпальных органаў улады, якія і размяркоўваюць гэтае жыллё. Так павінна быць па закону. Але, калі б законы выконваліся, многія з тых, хто мае ўладу, не здолелі б заняць кватэры, якія іх цікавілі. Таму створаная структура — Агенцтва па нерухомай маёмасці дзяржавы (АНМД) — употай ад грамадскасці, па-зладзейску раздавала кватэры "патрэбным людзям". За два гады кватэры выдзелены 183 асобам. Шматпакаёвыя элітныя апартаменты раздаваліся "патрэбным людзям" у Рызе, Ліепаі, Юрмале і іншых гарадах. Такім падпольным, схаваным ад грамадскасці, спосабам кватэры атрымалі дэпутаты сейма Латвійскай Рэспублікі Яніс Страўмэ, Вентс Баладзіс, вядомы адвакат Айнарс Платаціс, намеснік генеральнага дырэктара па нерухомай маёмасці дзяржавы Яніс Залпетэрыс, жонка дэпутата сейма Латвійскай Рэспублікі Г. Берзіньша — Інта Берзіня, жонка былога кіраўніка бюро прэм'ер-міністра — Майрыта Шкендэрэ, падстаўная асоба Агрыс Огрупс і іншыя "патрэбныя людзі".

Скандал, які разгарэўся вакол таемна-падпольнага размеркавання кватэр, уражвае маштабнасцю і бессаромнасцю. 183 "патрэбныя асобы" былі ашчасліўлены.

Журналісцкае расследаванне выявіла жахлівую беззаконнасць у размеркаванні дзяржаўнага жылля. Але да гэтай пары ніводзін з "патрэбных людзей" не вызваліў незаконна атрыманую кватэру. Ёсць падставы меркаваць, што АНМД, раздаючы дзяржаўныя кватэры "патрэбным людзям", карумпіраваным шляхам атрымала магутнае прыкрыццё ў палітычных колах і ў дзяржаўных установах.



## *Эсэсаўцы маршыруюць па Рызе*

У Латвійскай Рэспубліцы рэгулярна праводзяцца дэманстрацыі эсэсаўцаў і фашыстаў (члены латышскіх легіёнаў Waffen SS, паліцэйскіх злучэнняў, якія ваявалі з партызанамі, расстрэльных рот, ахоўнікі канцэнтрацыйных лагераў і гэткая ж публіка). І ў першых шэрагах такіх дэманстрацый можна бачыць членаў парламента Латвіі — сейма, іншых прадстаўнікоў улады.

Прычым нацыянальны латышскі друк выступае з хвалебнымі одамі ўдзельнікам падобных дэманстрацый.

У маі гэтага года сейм Латвійскай Рэспублікі зацвердзіў чарговае свята рэваншыстаў і эсэсаўцаў, абвясціўшы, што 17 чэрвеня будзе днём акупацыі рэспублікі, і ў гэты дзень трэба вывешваць сцягі з жалобнымі стужкамі. Пры гэтым у нацыяналістычным друку падкрэсліваецца, што ў Латвіі была толькі савецкая акупацыя, а "непрацяглы перыяд" краіна "знаходзілася пад аховай нямецкага войска і сваіх легіянераў". Узгадваюць і ўслаўляюць імёны забойцаў і катаў, якія пакінулі жудасны след у гісторыі краіны.

Так узгадалі гадавіну ката Герберта Цукурса, што кіраваў зондэркамандай, якая знішчыла больш за 20 тысяч яўрэяў у 1941 — 1944 гг. Г. Цукурс быў пакараны ва Уругваі ізраільцянямі, таму што аказалася немагчыма вывезці яго ў Ізраіль. І вось цяпер ката Г. Цукурса характарызуюць як "выдатнага латвійскага лётчыка і журналіста, які ў час другой сусветнай вайны змагаўся супраць ворагаў Латвіі".

## *Прыгадаем трагічнае мінулае*

29 верасня 1999 года ў рыжскай газеце "Дзіена" аўтар пісаў: "Па сутнасці, Латвійская Рэспубліка ў наш час уяўляе крымінальную нацыяналістычную дзяржаву апартэіду. Інфармацыйная навукова-тэхнічная рэвалюцыя і геапалітычная сітуацыя робяць немагчымым паўтарэнне ў Латвіі падзей 1941 — 1944 гг., але з песні слова не выкінеш".

Неабходна ўзгадаць трагічныя падзеі мінулага.

У ліпені 1941 года, яшчэ да ўваходжання ў Латвію германскіх войскаў, "сацыяльна арыентаваныя латышы" знішчылі дзесяткі тысяч яўрэяў — грамадзян Латвійскай Рэспублікі. Я не атаясамліваю ўвесь латышскі народ з катамі-латышамі. Але праўда ў тым, што рукамі латышоў-катаў або пры іх актыўным удзеле былі забіты амаль усе 80 тысяч яўрэяў — грамадзян Латвійскай Рэспублікі, якія не пакінулі Латвію ў чэрвені 1941 года. І да моманту вызвалення Латвіі савецкімі войскамі ў 1944 годзе з гэтых 80 тысяч чалавек жывымі засталося толькі каля 500.

Ні ў адной краіне свету ў час другой сусветнай вайны не з'явіліся банды забойцаў, падобныя на шматлікія банды ў Латвіі. Характэрны прыклад: Sonderkommando Arajs на чале з выпускніком юрыдычнага факультэта Латвійскага універсітэта Віктарам Арайсам, якая сабрала тысячы латышоў, у тым ліку і інтэлігенцыю. Гэтая каманда забойцаў утварылася 1 ліпеня 1941 года, у дзень акупацыі Рыгі. Яе першай значнай справай быў падпал сінагогі на вуліцы Гогаля ўжо 4 ліпеня. У палаючым будынку загінула каля 400 чалавек, нікому не ўдалося выратавацца.

Ужо ў пачатку жніўня 1941 года брыгада выйшла за межы Латвіі. Узводы стралкоў у сініх аўтобусах накіроўваліся ў розныя куткі краіны. Гэтыя аўтобусы, паводле паказанняў сведак, пабылі ў Елгаве, Баўсцы, Вентспілсе, Кумсэ, Талсі, Кулдзізе, Валцы (двойчы), Екабпілсе, Вілянах, Лігатнэ, Апэ і Рэзекнэ. Арайсаўцы прыязджалі таксама ў Даўгаўпілс і Ліепаю.

Але няма ніводнага месца расстрэлаў, з якім імя Арайса было б звязана так цесна, як з Бікерніекскім лесам — адной з галоўных зон масавых забойстваў у Рызе. Расстрэльвалі па пэўным сцэнарыі. Узвод стралкоў складаўся з 40 чалавек, падзеленых на два аддзелы. Два дзесяткі тых, хто страляў, размяркоўваліся наступным чынам: дзесяць стралялі са становішча стоячы і дзесяць — апусціўшыся на калена. Стралялі з адлегласці 15 — 25 метраў. У кожнага чалавека цэліліся двое: тыя, хто стаяў, — у галаву, напарнікі — у спіну. Ад кулявога штуршка ахвяры падалі ў раней выкапаную яміну. Страляніна вялася па стужкавым прынцыпе: тыя, хто адстраляўся, адыходзілі ў тыл, і дваццаць стралкоў, якія чакалі перад гэтым, выходзілі на лінію агню...

Не знайшлося ў Еўропе краіны, акрамя Латвіі, дзе акупацыйную адміністрацыю ўзначаліў бы прэзідэнт. Латвія і тут наперадзе ўсёй Еўропы — акупацыйную адміністрацыю ўзначальваў прэзідэнт Квіесіс.

...І вось у прыгожы сонечны дзень 16 сакавіка 1999 года па Рызе прайшла доўгая калона легіянераў-латышоў. 150 тысяч латышоў у гады другой сусветнай вайны змагаліся на баку гітлераўскай Германіі, каля 40 тысяч увайшлі ў латышскі добраахвотніцкі легіён. Фашысты вярнуліся і маршыруюць па Рызе 16 сакавіка 1999 года, у "дзень памяці" першага баявога хросту латышскіх легіянераў, якія давалі Гітлеру прысягу наступнага зместу: "Імем Бога ўрачыста абяцаю ў барацьбе супраць бальшавізму безумоўна падпарадкоўвацца вярхоўнаму галоўнакамандуючаму нямецкіх узброеных сіл Адольфу Гітлеру і, як мужны нямецкі ваяр, заўжды быць гатовым аддаць сваё жыццё ў імя гэтай клятвы". 70% асабістага складу латышскай дывізіі Waffen SS уяўлялі добраахвотнікі.

Варта заўважыць, што літоўцы таксама прапаноўвалі стварыць дывізіі СС. Аднак літоўцы мужна адмовіліся. А беларусам і не прапаноўвалі. Разумееце, у літоўцаў не той менталітэт, а ў беларусаў і зусім не той!

"Вызваліўшы" тэрыторыю Латвіі ад яўрэяў, камуністаў, камісараў, цыганоў і антыфашыстаў, банды катаў-забойцаў тыпу Sonderkommando Arajs пачалі наводзіць свой "новы парадак" на памежных тэрыторыях. Так, у лютым — сакавіку 1943 года ў Расонска-Асвейскай партызанскай зоне была праведзена буйная карная аперацыя, якая атрымала кодавую назву "Вінтэрцаўбер" ("Зімовае чарадзейства"). 8 з 10 паліцэйскіх батальёнаў, якія ў ёй удзельнічалі, былі латышскія. У выніку аперацыі было расстраляна і спалена жыўцом каля 3 500 мясцовых жыхароў, 2 тысячы былі вывезены на катаржныя работы ў Германію, больш за тысячу дзяцей было накіравана ў канцэнтрацыйны лагер Саласпілс. Разрабавана і спалена 158 населеных пунктаў, у тым ліку разам з людзьмі былі спалены дашчэнту наступныя вёскі: Амбразеева, Аніськава, Булы, Жарнасекі, Калюты, Канстанцінава, Папаратнае, Сакалова і іншыя.

У Мінску гітлераўцамі было арганізавана буйное гета, у якім сабралі дзесяткі тысяч яўрэяў. Іх чакала смерць. Аховай гета (лічы, бязлітасным вынішчэнні яго насельнікаў) займаліся і малойцы з

каманды Віктара Арайса, і супрацоўнікі латышскай СД, і латышскія паліцэйскія.

16 сакавіка адзначаюць таму, што тады абедзьве дывізіі латышскіх эсэсаўцаў ваявалі разам. А ў час буйной карнай аперацыі "Фрулінгфэст" ("Свята вясны") супраць партызан і насельніцтва Ушацка-Лепельскай зоны 16-я дывізія латышскага легіёна СС удзельнічала ў поўным складзе адна.

***У Беларускую рэдакцыю радыё "Свабода"***
***Доктара Міхаіла ЛЕКАХА***
***7 красавіка 2002 года***

### *Адкрытае пісьмо на радыё "Свабода"*

*Шаноўнае спадарства!*

*Часта слухаю вашы перадачы, у якіх знаходжу шмат цікавага. Імкнуся не пакінуць без увагі ніводную перадачу. Таму я не мог не звярнуць увагі 24 сакавіка 2002 года на расповяд пра Халакост у Беларусі ў 1941 — 1944 гг. Тым больш, што рэальны фашызм я ведаю не толькі па кнігах, артыкулах, радыёперадачах і кінафільмах.*

*Бясспрэчна даказанай гістарычнай праўдай з'яўляецца факт знішчэння яўрэяў Беларусі ў асноўным рукамі літоўцаў, украінцаў і латышоў. Пры гэтым прашу асаблівую ўвагу звярнуць на тое, што беларусы не прыходзілі і не прыязджалі забіваць яўрэяў ані на Украіну, ані ў Літву, ані ў Латвію. Безумоўна, і сярод беларусаў былі асобы, якія супрацоўнічалі з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Але ўдзел беларусаў у знішчэнні яўрэяў нельга параўнаць з маштабамі злачынстваў катаў украінскай, літоўскай і латышскай нацыянальнасцей. Гэты важны гістарычны факт у перадачы беларускай "Свабоды", па сутнасці, не быў улічаны. А наконт катаў-латышоў наогул прамаўчалі. Паспрабуем ліквідаваць гэты прабел.*

*Беларусь у гады вайны ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі і ў выніку рэпрэсій нямецкіх фашыстаў і іх добраахвотных памочнікаў з суседняй Латвіі, Літвы і Украіны страціла больш як 25% насельніцтва — 2,8 мільёна чалавек. У Латвіі і на памежных тэрыторыях у 1941 — 1944 гг. дзейнічалі шматлікія банды катаў-латышоў — Sonderkommando Arajs і іншыя. Гэтая каманда забойцаў была створана 1 ліпеня 1941 года, у дзень акупацыі Рыгі. Першай значнай яе справай быў падпал сінагогі на вуліцы Гогаля ўжо 4 ліпеня. У палаючым будынку загінула больш за 400 чалавек. Ніводнаму чалавеку каты не дазволілі ўратавацца.*

*Ужо ў пачатку жніўня брыгада выйшла за межы Рыгі. Узводы стралкоў у сініх аўтобусах накіраваліся ў розныя куткі Латвіі. Гэтыя аўтобусы, згодна з паказаннямі сведак, пабылі ў Елгаве, Баўсцы, Велтспілсе, Кумсэ, Талсі, Кулдзізе, Валцы, Екабпілсе, Вілянах, Лігатнэ, Апэ, Рэзекнэ, Мінску і на памежных тэрыторыях Віцебскай вобласці Беларусі. Узначальваў Sonderkommando Arajs выпускнік Латвійскага універсітэта (г. Рыга) Віктар Б. Арайс, а сама Sonderkommando Arajs складалася з добраахвотнікаў-латышоў. Прашу звярнуць увагу: Sonderkommando Arajs, як і іншыя банды забойцаў-латышоў, складалася з добраахвотнікаў; іх ніхто не прымушаў забіваць — яны па ўласнай ініцыятыве рабіліся забойцамі.*

*Каты з Sonderkommando Arajs расстралялі тысячы і тысячы ні ў чым не вінаватых людзей. Масавыя расстрэлы ажыццяўляліся наступным чынам. Узвод стралкоў складаўся з 40 чалавек, падзеленых на два аддзелы. Два дзесяткі тых, хто страляў, размяркоўваліся такім чынам: дзесяць стралялі са становішча стоячы і дзесяць, апусціўшыся на калена. Стралялі з адлегласці 15 — 25 метраў. У кожнага чалавека цалялі двое: тыя, хто стаяў, — у галаву, напарнікі — у спіну. Ад кулявога штуршка ахвяры падалі ў выкапаную раней яміну. Стральніна праводзілася па стужкавым прынцыпе: тыя, хто адстраляўся, адыходзілі ў тыл, і дваццаць стралкоў, якія чакалі дагэтуль, выходзілі на лінію агню... Пасля заканчэння вайны Арайсу доўга ўдавалася хавацца. Але ўсё ж у 1975 годзе Арайс быў арыштаваны і асуджаны ў Германіі.*

*Каб не павялічваць аб'ём адкрытага пісьма, дасылаю апублікаваны матэрыял "Сцяг перамогі і штандарты ганьбы", аўтар Максім Звонаў.*

*Латышы займаюць першае месца ў свеце па колькасці забойцаў-катаў і калабарацыяністаў у час нямецка-фашысцкай акупацыі (1941*

*— 1944 гг. у разліку на 100 тысяч чалавек). Прэзідэнт Латвіі Квіесіс — адзіны ў свеце прэзідэнт, які ўзначальваў акупацыйную адміністрацыю ў час другой сусветнай вайны.*

*Такім чынам, разгледжаная перадача беларускай "Свабоды", мякка кажучы, у цэлым супярэчыць гістарычнай праўдзе адносна рэальных катаў і тых, хто вінаваты ў знішчэнні соцень тысяч яўрэяў Беларусі.*

*У маім распараджэнні ёсць сведчанні і сведкі велізарнай мужнасці і высакародства жыхароў Беларусі, якія ратавалі сваіх суграмадзян яўрэйскай нацыянальнасці. Дасылаю дакументальны нарыс "Беларускія праведнікі", якія бязвыплатна перадаю беларускай "Свабодзе".*

*Прашу беларускую рэдакцыю радыё "Свабода" распавесці пра маё пісьмо і адну з перадач прысвяціць Беларускім Праведнікам.*

*З павагай Доктар тэхнічных навук Міхаіл ЛЕКАХ*

***P.S.*** Я ніколі не належаў і не належу ні да якой палітычнай партыі. Заўсёды сябе лічыў і лічу членам партыі сумленных людзей. Таму я востра ўспрымаю фальш, палітызаванасць, памылкі і недакладнасці, якія часам сустракаюцца ў радыёперадачах беларускай "Свабоды".

**Пераклала з рускай мовы**
**Святлана САЧАНКА**

*Ганарар за артыкул аўтар ахвяруе на будаўніцтва новай Нацыянальнай бібліятэкі.*





# ЖЫЦЦЁ ІГНАТА ДАМЕЙКІ

***Да 200-годдзя з дня нараджэння***

Вясна 1831 года на Наваградчыне была незвычайна цёплай. Ігнат Дамейка сядзеў на ганку сваёй сядзібы ў Заполлі, і падумалася — пайшоў яшчэ толькі трыццаты год жыцця, а ўжо давялося хапіць ліха. Калі ён быў у 7-гадовым узросце, сканаў бацька, міравы суддзя ў Наваградку. Але ж родны дзядзька Іосіф Дамейка, выхаванец знакамітай Фрайбергскай горнай акадэміі ў Германіі, прымусіў чытаць цікавыя кнігі аб прыгодах і падарожжах. Хоць і не ўсё так дрэнна. Хатні арышт пад наглядам паліцыі па справе філарэтаў Віленскага універсітэта, які ён паспеў скончыць з дыпломам магістра матэматыкі? Але ж гэта не Арэнбургскі стэп, куды саслалі Тамаша Зана і Яна Чачота! Да таго ж, бліжэйшы сябра — Адам Міцкевіч — недзе блукае па эміграцкіх завулках Еўропы. А ён ужо пачаў рыхтавацца да прафесарскай кафедры ў Віленскім універсітэце: некалі ж скончыцца недарэчны хатні арышт. Што ж прынясе гэты неспакойны 1831 год?..

Ігнат шчыльна зачыніў за сабою дзверы і, укленчыўшы, ціха прачытаў з маленства вядомую яму малітву: "Пане Божа Усемагутны, у Святой Тройцы адзіны, учыні, каб думкі мае, словы і ўчынкі на служэнне Табе і хвалу Тваю былі скіраваныя і ніколі волі Тваёй Святой не праціўіліся". Пацалаваў родную зямельку, падхапіўся рэзва і, надзеўшы шаблю, лёгка ўскочыў на свайго Каштана — з Богам! У корпус генерала Хлапоўскага!



7 «Крыніца» № 9-10

За чвэрць мілі ад Слоніма на прасёлачнай дарозе Ігнат сустрэў сялян, што вярталіся з кірмашу, і тыя пацвердзілі — "у горадзе сам князь Канстанцін з войскам". Падчас начлегу ў доме аднаго пана Ігнат даведаўся, што корпус Хлапоўскага са Свіслачы, абмінаючы Слонім, рушыў на Ліду. Ігнат паспяшаўся ў бок Дзятлава, каб развітацца з маці ў Сачыўках і сястрой Марыяй Вярбоўскай у Далматоўшчыне. Цяпер ён нібы прадчуваў, што неўзабаве пакіне назаўсёды свой дом і сям'ю. Трэба было развітацца. Рукі маці дрыжэлі, калі Ігнат цалаваў іх, а слёзы яе ён памятаў усё жыццё.

Ліпеньская рэвалюцыя 1830 года ў Францыі паскорыла паўстанне ў Польшчы. Маланкай даляцела да Нёмана вестка з-за Віслы і засвяціла надзеяй пазбавіцца ад царскага прыгнёту, запаліла на бітву Літву і Жмудзь. Ноччу 29 лістапада толькі жменька моладзі ў Вільні заклікала на бітву, а ўжо на новы 1831 год мелі да трох тысяч войска і Нацыянальную Раду. Узрадаваліся душы літвінаў *Льва Сапегі, Стэфана Баторыя, Касцюшкі...*

А тым часам з Расіі на захад, да Варшавы і Вільні, цягнуліся шматлікія кавалерыя і пяхота, імператарская гвардыя. Пад канец сакавіка ў Вільні ўтварыўся таемны Патрыятычны ўрад. Адразу пачалі наладжвацца акруговыя паўстанні ў паветах, што належалі да Віленскай губерні, і як толькі пачаў сыходзіць снег, выбухнула вестка пра перамогу ў Грахоўскай бітве 25 лютага, а прадвеснем (31 сакавіка) — каля вёскі Дэмбе Вельке. Але Гарадзенская губерня праз увесь красавік не зрушылася; вяліся нарады...

Лідскі павет, дзе ў той час ужо 7 гадоў Ігнат жыў пад наглядам паліцыі, быў яшчэ бездапаможны. Ігната не цешылі ані прыгожая рунь той вясны, ані гаспадарка, ані зацішны дом і кнігі. Удзень і ноччу ў сне набягалі ўспаміны з віленскіх універсітэцкіх гадоў, калі яны (Ігнат з мянушкай Жэгота, Адам Міцкевіч, Антон Адзінец, Тамаш Зан і Ян Чачот з таварышамі) марылі пра цудоўную будучыню свайго прыгнечанага краю.

Амаль кожны дзень прыносіў весткі аб перамогах, самаахвярнасці і жаўнерскай адвазе ў Каралеўстве; ужо і на Літве рух шырыўся — бітва ў Ашмянах, віленскія студэнты змагаюцца ў Рудніцкай пушчы, паўстанне на Жмудзі...

Ігнат крануў каня. Не праехаў і мілі, як пачуў трубы уланаў; здаля



*І.І. Дамейка, 1885 г.*



пры яркім сонцы ў прыгожы вясновы дзень зазіхацелі бела-чырвоныя харугвачкі. Трубачы бадзёра гралі "Наш Скшынецкі мужны...". А воддаль ехаў акружаны нешматлікім штабам генерал Хлапоўскі, выдзяляючыся сваёй гожай паставай: плашч, закінуты на плечы, "Белы арол" на шапцы... Навокал яго — генерал Тышкевіч, сенатар Лога, доктар Марціноўскі і некалькі ад'ютантаў. Ігнат пад'ехаў да Хлапоўскага, прадставіўся і сказаў: "Гатовы служыць!"

Стаўшы ўзбоч гасцінца, Ігнат з радасцю глядзеў на вайсковы строй. Наперадзе ехаў эскадрон уланаў у сініх мундзірах з чырвонымі адваротамі, пад камандаваннем афіцэра Баркоўскага: людзі — на добрых конях, чыста апранутыя, нібыта сёння выйшлі на парад на Саскі пляц у Варшаве. Аднак жа тры тыдні яны былі на маршы, а пяць дзён таму мелі жорсткую сутычку з непрыяцелем. Затым, таксама на конях, ішоў стралецкі легіён з жаўнераў, што раней служылі ў войску Польскага Каралеўства. Далей ішлі пешшу альбо ехалі на конях нядаўна далучаныя да войска паўстанцы, якія далучыліся ў

Белавежскай пушчы і па дарозе на Ліду; між імі былі сяляне, засцянковая шляхта, мяшчане і дваровая служба, былі і панічы на добрых конях, і колькі ксяндзоў з ахвярнікам. Замыкала ўвесь корпус расцягнутая на паўвярсты ар'ергардная стража конных стральцоў старой службы.

І ўся гэтая раць — да тысячы чалавек — гучна, на ўсю акругу, спявала: “Ешчэ Польска не згінэла... беларускага кампазітара Агінскага. І дзе толькі даваўся загад затрымацца, адразу рэзалі валоў, з вёсак і двароў прыносілі хлеб, малако, гарэлку. Каля першай жа заможнай вёскі сталі табарам. І тут да корпуса далучыўся даволі шматлікі кавалерыйскі атрад пад камандаваннем Эміліі Плятэр: 24-гадовая графіня, невысокая, бялявая, круглатварая, з блакітнымі вачыма, была сур'ёзнай і суровай — ужо адным позіркам давала зразумець, што патрабуе да сябе адпаведнага стаўлення. Апранута яна была ў шарачковы да каленяў сурдуцік з чырвоным каўняром і шырокія шаравары; на галаве — мужчынская шапка, валасы коратка падстрыжаныя; за поясам пугінал і кароткая шабля, сярэбраныя астрогі на боціках — сціплая, без аніякай ненатуральнай прэтэнзіі, на кані трымалася стройна. Ветліва і далікатна прывітаў Хлапоўскі графіню.

Падчас маршу на Вільню прыйшла вестка, што да паўстанцаў набліжаецца дывізія Гелгуда з Польшчы. Яна ўзняла дух у кожным жаўнеры: ці старaслужылым, ці паўстанцы. Было гэта напрыканцы чэрвеня. І яшчэ была радасць — падышлі паўстанцы з другіх губерняў, тры браты Ходзькі прывялі паўстанцаў з Вілейскага краю. З усіх рэгіёнаў старажытнай Польшчы прыбывалі людзі: з Познані і Гданьска, з Галіцыі, Падолля і Валыні. Да 14 тысяч мелі ўзброенага войска!

Тры дні адпачынку і радасці — весяліліся, нібыта пасля перамогі. На ваеннай нарадзе вырашылі ўсёй сілай абрынуцца на Вільню, дзе непрыяцель для абароны сабраў шматлікае войска. Мацэвічу загадалі весці свой яшчэ не сфарміраваны 25-ы полк (500 жаўнераў і 20 афіцэраў, дзве роты і адзін эскадрон стральцоў) у Коўна. Пасля трохдзённага маршу ўвайшлі ў Коўна — непрыяцеля там не было, усё ягонае войска было сцягнута ў Вільню. І горад прыняў паўстанцаў ветліва. Яны атрымалі па кантрыбуцыі ад мяшчан усё неабходнае — хлеб і мяса. Афіцэрам далі баль у гонар Эміліі Плятэр; гулялі ў доме пані Кавальскай, вядомай пашанай і дружбай Адама Міцкевіча. Ігнат у тых гасцінах не ўдзельнічаў — ад'ютант Дамейка меў шмат клопату паводле даручэнняў Мацэвіча, нават начамі не знаў спакою, аб'язджаючы фарпосты па берагах шырокага Нёмана.

Сярод ковенскіх яўрэяў стала разыходзіцца нядобрая вестка аб прайгранай баталіі пад Вільняй. Неўзабаве і дазоры паведамілі, што на віленскім тракце з'явілася войска Хлапоўскага. Генерал увайшоў у Коўна з музыкай, нібыта нічога не здарылася. Але нельга было ўжо ўтоіць паражэнне. Афіцэры на нарадзе гаварылі пераважна пра страты пад Вільняй і агулам скардзіліся на Гелгуда; больш давяралі Хлапоўскаму, за яго і пілі, пакуль хапала гарэлкі.

На пачатку паўстання Гелгуд атрымаў перамогу пад Граховам і Мінскам Мазавецкім і на чале 2-й дывізіі рушыў да Гародні, дзе разбіў атрад рускай арміі Остэн-Сакена. Але потым дзейнічаў нерашуча — замест таго, каб узяць Вільню, дзе тады было мала рускага войска, кружляў вакол, чакаючы транспартных караблёў са зброяй з Англіі. І толькі пасля злучэння з корпусам Хлапоўскага мусіў атакаваць Вільню 19 чэрвеня з Панарскіх вышынь, але ў горад ужо было сцягнута да 26 тысяч рускай арміі, і Гелгуд страціў больш за дзве тысячы сваіх жаўнераў.

Тады ж са сваім корпусам Хлапоўскі рушыў галоўным трактам на Кейданы, пакінуўшы ў Коўне 25-ы полк Мацэвіча для прыкрыцця ад непрыяцеля. Атака рускай арміі на Коўна была такой імклівай і напорыстай, што большая частка жаўнераў трапіла ў палон. Рэшткі палка прайшлі з Мацэвічам праз мост за Вілію, а ўслед ім ляцелі кулі ды рваліся снарады. Не вельмі шырокая раўніна цягнецца ад Віліі да прылеглага лесу, куды трэба было паспець уцячы ад праследу непрыяцельскай кавалерыі. Той ноччу ляснымі сцежкамі здолелі дабрацца да аднаго фальварка.

Полк Мацэвіча прыбыў у Кейданы, і тут дазналіся, што яшчэ ноччу Хлапоўскі, пакінуўшы горад, рушыў на Шаўляй. Цэлы дзень без адпачынку ішлі Мацэвіч і Ігнат са сваім палком у пошуках Хлапоўскага, нечакана выйшлі на дывізію Гелгуда. Той меў стаўку ў невялікім дамку на ўзгорку, дзе ўжо сабралася каля 60 афіцэраў; адкрыта вінавацілі Гелгуда за бяздзейнасць, намякалі на яго перамовы

з непрыяцелем і магчымую здачу ў палон прусакам. Уголас гаварылі, ці не прымусіць або ўпрасіць яго, каб перадаў камандаванне Хлапоўскаму. І не было згоды паміж афіцэрамі: адны перасцерагалі, што гэта падобна на бунт, другія казалі, што Хлапоўскі не прыме камандавання, а больш гарачыя заклікалі да рашучых спосабаў уратавання Айчыны.

Гелгуд, пачуўшы гаману каля сваёй стаўкі, выйшаў на ганак. Быў гэта 40-гадовы мужчына — высокі, непрыгожага, але мужнага аблічча. Відаць было абурэнне старога генерала — перарывістым, прыцішаным, але пераканаўчым голасам ён адказаў: "Падазраяце мяне, што думаю пра дамовы з непрыяцелем, дык ведайце: калі б у маіх жылах засталася адна толькі кропля крыві з думкай пра дамовы з кім-небудзь, то і тую сам бы выціснуў". І пайшоў у хату — збялелы, узрушаны. Некаторыя крычалі: "Хай жыве генерал Гелгуд!"

Каля Расаліна намерыліся стрымаць пярэднія атрады рускага войска ды кінуцца адначасова на Шаўляй, дзе быў непрыяцельскі гарнізон, — спадзяваліся м здабыць зброю і амуніцыю. Страцілі нямала людзей і частку артылерыі. Пры падыходзе да Шаўляя Ігнат бачыў за паўмілі ад горада жаўнераў, якія хавалі палеглых у той няшчасны дзень; то былі паўстанцы братоў Ходзькаў з Вілейкі. А ў паспяховым штурме Шаўляя не сумняваліся; тут нешматлікі гарнізон рускай пяхоты пасля крывавай сутычкі схаваўся за прыкасцельную мураваную агароджу. Але тры разы жаўнеры спрабавалі ўзяць гэта ўмацаванне і былі адбіты; у адной з атак сам Лога з вінтоўкаю ў руках павёў пяхоту на штурм і загінуў. Больш Гелгуд не намерваўся захапіць Шаўляй і затрымлівацца тут перад рускай арміяй, што ўжо была на падыходзе.

Пасля шаўляйскага паражэння ў Куршанах сабралася войска паўстанцаў — усё, што засталося ад дывізіі Гелгуда і корпуса Хлапоўскага, пераважна з эскадронаў кавалерыі, няблага ўзброеных і на добрых конях. Цэлую ноч доўжылася нарада ў стаўцы Гелгуда. Генералы Дэмбінскі, Хлапоўскі, Роланд, Шыманоўскі, Тышкевіч і шмат палкоўнікаў наракалі на адсутнасць адзінства ў ваенных дзеяннях. І сярод жаўнераў не спыняліся скаргі на камандзіраў — прыпісвалі ім марнаванне сіл і часу.

Афіцэры і жаўнеры прызнавалі відавочнае — аслабленне веры ў сябе, дэмаралізацыю і анархію. Аддаленасць ад галоўных сіл нацыянальнай арміі пад Варшавай, з'яўленне ад часу баталіі пад Вільняй шматлікай рэгулярнай рускай арміі, бязмэтныя маршы да зморы і разгубленасць галоўнага камандзіра Гелгуда — усё гэта не магло не паўплываць на паслабленне дысцыпліны і энтузіязму ў жаўнераў старой службы, прызвычаеных да парадку і паслухмянасці. Ну, а паўстанец з лесу, уцягнуты ў рэгулярныя шэрагі, бачыў дарэмнасць сваёй самаахвярнасці.

Усю ноч доўжылася сумная і няўцешлівая размова, пыталіся: куды ідзём? Аднак жа і англічане пасылаюць у Палангу зброю і амуніцыю. А інтэрвенцыя Францыі! Прусакі таксама не варожыя — у Мемелі і Круляўцы купцы спрыяюць; ад іх порах і кулі. Недалёка ўжо бераг Балтыкі, тут можа адбыцца перамога над непрыяцелем. Сіл пакуль што хапае — да васьмі тысяч жаўнераў і артылерыя, а хоць бы і загінуць усім давялося — не бяда. І тут раптам рух ва ўсім табары, генералы ў стаўцы дамовіліся, на тры карпусы падзялілі войска — самы шматлікі пяхотны (каля трох тысяч жаўнераў) пад камандаваннем Роланда і Шыманоўскага пойдзе на поўнач, кіруючыся на Мемель, разлічваючы на зброю і амуніцыю з Англіі; Дэмбінскі (дзве тысячы кавалерыі, дзве тысячы пяхоты і конная артылерыя) будзе прабівацца да галоўнай арміі ў Варшаве; Гелгуд і Хлапоўскі павядуць рэшту войска трактам да Цельшаў, пад прускую мяжу. Праз тры гадзіны кожны з трох карпусоў быў на маршы.

У ноч з 7 на 8 верасня Варшава пала пад націскам рускай арміі — і паўстанне канчаткова было падаўлена. Царскі ўрад адмяніў Канстытуцыю 1815 года, пазбавіў Польшчу дзяржаўнасці і аўтаноміі; пазней (1832) быў закрыты Віленскі універсітэт, а беларуская мова была забаронена.

І як толькі пала Варшава, усіх інтэрніраваных літвінаў перавезлі ў Крулявец; прускі ўрад плаціў кожнаму афіцэру па 30 талераў у месяц. А ў ваколіцах Гданьска той жа лёс зведалі шматлікія эмігранты з галоўнай польскай арміі, якія перайшлі мяжу пад кіраўніцтвам генералаў і Нацыянальнай Рады разам з дэпутатамі і сенатарамі Польскага Каралеўства (частка польскай арміі перайшла аўстрыйскую мяжу і таксама была інтэрніравана, Чартарыйскі эмігрыраваў у Парыж).

З 1 студзеня 1832 года прускія ўлады пачалі выпраўляць эмігрантаў (групамі па 20 — 30 чалавек) у французскі горад Страсбург; тым, хто сваім коштам абавязваўся адбыць у гэтую паездку, давалі пашпарты ў Францыю і невялікую грашовую дапамогу. Дамейка вырашыў ехаць праз Дрэздэн, дзе яго ўжо чакаў сябра — Адам Міцкевіч...

Першымі днямі студзеня 1832 года, марознай ноччу Дамейка выехаў паштовым дыліжансам у Франкфурт-на-Одэры. Ужо праз дзень, аглядаючы гатычны замак крыжакоў у Мальборку і прыгадваючы геніяльны твор Міцкевіча пра Конрада Валенрода, Ігнат з нецярпеннем лічыў гадзіны і хвіліны да сустрэчы. Пры выездзе з Мальборка, яшчэ раз азірнуўшыся на замак, падумаў: “Якія несправядлівыя гісторыя і гісторыкі да вялікага народа беларусаў-ліцвінаў, які стварыў 700 гадоў таму сваю магутную дзяржаву, Вялікае княства Літоўскае, са сталіцай у Наваградку, а потым у Вільні. Найвялікшы ліцвін-беларус, вялікі князь Ягайла, у 1386 годзе быў увянчаны яшчэ адной каронай — каронай польскага караля, і ў 1410 годзе ён на чале аб’яднанага войска ліцвінаў і палякаў начыста разбіў крыжакоў у Грунвальдскай бітве; вырашальную ролю тады адыгралі полацкія, віцебскія, магілёўскія, смаленскія і другія палкі. Пасля Грунвальда ў псоў-рыцараў назаўсёды была адбіта ахвота глядзець у бок Вільні. А цяпер, праз чатыры стагоддзі, і палякі, і ліцвіны пазбаўлены сваёй дзяржаўнасці”.

І вось урэшце Дрэздэн, дзе яго ўжо чакаў Міцкевіч. Сябры цудоўна пражылі зіму і вясну; каб не наляганне рускага консула на саксонскі ўрад з патрабаваннем выгнаць іх з краіны, дык засталіся б у Дрэздэне надоўга, пакуль была б магчымасць вярнуцца на радзіму. Гэта быў час, калі Адам пісаў чацвёртую частку сваіх “Дзядоў”; ён гадзінамі чытаў урыўкі з таго, што напісаў, часам напяваў якую-небудзь мелодыю Моцарта і бесперапынна смаліў люльку. Хадзілі часта на італьянскую оперу і на шпацыры. Нямала прыемных хвілін сябры правялі ў мастацкай галерэі, перад Боскай Рафаэлевай “Мадоннай”.

Напрадвесні Дамейка наведаў Фрайберг на поўдні Саксоніі і старую Горную акадэмію, у якой калісьці вучыўся на горнага інжынера за кошт Рэчы Паспалітай яго апякун — дзядзька Іосіф. Расказы дзядзькі Іосіфа аб рамантычнай прафесіі геолага яшчэ тады, у маленстве, глыбока кранулі душу дапытлівага хлопчыка. І вось цяпер ён хадзіў па калідорах акадэміі, узрушаны ўспамінамі бестурботнага дзяцінства. З цікаўнасцю ўпершыню аглядаў чароўны свет мінералаў. І яму захацелася большага — у хуткім часе ён ужо ў дыліжансе накіроўваўся ў бок Рудных гор на мяжы з Чэхіяй, на старажытныя сярэбраныя руднікі з 500-гадовай гісторыяй горных распрацовак. Уражанні ад убачанага былі надзвычайныя. І ўся гэта паездка ў Фрайбург і Рудныя горы сталася для Ігната лёсавызначальнай — праз год ён пераступіць парог Вышэйшай горнай школы ў Францыі і стане геолагам…

Напрыканцы чэрвеня па загадзе Расіі саксонская паліцыя зноў патрывожыла эмігрантаў — ім было загадана з першымі днямі ліпеня выехаць з краіны. Дамейка і Міцкевіч нанялі фуру; ехалі павольна, затрымліваючыся на начлег і папас, дзе падабалася. У Страсбург ехалі праз Нюрнберг і Карлсруэ, бо такі шлях быў вызначаны пашпартамі. У Нюрнбергу прабылі два дні; наведалі музей, у якім аглядалі палотны Дзюрэра, Гольбейна і Кранаха; пакаштавалі рэйнскага віна добрага гатунку. Тым часам прыехалі на Рэйн — перад сябрамі была страсбургская вежа кафедральнага сабора Нотр-Дам...

12 ліпеня 1832 года. На мяжы нямецкія мытнікі і памежнікі абышліся з імі па-людску, нават ласкава. Мытнік-шваб, што бярэ ў падарожных плату, калі даведаўся, што перад ім “палякі”, зняў капялюш, пакланіўся і пайшоў без агляду. Задарма і мост пераехалі. А жаўнеры французскай стражы прывіталі: “Віват, палякі!” — уехалі ў Францыю, нібы пасля вялікай перамогі, нібыта ў сваю краіну. Ігнат задрыжэў ад радасці, бачачы французскіх жаўнераў — не бачыў іх ад 1812 года, калі ўвесь корпус вестфальскага караля і Панятоўскі са сваімі легіёнамі прайшлі праз Шчучын, дзе ён тады вучыўся ў піярскай школе. Дзіўны ўспамін!

Уехалі ў горад і назаўтра пайшлі ў прэфектуру, дзе ўсе, ад швейцара да прэфекта, прынялі іх халодна і абыякава. Прэфект не дазволіў застацца ў Страсбургу, і сябры вырашылі паехаць у Шалон-на-Марне, што ў паўдарозе да Парыжа. На некалькі дзён затрымаліся, каб агледзець горад, катэдру і вежу Мюнстэр — шэдэўр

мастацтва, што ўзвышаецца над горадам і наваколлем як сведка часоў моцнай веры і рыцарства. Усёведны Адам за куфлем эльзаскага піва нагадаў Ігнату, што некалькі дзесяцігоддзяў таму юны Гётэ, вывучаючы ў Страсбургу юрыспрудэнцыю, быў таксама ўзрушаны ажурнымі арнаментамі мясцовага сабора; праз пяць гадоў яны зноў наведаюць гэты горад у кампаніі Віктора Гюго. Заглянулі і ў салон бургамістра Фрыдрыха фон Дзітрыха, дзе 26 красавіка 1792 года малады капітан Ружэ дэ Ліль упершыню выканаў створаную ім за адну ноч «Марсельезу», будучы французскі гімн. І ў палац Руанаў, былую рэзідэнцыю страсбургскіх архіепіскапаў, дзе размяшчалася мастацкая галерэя з палотнамі Джота, Батычэлі, Ван Дэйка, Рубенса, Эль Грэка...

Праз пяць дзён побыту ў Страсбургу паехалі ў Шалон-на-Марне, сталіцу Шампані, каб чакаць там дазволу з Парыжа на права жыць у сталіцы. Хто не ведае правінцыю Шампань, славутую вінам, якім захапляецца свет! Дамовіліся наведаць ваколіцы Шампані, дзе Атылу некалі разграміў рымскі палкаводзец Аэцый Флавій.

Вярнуўшыся ў Шалон, знайшлі адказ міністра з Парыжа, у якім ён загадваў прэфекту падрыхтаваць дасье на іх. Сябры раіліся з адным чыноўнікам, якім спосабам, не абражаючы ні караля, ні Канстытуцыю, можна было б апынуцца ў Парыжы з пашпартам, у якім выразна сказана: “Забараняецца ўезд у Парыж з якой бы ні было нагоды”. “Ёсць толькі адзін спосаб”, — адказаў ён. “Які ж?”, — запытаўся Адам. “Паехаць паштовай карэтай”. — “Як гэта? Кур’ерам? А хто ж нас упусціць у горад? І як толькі ўбачаць пашпарты, арыштуюць!” — “Ніхто не асмеліцца затрымаць кур’ера ні ў дарозе, ні пры ўездзе ў горад”. З гэтай зарукай селі ў тую ж гадзіну ў паштовую карэту і рушылі ў Парыж. 1 жніўня 1832 года а трэцяй раніцы парыжскае паветра абудзіла Дамейку і Міцкевіча.

Перш за ўсё пабеглі глядзець Цюільры і вялікі сад пры ім. З таго саду, ідучы да Елісейскіх палёў, заўважылі славутую калону Вандамэ, але не было ўжо на яе вяршыні скульптуры Напалеона. Увайшлі на шырокую плошчу, з якой відаць Каралеўскі замак, палац Нацыянальнага прадстаўніцтва і касцёл святой Магдаліны. Пасярод гэтай плошчы 21 студзеня 1793 года каралі смерцю Людовіка XVI, апошняга з каталіцкіх каралёў, бо ўсе пазнейшыя не былі каралямі з



Божай ласкі. З таго пляца прыгожы мост, абстаўлены скульптурамі, прывёў іх да палаца Бурбонаў — цяпер Палаты Дэпутатаў.

Другі дзень прысвяцілі наведванню прадмесця Сен-Жэрмен, Дома Інвалідаў і Пантэона з надпісам на франтоне “Вялікім людзям — удзячная Францыя”. З Дома Інвалідаў пацягнуліся праз усё прадмесце Сен-Жэрмен, сталіцу колішняй арыстакратыі і парыжскага вышэйшага свету Францыі, да Сарбоны і касцёла святой Жэнеўевы, апякункі Парыжа, да сабора Нотр-Дам. Праз месяц Адам наняў асобную кватэру, дзе пасяліўся са сваёю музай Цэлінай Шымановскай — шлюб адбыўся ў 1834 годзе. А Дамейка перабраўся на вуліцу Мансье ля Прынц.

Надарылася ўрачыстасць у Французскай Акадэміі. Узышоў на галерэю, з якой мог агледзець усю веліч Акадэміі, увайшоў з піетэтам універсітэцкіх гадоў, пашанай да навукоўцаў, з якіх аніводнага не бачыў у жыцці. З узрушэннем глядзеў, як уваходзілі Гей-Люсак, Арагон, Біёт, Ампер. Прызнаўся пасля Адаму, што было далёка да таго моцнага ўражання, якое зведаў у маладосці, убачыўшы акадэмічны сенат у Вільні. Нашы браты Снядэцкія, Баянус, Юндзіл, Лелявель і іншыя, ўвабраныя ў аксамітныя пунсовыя тогі, гафтаваныя золатам берэты... У якой цішыні, затаіўшы дыханне і з пашанай, глядзелі на іх віленская публіка, студэнцкая моладзь, нават дзеці!

Аднак жылі ў Парыжы без дазволу паліцыі. Неабходна было ўрэшце змяніць гэты стан. Пайшлі шукаць эмігрантаў, пазнаёміліся з усімі і атрымалі ад урада не толькі дазвол на побыт, але нават і эміграцкія 70 франкаў штомесяц. Дамейка пачаў вучобу ў Сарбоне і Калеж дэ Франс, а ў хуткім часе паступіў у Вышэйшую Горную школу.

29 лістапада 1833 года раніцай каля магілы караля Яна Казіміра з паўтараста эмігрантаў слухалі імшу. А ўвечары яны сышліся ў кватэры французскага генерала Лафайета з нагоды трэціх угодкаў паўстання. Зала была ярка асветлена і аздоблена польскімі і французскімі харугвачкамі. Лафайет, апрануты ў мундзір Варшаўскай Нацыянальнай гвардыі, адкрыў пасяджэнне кароткай прамовай, звяртаючы ўвагу на тое, што маем тут не толькі прадстаўнікоў урада, сейма, войска і польскага народа, але нават (паказваючы на генерала Гедройца, які толькі што прыехаў з Сібіры) прадстаўніка пакутнікаў з Расіі. Затым Юльян Нямцэвіч па-французску звярнуўся да землякоў,

заклікаючы іх да вытрымкі, цярплівасці, пашаны да вядомых імёнаў. Пасля выступіў Дамейка ад паўстанцаў з Літвы і рускіх зямель, даказваючы карысць, што для ўсёй Польшчы вынікала праз апошняе паўстанне, якое злучыла новым вузлом тыя землі і Літву з Каронай.

У 1837 годзе Дамейка закончыў навуку ў парыжскай Горнай школе, здаў экзамен і атрымаў дыплом з адзнакай. З красавіка па чэрвень запрасілі яго ўпарадкаваць мінералагічны збор 90-гадовага маркграфа дэ Дрэ, што падчас рэвалюцыі пазбегнуў гільяціны, на якую быў асуджаны, пасля быў у добрых стасунках з Напалеонам і Людовікам Філіпам. Калі аднойчы Дамейка запытаў яго, як змог ён захаваць згоду з імператарам і Філіпам, той адказаў: «Бачыце, мой даражэнькі пане, рэвалюцыі, як грыбы, — найбольшыя нічога не вартыя».

У ліпені прафесары Горнай школы адрэкамендавалі Дамейку панам Кёхлінам — эльзасцам, багатым банкірам і ўладальнікам фабрык, якія патрабавалі горнага інжынера для пошуку жалезнай руды і заснавання домнаў для яе выплаўкі. Дамейка пагадзіўся на гадавыя тысячу дзвесце франкаў. У Бон-Фантанэ быў цудоўны замак, паны Кёхліны прынялі маладога геолага добра. З вялікай ахвотай і запалам заняўся ён сваім рамяством. Ад рана да вечара хадзіў з парабкамі, якіх далі ў помач, па бязмежных лясах, шукаючы руду, і знайшоў у шмат якіх месцах даволі багатыя радовішчы. Гэта ў паноў Кёхлінаў павысіла давер да яго, і ўжо даходзіла да планаў заснавання гуты, з якой меліся даць Дамейку пэўную долю прыбытку.

Быў амаль шчаслівы, пакуль працаваў у лесе і займаўся рудою, але ў пакоях свайго працадаўца абрыдзеў сабе; надакучвала перспектыва шляхецкага, панскага жыцця — не яго гэта прызначэнне. Надышла восень. Пані Кёхлін выехала з дзецьмі ў Парыж, паны Кёхліны паехалі ў Мілузу на свае фабрыкі, а Дамейка застаўся, каб закончыць пошукі руды. Тады ён атрымаў ліст ад Дзюфрэ, свайго прафесара мінералогіі. У лісце паведамлялася, што з Чылі ў Парыж прыбыў яго даўнейшы школьны прыяцель, а цяпер калега — уладальнік медных капальняў Карл Ламберт, упаўнаважаны ўрадам Чылі знайсці ў Францыі кампетэнтнага геолага на пасаду прафесара хіміі і мінералогіі ў горадзе Какімба, і звярнуўся да яго за парадай. Далей паведамлялася, што ён (Дзюфрэ), не разважаючы, прапануе на



гэту пасаду Дамейку — свайго самага таленавітага вучня, грунтоўна падрыхтаванага для самага сур'ёзнага прадпрыемства і шырока эрудзіраванага горнага інжынера. У лісце прафесар настойліва рэкамендаваў Дамейку ехаць у Чылі — краіну, якая была "белай плямай" на геалагічнай карце. "Такая нагода выпадае ў жыцці пачынаючага геолага толькі адзін раз, гэта цудоўная магчымасць у будучым заявіць пра сябе на ўвесь геалагічны свет", — горача пераконваў прафесар.

31 студзеня 1838 года Ігнат Дамейка выехаў дыліжансам з Парыжа да порта Булонь на французскім узбярэжжы Ла-Манша; увечары 2 лютага ён прыплыў у англійскі порт Дувр. І як толькі сышоў на бераг, адразу ж прыгожым чатырохконным дыліжансам рушыў у Лондан. Праз тыдзень брыг "Спэй" (па-беларуску — "Павук"), прыняў на борт Дамейку і адплыў у Бразілію. На світанні 7 красавіка "Спэй" ужо быў каля скалістых берагоў Рыо-дэ-Жанэйра. "Спэй" вяртаўся ў Англію, а другі англійскі карабель, карвет "Спайдэр", раніцай 10 красавіка адплываў у Аргенціну. Пасля 2-месячнага знаходжання на борце "Спэя" Дамейка перабраўся на карвет. І калі «Спайдэр» падышоў да Буэнас-Айрэса, увесь акіян аддзяляў Дамейку ад роднага краю.

Быў канец красавіка, у любы дзень надоўга магла перакрыцца дарога праз Кардыльеры; пагаворвалі пра вайну супраць Балівіі і баяліся нападу індзейцаў, якія падчас вайны звычайна рабуюць падарожных. З тых прычын Дамейка пасля двухдзённага адпачынку ў аргенцінскай сталіцы рушыў у далейшае падарожжа — на захад праз увесь мацярык. Наперадзе — сотні кіламетраў стэпавай пустэчы Патагоніі, і не было іншага спосабу, як толькі ехаць на конях. Праз пару міляў вачам адкрылася неаглядная зялёная раўніна. Дамейка, жыхар узгоркаў і гаёў, глядзеў на стэп у задуменні, і здавалася яму, нібы той нязмераны акіян, на які ён пазіраў тры месяцы, раптам перамяніўся на неаглядную пашу, і толькі неба тое ж самае захавалася. І ўся прыемнасць — бег каня і стэпавы пошум ветру...

У Мэндосе, самым заходнім аргенцінскім горадзе, Дамейка напаткаў арыеру — так называюцца ў гэтым краі людзі, якія наймаюць коней і мулаў для падарожных, — які вяртаўся ў Сант'яга. Гэты чалавек абавязаўся правесці Дамейку праз Кардыльеры за 21 піястр

(105 франкаў). Выехалі пад вечар, рэчы паклалі на двух мулаў. Ігнат таксама перасеў на мула — бясплодную хатнюю жывёліну, гібрыд кабылы і асла, нізкарослую і не патрабавальную да кармоў, але цягавітую. Праз чатыры мілі выехалі на высокае плато і неўзабаве напаткалі падарожных, якія два дні таму з вялікімі цяжкасцямі прайшлі праз Кардыльеры з боку Чылі. Яны паведамілі нядобрую вестку — перавал амаль закрыты з-за глыбокага снегу, якога каням па вушы. Калі ўжо былі на ўзроўні заснежаных вяршынь Кардыльераў, Дамейка ўпершыню ўбачыў кондараў — самых вялікіх птахаў, з размахам крылаў да трох метраў, сапраўдных волатаў. Нездарма кондар стаў эмблемай на нацыянальным сцягу Чылі.

Самы небяспечны час для падарожжа — пачатак зімы, увесь чэрвень і палова ліпеня. Здаралася, што не адзін фанабэрысты вандроўнік, захоплены ў гарах снегападам, губляў дарогу, гінуў у прорвах або паміраў ад голаду і холаду, пахаваны пад снегам назаўсёды. Сіла і цярплівасць пакідалі падарожнікаў, калі а дзесятай раніцы арыера закрычаў: *"la cima!"* (На вяршыні!) Дамейка быў на вяршыні Кардыльераў і радаваўся ўзвіхуранай стыхіі...

Раніцай рушылі далей. Надвячоркам таго ж дня спусціліся ва ўраджайную і прыгожую даліну Аканкагуа. Горы былі пакрытыя снегам, а ўнізе — такая цеплыня, як у Літве ў спякотны ліпеньскі дзень. Ад захаду ўзняўся і апусціўся на ўзгор'і густы туман — пасланец вялікага акіяна, які абдымаў госця з далёкай Літвы. І, прыгадаўшы Стары Свет, Еўропу і Літву, Дамейка падумаў: «Не можа быць большых спакою і згоды, чым тут, за гарамі...»

Пасля трохдзённага адпачынку 8 чэрвеня рушылі далей у Какімба, да якога больш за 400 кіламетраў дарогі. З вяршыні адной высокай гары Дамейка ўпершыню ўбачыў Ціхі акіян — апошнюю рысу свайго падарожжа на захад, апошнюю вялікую з'яву.

Няма, відаць, краіны, якая была б меней падобная на Літву, чым гэта, дзе Дамейка знайшоў супакой пасля вайны на радзіме, парыжскай гаманы і цяжкога падарожжа. Толькі горы і акіян. Увесь далягляд з усходу абмежаваны Кардыльерамі з велічнымі белымі пікамі ў блакітным небе, якія ад самай раніцы да захаду сонца безупынна мяняюцца ў колерах. З захаду — неабсяжны акіян, заўсёды пакрыты лёгкім туманам; ён пеніцца ля берагоў, а пад вечар успыхвае



фасфарычнымі хвалямі, здараецца, штарміць. Спрыяльнае надвор'е, здаецца, вечна пануе ў гэтай краіне. Толькі два-тры разы на год, у зімовыя месяцы, ідуць дажджы. Неба чыстае, блакітнае, слупок тэрмометра рэдка калі ніжэй за 10 градусаў цяпла ў самы халодны ліпеньскі месяц і яшчэ радзей узнімаецца да 30 градусаў у цяню ў самы цёплы студзеньскі месяц. Калі-нікалі чуваць падземны гул з Кардыльераў, які нярэдка заканчваецца землятрусамі і крыкам напалоханых жыхароў.

І быццам не хапае гор у гэтай краіне, уздоўж берагоў Ціхага акіяна цягнецца яшчэ адзін горны масіў, паралельны Кардыльерам Паўднёвай Амерыкі, — Берагавыя Кардыльеры. А паміж імі, як у калысцы, — урадлівыя даліны. Але гэта дзівосна выцягнутая на тысячы кіламетраў калыска і на самай справе калышацца. Тут каля 20 актыўных вулканаў, пастаянныя ўнутраныя ўздрыгванні зямной кары, і можна сказаць: зямля ў Чылі літаральна трасецца пад нагамі. Бяскрыўдныя землятрусы здараюцца часта, і з імі ўжо даўно звыкліся, але здараліся тут і больш сур'ёзныя катастрофы — цэлыя гарады ператвараліся ў руіны. Але такая фізіка- геаграфічная абстаноўка і такія геалагічныя ўмовы (Дамейка ўжо прыглядзеўся да горных парод, праходзячы Кардыльеры з усходу на захад) наводзілі на думку аб багацці Чылі на многія карысныя для горнай прамысловасці выкапні. Але пасля знаёмства з краінай Дамейка быў вельмі здзіўлены: тут няма ніякіх вучэбных і, зразумела, навуковых устаноў, унікальныя прыродныя багацці ніхто не вывучаў, а медныя капальні вядуць здабычу наўздагад. Рэспубліка, якая нядаўна атрымала незалежнасць, яшчэ знаходзілася ў спячцы, у якой была пры каланіяльным панаванні Іспаніі. На яго месцы ў многіх бы апусціліся рукі, але Дамейку не засмуціла рэчаіснасць. Ён без роздуму, з вялікім энтузіязмам і неверагоднай энергіяй бярэцца за справу.

Неўзабаве ён паведамляе Міцкевічу ў Парыж аб першых выніках сваіх намаганняў: "Дом пад Горную школу з лабараторыямі ўжо пабудаваны; пачаў курс хіміі і мінералогіі; маю 20 з лішнім вучняў, усе яны слухаюць вельмі ўважліва, і кожны дослед настолькі іх захапляе, што яны вар'яцеюць ад радасці". Так проста, без гучных слоў пачаў Дамейка сваю дзейнасць у гэтай краіне. Ён не толькі стварыў Горную школу ў Какімба і сістэму навучання, заснаваную на

традыцыях Віленскага універсітэта, але і з першых дзён свайго знаходжання ў Чылі інтэнсіўна вывучаў геалогію гэтага цікавага ў геалагічных адносінах краю. Штогод падчас некалькіх месяцаў канікул у Горнай школе прафесар з Какімба ператвараўся ў падарожніка. У чылійскім адзенні — саламяным капелюшы, белым плашчы-пончa — з неразлучным геалагічным малатком ён нястомна вандруе па глухіх стежках гэтай незвычайнай краіны, якая выцягнулася з поўначы да поўдня на 4 300 км пры працягласці з захаду на ўсход у сто — трыста кіламетраў. У дарозе з ім студэнты, якія клапоцяцца аб нагружаных конях. Маладыя студэнты, як і ўвесь чылійскі народ, нашчадкі змешаных шлюбаў іспанцаў і індзейцаў, былі і здольнымі вучнямі, і надзейнымі спадарожнікамі, размаўлялі на афіцыйнай іспанскай мове, якую Дамейка, добра валодаючы французскай, засвоіў за два месяцы.

Падчас шматгадовых экспедыцый Дамейка прайшоў усю краіну ўздоўж і ўпоперак, у розных месцах шэсць разоў перасякаў цяжкадаступныя Кардыльеры,з рызыкай для жыцця даследаваў вулканы. Экспедыцыі далі яму багаты матэрыял для лабараторных даследаванняў і разведачных работ. Вынікі сваіх пошукаў ён друкуе ў парыжскім горна-геалагічным штогодніку *"Annales des Mines"*. А вынікі былі значныя. Яны паслужылі асновай для складзенай ім першай геалагічнай карты Чылі, дазволілі адкрыць багатыя радовішчы розных карысных выкапняў. Ён адкрыў сем новых відаў мінералаў, а адзін з іх, прамысловы, быў названы ў яго гонар дамейкітам — гэта злучэнне мыш'яку і медзі, арсенід медзі. Ён стаў настаўнікам першых пакаленняў чылійскіх вучоных-геолагаў, стварыў трывалы навуковы падмурак для эксплуатацыі прыродных багаццяў краіны. І ўсё гэта — у імя дабрабыту чылійскага народа. Але і гэтага яму было мала.

Ён прыгадаў выслоўе Пятра Скаргі — першага рэктара Віленскай акадэміі ў канцы XVI стагоддзя: «Калі цябе пазбавяць радзімы, ніхто не дасць табе другой такой, як яна, і лепшай; без яе спакой — хімера, багацце — беднасць, павага — нішто, нават праца бясплодная». Дазнаўшыся, што на поўдні Чылі жыве свабодалюбівы і непакорлівы індзейскі народ — арауканцы, ён рушыў у Араўканію. Яму, эмігранту вызваленчага паўстання 1831 года на сваёй радзіме, захацелася трапіць у гэты свет вольных людзей, зразумець іх душы і думкі, зазірнуць у іх вочы і сэрцы, глынуць паветра свабоды. Гэта яго гісторыка-этнаграфічная экспедыцыя, але і тут ён не забывае пра геалогію.

5 студзеня 1845 года Дамейка рушыў на поўдзень: параходам з Какімба ў Вальпараіса і далей на конях па акіянскім узбярэжжы ў бок Вогненнай Зямлі. Калі Дамейка быў ужо ў мястэчку Асорна, у доме французскага консула яму ў рукі трапіла газета *"Mercurio"* з Вальпараіса з паведамленнем, што 2 лютага ў Какімба згарэў яго дом; згарэлі хімічная лабараторыя, паперы, кнігі, экспанаты. Асабліва было шкада эмігранцкіх запісаў, якія пачаў весці яшчэ ў 1831 годзе. Спачатку гэта моцна засмуціла, але амаль адразу Дамейка засаромеўся: што тыя запісы ў параўнанні з самай вялікай для чалавека стратай — стратай Айчыны.

Дамейка вярнуўся ў Какімба, у сваю Горную школу 22 сакавіка. З неаслабнай энергіяй ён адкрывае ўсё новыя радовішчы, піша падручнікі па хіміі, мінералогіі і сваю капітальную працу "Уводзіны ў прыродазнаўчыя навукі", удзельнічае ў арганізацыі універсітэта ў Сант'яга. Як вучоны-геолаг ён набывае сусветную вядомасць, і пазней удзячныя чылійцы скажуць: "Дамейка першы знайшоў нам скарбы і навучыў імі карыстацца..."

У 1866 годзе ён прадстаўляў Рэспубліку Чылі на Парыжскай сусветнай выстаўцы ў якасці камісара. Пакланіўся там, у Парыжы, праху свайго незабыўнага сябра маладосці Адама Міцкевіча. Але пабываць на радзіме не давялося — яшчэ памяталі крывавае падаўленне паўстання 1863 года. Пасля вяртання з Францыі Дамейка быў абраны рэктарам універсітэта ў Сант'яга.

Шырока адзначалася 30-годдзе яго дзейнасці ў Чылі ў пачатку 1869 года — ён быў абраны Ганаровым чылійцам; быў надрукаваны хораша аформлены зборнік навуковых прац першага геолага Чылі. Будынак нядаўна адкрытага універсітэта імпануе архітэктурай і значнасцю. Універсітэт мае 500 студэнтаў, да 40 прафесараў, вучоную раду з рэктара Дамейкі і пяці дэканаў. Тут жа, пры універсітэце, — ліцэй з 800 студэнтамі, яшчэ ў трох сталічных ліцэях — каля 500 вучняў. Да таго ж прыватныя калегіумы, школа мастацтваў і рамёстваў, нарэшце Вышэйшая Горная школа, пераведзеная ў Сант'яга з Какімба, Батанічны сад і мноства пачатковых школ. З дзесятак тыпаграфій,

чатыры штодзённыя газеты і каля 20 перыядычных часопісаў. І ўсё гэта — справа яго рук. Дамейка стаяў ля вытокаў арганізацыі і развіцця адукацыі, культуры Чылі, ён чатыры разы перавыбіраўся і быў рэктарам універсітэта ў Сант'яга з 1866 да 1884 года.

Але галоўнае, ён заснаваў Горную школу ў Какімба і выхаваў цэлую кагорту чылійскіх геолагаў і майстроў горнай справы, стварыў геалагічную карту Чылі і яе мінеральную базу. Значэнне яго даследаванняў для геалагічнай навукі і ягонай практычнай працы для развіцця горных прадпрыемстваў можна ацаніць па стане горнай прамысловасці Чылі ў канцы XX ст. у параўнанні з паўвекавым перыядам яго дзейнасці. Дзякуючы асабістаму ўкладу Дамейкі Чылі цяпер мае унікальныя запасы медзі і малібдэну, салетры і серы, вялікія запасы жалезнай, марганцавай, свінцова-цынкавай руды, золата і срэбра, значныя запасы нафты і газу, вугалю. Яшчэ пры Дамейку, у 2-й палове XIX ст., горная прамысловасць зрабілася ў Чылі вырашальнай, а зараз 90% яе прадукцыі ідзе на экспарт у ЗША, Заходнюю Еўропу, Японію і інш. У капіталістычным свеце Чылі — самы буйны вытворца медзі, малібдэну і салетры. Такім чынам, горная прамысловасць Чылі мае літаральна ўсё для развіцця сваёй эканомікі. Краіна мае і ўласных горных інжынераў — выхаванцаў Горнага інстытута ў Сант'яга (былой Горнай школы Дамейкі ў Какімба). Дамейку нездарма лічаць заснавальнікам горнай прамысловасці Чылі.

Ён першы звярнуў увагу на каштоўнасць чылійскай салетры як эфектыўнага азотнага ўгнаення; здабыча яе была распачата ў 1844 годзе адкрытым спосабам на поўначы краіны, у пустыні Атакама. Запасы салетры ў Чылі фантастычныя! Але ў той час раён яе здабычы быў побач з мяжой Балівіі і Перу. У 1880 годзе Чылі аб'явіла ім вайну з мэтай пашырэння радовішчаў салетры і перамагла ў 1883 годзе. Чылійскія генералы перадалі лабараторнае абсталяванне і бібліятэку універсітэта горада Лімы як дар Дамейку. Вучоны, рэктар універсітэта ў Сант'яга, адказаў: "Універсітэт нарабаваных трафеяў не прымае. Прашу вярнуць рэчы назад". Ён памятаў, як абышоўся Пецярбург з Віленскім універсітэтам у 1832 годзе.

Удзячныя чылійцы годна ўшанавалі памяць аб Дамейку. Акрамя мінерала дамейкіта, імя вучонага атрымалі выкапневы слімак *Nautilus Domeycus*, чылійскі аманіт *Amonites Domeykanus*, фіялка *Viola*






*Універсітэт імя Ігната Дамейкі ў сталіцы Чылі Сант'яга.*

*Domeykiana*. Яго імем названы: пасёлак гарнякоў на Паўднёвым тропіку, горад у Араўканіі на поўдні краіны — Пуэрта-Дамейка, хрыбет у Андах працягласцю 1 000 км — Кардыльера Дамейкі, універсітэт і Нацыянальная бібліятэка ў Сант'яга. У сталіцы краіны Ігнату Дамейку ўстаноўлены помнік, у ягоны гонар выпушчаны залаты медаль, на якім словы "Навука. Праца. Бескарыслівасць". Дамейка абвешчаны народным героем Чылі. Так у далёкай паўднёва-амерыканскай краіне шануюць памяць пра выдатнага горнага інжынера-геолага, вучонага-прыродазнаўцы сусветнага маштабу, вялікага сына беларускага народа.

У 1884 годзе Дамейка наведаў Беларусь. Ён прыплыў на параходзе "Брытань" да французскага порта Бардо, потым цягніком праехаў праз Парыж, Страсбург, Вену, Кракаў і Варшаву. У Варшаве Дамейка быў увянчаны лаўравым вянком з надпісам на стужцы *"Dla piastuna cnoty i czci narodowej wњryd obcych ludyw"* (Сейбіту нацыянальнай чысціні і сумлення сярод чужых народаў). Аб яго знаходжанні ў Кракаве і

Варшве паведамлялі ўсе польскія часопісы і газеты, крыху пазней — і пецярбургскія газеты. Ён наведаў свяшчэнныя магілы бацькі ў Міры і маці ў Сачыўцах (упершыню праз 52 гады пасля яе смерці), сястры Марыі Вярбоўскай у Далматоўшчыне, дзядзькі Іосіфа ў Жыбуртоўшчыне.

За плячыма больш 50 гадоў выгнання, смутку па радзіме і бесперапыннай працы на карысць другой краіны — Чылі. Працы, якая прынесла яму сусветную вядомасць. У сваім паважаным 82-гадовым узросце Дамейка мог бы правесці свае апошнія гады, месяцы і дні на радзіме. Але яго кіпучая натура, яшчэ поўная сіл і энергіі, не дазваляла яму заставацца без любімай справы. На жаль, у родным краі ён не мог знайсці сабе занятку — яшчэ ў 1832 годзе царскія ўлады зачынілі адзіны ў Заходнім краі імперыі Віленскі універсітэт, забаранілі беларускую мову. Заняць пасаду прафесара геалогіі ў Ягелонскім універсітэце ён таксама не мог — Кракаў быў пад уладай Аўстрыйскай імперыі.

Ён едзе ў Парыж з надзеяй знайсці сабе справу на карысць Айчыны, але польска-беларуская эміграцыя канца 80-х гадоў XIX ст. ужо не магла дапамагчы яму. У роспачы ён едзе ў Італію, аб якой даўно марыў. Многа дзён правёў у Рыме, вывучаў архітэктуру вечнага горада. Будучы ў Неапалі, гэты дапытлівы 86-гадовы стары ўзняўся на вулкан Везувій. У Канстанцінопалі ён з захапленнем аглядае разрэзы горных парод у праліваx Басфор і Дарданелы, а ў Палесціне — горы на ўзбярэжжы Мёртвага мора. Пасля Егіпта і Парыжа Дамейка зноў наведвае радзіму. Тут, у Жыбуртоўшчыне каля Дзятлава, ён па памяці піша ўлетку 1888 года сваю апошнюю і вельмі цікавую кнігу “Мае падарожжы. Успаміны выгнанніка” ў 3-х тамах. І ўрэшце ў лістападзе 1888 года вырашае вярнуцца ў Чылі — краіну, якая стала для яго другой радзімай. З захапленнем сустракаюць чылійцы свайго нацыянальнага героя, усе разумеюць — Дамейка прыехаў у Сант’яга назаўсёды. Вярнуўся, нібы прадчуваючы свой блізкі скон: праз два месяцы (23 студзеня 1889 года) ён ступіў у несмяротнасць...

**Валерый ЯРМОЛЕНКА**





# *АД ЗДАНОВІЧА — ДА ЖДАНОВІЧ...*

Марасіў дожджык... Але ён не мог напалохаць двух мастакоў, якія пад вялікімі парасонамі засяроджана ўглядаліся ўдалячынь уздоўж берага і кожны па-свойму занатоўваў убачанае. Першы — у яркіх зялёна-блакітных фарбах, другі — у прыглушаных бура-мохавых.

Парачка цікаўных, хлопец і дзяўчына, сноўдалі ад мальберта да мальберта. Здзіўляліся ўслых, што пейзажы на адным і на другім палатне быццам аднолькавыя і ў той жа час розныя — у кожнага мастака свая праўда.

Падумалася, што так, мабыць, усё ў нашым жыцці: кожны бачыць рэчы па-свойму.

Маё ж уласнае ўспрыманне на той момант знаходзілася дзесьці паміж двума згаданымі творцамі. Возера Ждановічы і яго бераг я аглядала як месца адпачынку тых, хто размясціўся ў мясцовым санаторыі, назва ў якога такая ж, як у нашага часопіса — “Крыніца”.

Крыніцы-сястрыцы — новая рубрыка, прыдуманая галоўным рэдактарам, як і ідэя напісаць пра іх, не выходзіла з галавы. Нібы нейкая магічная замова, яна родніць мяне з усім, што хаваецца за гэтай назвай тут, у царстве бяроз.

Міжволі прыгадала свайго школьнага настаўніка беларускай літаратуры Івана Іванавіча Дарожку. Як ён пашкадаваў аднойчы мяне, юную вершаскладальніцу “з чыстага поля” (мая вёска размяшчаецца на пустыры ў кіламетры ад аэрадрома). Па яго меркаванні, лепш было б, каб беларуская паэтка гадавалася не каля самалётаў, а бліжэй да бяроз.



Здаецца, нарэшце зразумела, чаму. Трэба бачыць такія бярозы, як тут, каля Дома культуры санаторыя "Крыніца": густыя, стройныя, танклявыя, белыя-белыя і неверагодна высокія. Задзярэш галаву, і вяршаліны дрэў... як зялёнае неба — так густа адна каля другой месцяцца кроны.

Падзялілася сваімі ўражаннямі з намеснікам галоўнага ўрача УП "Санаторый "Крыніца" Жданавым, які больш за тры дзесяткі гадоў працуе ў беларускіх здраўніцах. Ігар Мікалаевіч выказаў шкадаванне, што немагчыма абараніць дрэвы ад вельмі частых апошнім часам ураганаў. Валіцца ад кожнага моцнага ветру па 11—12 бяроз. Ды самых прыгожых!

...Гісторыя даносіць да нас такія звесткі. Яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя, у 1905 годзе, купіўшы 20 гектараў зямлі, тут пасяліўся земскі ўрач і вядомы грамадскі дзеяч Іван Усцінавіч Здановіч. Менавіта ён першы пачаў вывучаць гэтую мясцовасць як курортную, кіруючыся здагадкай, што ў нетрах акультуранай ім зямлі ёсць мінеральныя крыніцы. Інтуіцыя не падвяла доктара. У 1912 годзе ён





аднёс злёгку саланаватую крынічную ваду на лабараторнае даследаванне, і вынік паказаў — вада мінеральная.

Пасля рэвалюцыі прыгарадныя дачы ўрача Здановіча былі нацыяналізаваны. А на іх месцы ў маі 1922 года адкрыты Дом адпачынку "Ждановічы". Колькасць адпачываючых тут не перавышала паўсотні, і размяшчаліся яны ў васьмі летніх доміках. Праз шэсць гадоў быў пабудаваны першы спальны корпус, праведзены электрычнасць, вадаправод і каналізацыя, Дом адпачынку стаў дзейнічаць не толькі ўлетку, а ўвесь год.

У 1966 годзе нароўні са "Ждановічамі" пачаў працаваць санаторый "Крыніца". Вынікі лячэння не толькі пацвердзілі, а нават пераўзышлі спадзяванні навукоўцаў і ўрачоў. За першым корпусам на 250 ложкаў у хуткім часе быў пабудаваны другі — на 260. Затым і Дом адпачынку "Ждановічы" быў перапрафіліраваны ў санаторый, а праз два гады наогул аб'яднаны з санаторыем "Крыніца", які ператварыўся ў буйнейшую здраўніцу.

Сёння яго тэрыторыя — 21 гектар. Засаджана ў асноўным









сасновым борам, дзе лёгка дыхаецца нават у спякоту. А ўздоўж вадасховішча Ждановічы распрасціраюцца сапраўды маляўнічыя краявіды.

Уражвае вадаспад на дамбе, якая раздзяляе вадасховішча і раку Свіслач. Шум вады, мноства дзікіх качак і… адчайныя юныя ныральшчыкі, а крыху збоку — заўзятыя рыбаловы.

— А пабачылі б вы, які цуд тут узімку, — апавядае мой праважаты, — 43 лебедзі, якія нікуды не адляталі, бо вада тут не замярзае амаль ніколі.

Дзесьці недалёка, таксама ў засені хваёва-бярозавага лесу, размяшчаюцца славуты санаторый для дзяцей з бацькамі “Беларусачка”, рэспубліканскі аздараўленчы комплекс на былой турбазе штаба ПВА, санаторыі заводаў “Гарызонт”, “Белвар”. Кожны з іх займае сваю нішу.

У “Крыніцы” праводзіцца комплекснае лячэнне захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, органаў стрававання і парушэння абмену рэчываў. Не абавязкова ехаць ажно ў Крым, на Каўказ або ў Прыбалтыку, што вельмі важна для тых, хто павінен прайсці курс

рэабілітацыі пасля інфаркту міякарда ці аперацыі на сэрцы. У "Крыніцы" для лячэння выкарыстоўваюцца хларыдна-натрыевая, кальцыевая і магніевая воды, лекавыя гразі з Судобальскага возера, лячэбная фізкультура, масаж, іголкатэрапія, кліматалогія, інгаляцыі з мінеральнай вадой, лекавымі рэчывамі і адварамі траў, цеплалячэнне, лячэнне радыёхвалямі, магнітным полем, псіхатэрапія, а таксама лячэбнае харчаванне.

На базе санаторыя "Крыніца" вядзецца сёння вялікая навукова-даследчая работа ў супрацоўніцтве з БелМАПА, навукова-кардыялагічным комплексам і Мінскім дзяржаўным медыцынскім універсітэтам.

У гэтым годзе свае працы апублікавалі восем урачоў, якія працуюць у "Крыніцы".

Шпацыруючы па лясных сцяжынках санаторнай тэрыторыі, не магла не адчуць станоўчае энергетычнае поле — у процівагу таму, што "навісае" за чырвонымі слупкамі, укапанымі на месцы самавольных дарог. За апошнімі — так званая "дзікая зона", пазначаная параскіданымі паўсюль пластыкавымі бутэлькамі, поліэтыленавымі пакетамі, шматкамі паперы. Гэта нічыйная тэрыторыя, але прыбіраць даводзіцца работнікам санаторыя. Пасля ўладальнікаў іншамарак, якія з'язджаюцца сюды са сталіцы…

Цікава, ці можна было ўявіць такое ў часы земскага ўрача Здановіча? І ўвогуле, ці прадбачыў ён, што праз 90 гадоў на аблюбаванай ім зямлі будзе ажно пяць мінеральных свідравін глыбінёй 370 — 500 метраў з вадой, якая не саступае па якасці "Наваміргарадскай", "Нова-Іжэўскай" і "Трускавецкай"...

**Алеся РОСЬ**





# Мікола ШАБОВІЧ

## ПАРОДЫІ

### Школьны ўспамін

**Ты ўстала ля дзвярэй
У гулкай цішыні.
Шаптала мне: "Скарэй..."
Прасіла: "Зачыні".**

**Генадзь БУРАЎКІН**

Тых школьных дзён сюжэт
Не састарэў ані.
Зайшлі мы ў кабінет
У гулкай цішыні.

Ты стала ля дзвярэй,
На шухер, і сама
Шаптала мне: "Скарэй!
Пакуль яго няма!.."

А ён — дырэктар наш —
Схаваў дыктоўкі ў сейф.

Назаўтра быў кураж:
Пяцёрачнікі ўсе!..

Студэнтам стаць я змог,
А потым стаў паэт.
Ды ў памяці збярог
Тых школьных дзён сюжэт.

І хоць я пастарэў,
Над лёсам — не зіма,
А ціхі шэпт: "Скарэй!
Пакуль яго няма!.."

## Просьба інтымнага лірыка

**Абарані мяне, мая жанчына,**
**Чаканай залацінкаю: "Ты мой..."**

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

На сэрцы зноў журботліва й трывожна,
Калі згадаю леташні раман,
Як ты сказала, што з табой няможна
Пайсці ані ў гатэль, ні ў рэстаран.

З табой пайдзі — напішуць у газетах,
Маўляў, ахвярай стала Майсюка.
Мне б лепей менш вядомага паэта —
Ну хоць бы Вераб'ёва, Марука.

Шчэ, кажуць, Толя Зэкаў — хлопец здатны
І джэнтльмен — Навуму не раўня.
Гатовы здзейсніць нават подзвіг ратны,
З такім не грэх застацца да рання.

Са мной жа, Лёня, не шукай прычыны
Застацца ані летам, ні зімой.
Знайдзі сабе ты іншую жанчыну,
Што будзе ноч шаптаць табе: "Ты — мой..."

## На рыбалцы

**Божа! Не дай прапасці,**
**Не рабі недарэкамі.**
**Пашлі рыбацкае шчасце**
**Мне і Толіку Зэкаву.**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**Шчупак сваволіў і смялеў,**
**Пасля стаміўся, небарака.**
**...Ў той вечар я за стол не сеў —**
**Па шчупаку да ночы плакаў.**

**Анатоль ЗЭКАЎ**

Напэўна, малітву слёзную
Пачуў сапраўды Ўсявышні.
Паслаў шчупака не простага —
Вялізнага — метр з лішнім.

І стаў ён прасіцца жаласна
На роднай такой гаворцы:
"Прасціце меня пажалуста,
Я свой, магілёўскі, хлопцы..."

А я на такія фокусы
Увагі, лічы, ніякай.
“Падумаеш, магілёўскі ён...”
А Толя да ночы плакаў...

## Несарамлівая дзяўчынка

**Не прасі прабачэння дарэмна:**
**Ўсё дала, што магла ты мне даць.**

**Алесь БАДАК**

Я юнак і разважны і кемны,
Хоць са мною ты ноч правяла.
Не прасі прабачэння дарэмна:
Што магла ты мне даць, то дала.

Дзякуй, дзякуй табе і за гэта.
Ведай: большага я й не хацеў.
Ты жадала стаць жонкай паэта —
Я пакуль яшчэ не звар’яцеў!

Ну, ідзі! Мне пара ўжо за вершы,
І кахання майго не прасі.
Я паэт не апошні, не першы,
Усё, што мне, ты і іншым дасі...

## Смуглявая больш не чакае

**Тут некалі мяне чакала ты,**
**Смуглявая, адзіная, харошая.**



**“Дзівак, чаму спыніўся пад акном?” —**
**Дзед-вартаўнік з цікаўнасцю падумае.**

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

Ля лазні быў яшчэ да цемнаты,
Хоць круг зрабіў за немалыя грошы я.
Тут некалі мяне чакала ты,
Смуглявая, адзіная, харошая.

Здаецца, сэрца ходзіць хадуном.
Бярэ цікаўнасць: хто ж сягоння мыецца?
“Дзівак, чаго спыніўся пад акном?” —
Дзед-вартаўнік падумае і скрывіцца.

...Ляцеў-імчаў ад гэтай лазні я,
І больш сюды ні за якія грошы я.
Ну, як жа так, каханая мая,
Смуглявая, адзіная, харошая?..

## Песня няўдачлівага прызыўніка

**Вось чаму хацеў бы я**
**паслужыць Айчыне,**
**а не швэндаць між дуб’я**
**ў невыразным чыне.**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

Не кульгавы, не рабы
І не лежабока,
Выйду раніцай — дубы
Спераду і збоку.

Невыразны маю чын —
Радавы запасу.
Я між іх — дубовы сын —
Дуба дам да часу.

Надакучыла так жыць,
І з тае прычыны
Захацеў я паслужыць
Матухне Айчыне.

Склаў заплечнік першы раз,
Пляшку ўзяў ды сала,
А Радзіма мне ў адказ
Ціха адказала:

“Паляжаў бы лепей ты
З маладой дзяўчынай
І не плёў такой лухты
Ў невыразным чыне!”


*Дуб Адама Міцкевіча на Гродзеншчыне. Калісьці пад ягонай кронай, згодна паданню, паэт ствараў паэму «Гражсына». Здымак зроблены напярэдадні скону дуба-волата. Дрэвы, як і людзі, маюць свой век...*